Яўгеніюш Забела

# Беразвечча ў службе Бога і ў моцы дэманаў



*Пераклад з польскай Міхала Гіля*

Глыбокае
2011

**Забела Яўгеніюш**

**Беразвечча ў службе Бога і ў моцы дэманаў. –**
**Глыбокае: РЦ «Барміца», 2011. – 92 с.**

*Кніга ўяўляе сабой пераклад з польскай мовы працы Яўгеніюша Забелы пра гісторыю і трагічны лёс мястэчка Беразвеч, што зараз з'яўляецца часткай Глыбокага.Пераклад зроблены краязнаўцам з Пастаў Міхалам Гілём.*
*Для тых, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю.*

Наклад 299 асобнікаў

**Вёрстка** Зьміцер Лупач
**Карэктар** Таццяна Смоткіна
**Дызайн вокладкі** Юры Калбасіч
**Адказны за выпуск** Міхал Гіль

На1-й стар.: Базыльянскі манастыр на малюнку Я. Драздовіча 1926 г.




# Ад аўтара

*Захаванае ў памяці мінулае*
*робіцца сучаснасцю.*
Тадэвуш Катарбіньскі

Беразвечча – малое паселішча ў Дзісненскім павеце, які складае паўночна-ўсходнюю частку Віленскага ваяводства, размяшчаецца ў краі, аб якім паэт казаў, што ён *закінуты і сонны*. Насамрэч надта часта яго наведвалі віхуры войнаў, якія прыносілі спусташэнне і пакуты.

Гэты абшар называўся *парогам смаленскай брамы*, праз якую праходзілі незлічоныя маскоўскія напады ў накірунку Балтыкі і паходы Баторыя да Масквы. Заліў яго *патоп маскоўскі*, а потым *шведскі*, пустошыла *Grande Armee* Напалеона, якая рухалася на Маскву, таптала армія Тухачэўскага, якая ішла *на Аршаву*, нарэшце шматразова пракатваўся праз яго каток I і II Сусветных войнаў. Нарэшце тут разыграліся драматычныя падзеі, якія паказалі пачварнае аблічча вар'яцкіх палітычных сістэм Еўропы, што сталі ганьбай XX стагоддзя.

Гісторыя Беразвечча, малой мясцовасці, па сутнасці традыцыйнага культавага аб’екту, не праславілася багаццем здарэнняў, аднак утрымлівае шмат матываў, якія аб’ядноўваюць з акружаючым яго краем. Яны датычаць матэрыяльнай і духоўнай культуры, веравызнання, грамадскіх, палітычных і гаспадарчых спраў. Скончылася ж ашаламляльным фіналам, які практычна азначае вынішчэнне першапачатковага паселішча.

Ужо некалькі дзесяткаў гадоў няма Беразвечча на карце. Яно сталася часткай разбудаванага адміністрацыйнага цэнтра раёна – Глыбокага, горада няўдзячнага, які не ўпамянуў Беразвечча хаця б назвай вуліцы.

Гэта праца прадстаўляе шэраг фактаў і праблем, звязаных з дзеямі Беразвечча. Шмат з іх патрабуе далейшага высвятлення, што – хочацца спадзявацца – будзе магчыма ў будучым.

Беразвечча, як і ўсе Крэсы Усходнія Рэчы Паспалітай, не належыць зараз да Польскай дзяржавы, але падзеі, што тут адбываліся, застануцца назаўжды часткай гісторыі нашага народу і дзяржавы. Памылкай было б не памятаць аб гэтым. *Гэта гісторыя агульная: наша і іншых народаў,* якія стагоддзямі ўваходзілі ў склад шматнацыянальнай дзяржавы, паўстаўшай з палітычнага саюзу Польшчы і Вялікага княства Літоўскага пад уладай Ягелонаў. Не варта замоўчваць гэтага факту або памяншаць яго значэння.

# РАЗДЗЕЛ I
# РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ

## Фундацыя Юзафа Корсака

Беразвечча было малым паселішчам, што ляжала ў 3 км на поўнач ад горада Глыбокае ў Дзісненскім павеце. Абедзве мясцовасці знаходзіліся на ўскраінах возера Вялікага, званага ўсюды Беразвецкім возерам. Ад поўначы Беразвечча абмяжоўвала малое азярцо Падлазнае.

Тут некалі праходзіла арыенціровачная і досыць хісткая мяжа паміж Полацкім ваяводствам і Ашмянскім паветам Віленскага ваяводства, якія належалі да Вялікага Княства Літоўскага. Адначасова гэта была мяжа, якая аддзяляла ўладанні шматлікага і значнага роду Корсакаў у Полацкім ваяводстве і ўладанні не менш багатага і заслужанага роду Зяновічаў, які атрымаў ад Ягайлы вялізныя наданні паміж Прыпяццю і Дзісной. Аб тых землях вяліся спрэчкі паміж гэтымі родамі-суседзямі, таксама як збройныя сутыкненні паміж Вялікім княствам Літоўскім і Масквой, якая перлася на захад з мэтай апанавання ўзбярэжжа Балтыкі.

Як пасяленне Беразвечча можна лічыць за адну з найстарэйшых мясцовасцяў Дзісеншчыны. Яна ўзгадвалася ўжо ў XIV стагоддзі ў сувязі з пацверджаннем нерухомасці княжаскага роду Корсакаў у прывілеі полацкага князя Андрэя Альгердавіча. Потым хронікі аднатавалі спаленне Беразвечча маскоўскімі войскамі ў 1519 годзе ў час аднаго з іх паходаў на Літву. У сярэдзіне XVI стагоддзя Беразвечча ўзгадваецца як мястэчка, якое налічвае 40 жыхароў і валодае царквой св. Міхаіла з перадачы Дзмітрыя Корсака, мастаўнічага полацкага, уладальніка навакольнай тэрыторыі. Паводле сведчанняў да часу Брэсцкай уніі ў 1596 года мела знаходзіцца тут праваслаўная пустэльня і можа быць ужо існавала брацтва св. Ануфрыя.

Крыху больш паведамленняў аб гэтым паселішчы, якое паслядоўна заставалася ва ўладанні Корсакаў, з'явілася толькі ў першай палове XVII стагоддзя.

19 жніўня 1637 года Юзаф Львовіч Корсак, мсціслаўскі ваявода і дзісненскі стараста, уніяцкага веравызнання, зрабіў фундацыйны акт на карысць айцоў базыліянаў, якія прынялі ўнію з рымскім касцёлам. Сваё рашэнне растлумачвае патрэбамі апекі над навакольным насельніцтвам, якое ўчыняе ў вялікай колькасці грахі, і, між іншым, *жыве без шлюбаў, не ведае малітваў, не хрысціць сваіх дзяцей*. Святыню і кляштар фундаваў Корсак для

хрысціян уніяцкага веравызнання, якія складалі, напэўна, большасць жыхароў навакольных вёсак, бо вядома, што ў блізкім Глыбокім парафія каталіцкага касцёла (фундацыі таго ж Корсака) складалася з 30 шляхецкіх сем'яў і 40 – плябейскіх – астатнія былі *русінамі грэчаскага абраду*.

На патрэбы базыліянаў Корсак прызначыў свой маёнтак Беразвечча разам з вёскамі: Абруб, Мядзёлы, Мушкаты, Забелле, Дзенюшы і Заграднікі, а яшчэ маёнтак Вяржбілава ў Віцебскім ваяводстве, а таксама 915 дзесяцін лесу *з дачай* у Адамаўццы Барысаўскага павету. Трэба дадаць, што той запіс ануляваў усе папярэднія падарункі яго продкаў на вышэйпералічаную маёмасць. Больш за тое, ставіў абдараваным умову, што ў выпадку прыняцця да свайго кляштару схізматыка (ці праваслаўнага), ці калі б законніцы (манашкі) праводзілі распуснае жыццё, то кляштар і ўся памянёная маёмасць павінны быць адпісаны каталікам. Тэстамент Корсака быў зацверджаны каралём Уладзіславам IV 30 красавіка 1638 года пацверджаны Сеймавай Канстытуцыяй у 1647 годзе. Сам Юзаф Корсак памёр у 1643 годзе. Перад гэтым выказаў волю, каб яго пахавалі ў каталіцкім касцёле ў Глыбокім, які сам пабудаваў. Не аднесліся з павагай да гэтай просьбы, у выніку чаго дайшло да розных здарэнняў, аб чым будзе пазнейшая размова.

Таксама пачатак дзейнасці базыліянаў не адбыўся без перашкод. Адразу пасля смерці ваяводы пасялілася ў Беразвеччы яго сястра Лукомская з мужам, не пагадзіўшыся на адданне маёмасці законнікам (манахам). Мусілі яны *гвалтаўнікоў і заезднікаў сілай з Беразвечча выганяць*. Зроблена было гэта пад кіраўніцтвам ксяндза Габрыэла Календы, які асабіста браў удзел у *адабранні той фундацыі, падстаўляючы сябе пад стрэлы захопнікаў*. Потым кс. Календа на тым месцы, дзе стаяў двор, пабудаваў вялікім коштам кляштар і царкву, *...манахаў туды пасяліў і сам меў рэзідэнцыю, для павагі тытуляваў сябе архімандрытам беразвецкім*.

Гедэман звяртае ўвагу, што хутка пачаліся працяглыя сутычкі базыліянаў з глыбоцкімі кармелітамі. Натрапілі яны на базыліянскае возера Астроўна, дзе *незаконна ловячы рыбу, кляштарныя сажалкі рыбай напоўнілі*. На гэтым не скончылася і не раз ішлі наперакор з сабою тыя ордэны, асабліва калі размова хадзіла аб так званых *увaходах і выхадах* да лесу і азёр. Здаецца, што стараной больш актыўнай былі кармеліты, якія знаходзілі нават уласнасць суседняй з імі глыбоцкай каталіцкай парафіі.

## Новы кляштар і касцёл

Збудаваныя Календай кляштар і святыня былі драўлянымі будынкамі. Амаль сто гадоў гаспадарылі базыліяне і ўзрастала іх заможнасць, затым прыступілі да будоўлі іншага, прыстасаванага да новых часоў аб'екту. Тады былі вельмі неспакойныя часы на гэтым абшары, поўныя здарэнняў, багатых на войны і знішчэнні. Найперш край заліў *маскоўскі патоп*, і гарэла суседняе Глыбокае. Пасля змагання з усходнім суседам прыйшла Паўночная вайна. Шведскія і маскоўскія войскі пустошылі Надзвінне. Гарэлі Друя, Дзісна і радзівілаўская частка Глыбокага. Да таго ж, зараза, пануючая некалькі гадоў на велічэзных прасторах краю, прыбыла ў 1710 годзе на Дзісненшчыну. Набліжаўся канец палітычнага і грамадскага гніення Рэчы Паспалітай, які павінен быў дайсці да першага падзелу.

Нягледзячы на гэта, ішло наперад развіццё кляштарнай гаспадаркі і ўзрастала пругкасць ордэна. Калі б было іначай, не дайшло б да пабудовы новых будынкаў з каменя: вялізнага кляштара і гіганцкага касцёла.

Несумненна, гэта належыць прыпісаць здольнасцям і арганізацыйнай спраўнасці асобаў. якія стаялі на чале кляштара. У канцы першай паловы XVIII стагоддзя супрыёрам быў айцец Базыль Палетыла, генерал ордэна з 1739 – 1743 гг; адразу пасля яго – айцец Тэадозі Канячэўскі, адначасова правінцыял літоўскі. З пазнейшых вядомыя а. Іраклій Карпінскі (каля 1767 г.), а. Гяронім Антэцкі (каля. 1774 г.), некалькі гадоў пазней – а. Амброжы Сынгаеўскі.

Пасля 1748 года базыліяне ўжо мелі тут навіцыят (паслушніцтва). Скончыла яго шмат знаных асобаў. Між іншым, у 1766 годзе вядомы потым як біскуп суфраган Адрыян Галаўня, а ў 1780 годзе манаскія абяцанні ўскладаў тут Цэзары Каменьскі, пазней віленскі прафесар астраноміі, настаяцель ляшчынскі і правінцыял.

Пабудова кляштару і касцёла пачалася ў 1756 годзе, аб чым сцвярджаюць усе. Тым часам па-рознаму падаецца год заканчэння. Сапуноў падае 1760 год, Марэлоўскі 1762 ці 1763 год (часткова нават 1767). Вераксін лічыць, што пабудова кляштар і касцёл будаваліся да 1763 года, а oratorium дабудавалі ў 1776 годзе. Казанскі лічыць, што ўсе пабудовы існавалі ўжо ў 1764 годзе, а Гюнтэр, што канчатковы выгляд аб'ект атрымаў толькі ў 1779 годзе.

Касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Беразвеччы быў пабудаваны ў стылі *віленскага барока*, як разнавіднасць

позняга барока, якое таксама называлі ракако. Гэты стыль сфарміраваўся ў ахопе ўздзеяння Вільні, уплываючага на тэндэнцыі ў сакральным будаўніцтве. На яго аздабленне вырашальны ўплыў мелі польскія мастакі-архітэктары, якія выкарыстоўвалі познебарокавыя італьянскія, у меншай ступені, нямецкія ўзоры.

Асаблівасцямі *віленскага барока* былі стройныя, спічастыя, шмат'ярусныя, звужаныя ў гару вежы на фасадзе, а таксама, як іншы элемент, характэрныя згінанні і *хваляванні* перпендыкулярных паверхняў. Гэта манера была пачата Барамені ў Рыме ў XVII стагоддзі. Марэлоўскі звяртае ўвагу, што *ракаковымі ў нас аказваюцца найчасцей толькі неістотныя дадаткі, арнаменты і прадметы мэблі*.

Такога роду рысы выступілі ў шэрагу касцёлаў, якія будаваліся каля сярэдзіны XVIII стагоддзя ў Вільні, між іншым, у касцёлах Місіянераў, Аўгусціянаў, св. Катажыны, а таксама на абшары ўплыву віленскага асяродку. Вядома, што яны добра рэпрэзентаваны на тэрыторыі Наддзвіння: у Полацку, Друі, Германавічах, Лужках, Забелах, Глыбокім і Беразвеччы, як увогуле ўдалымі і прыгожымі называе Марэлоўскі ўніяцкую катэдру ў Полацку (архітэктар Б. Касіньскі), касцёл дамініканцаў у Друі (архітэктар Параццо, апалячаны італьянец), а таксама другі касцёл дамініканцаў у Забелах у Дрысенскім павеце, што ў 15 км ад Дзісны (архітэктар кс. Л. Грынцэвіч). Аднак сцвярджае, *што базыліянскі касцёл у Беразвеччы складае адно з шэдэўрамі той, уласна адзінай, разнастайнасці*.

Быць можа справай выпадку стаўся той факт, што два, а нават тры касцёлы, якія рэпрэзентуюць *віленскае барока*, знаходзіліся ў 3 км адзін ад аднаго. Падчас калі касцёл айцоў-кармелітаў у Глыбокім адносяць да першай рэалізацыі *віленскай школы*, касцёл у Беразвеччы, як сцвярджае М. Карповіч, быў *апошняй рэалізацыяй, справай падсумавання ўсяго развіцця*.

Існуе вельмі шмат апісанняў архітэктуры таго касцёла, якія ўяўляюць захапленне тых, хто яго аглядаў. З эканоміі месца далучыць можна два меркаванні Марыюша Карповіча: *"Імпануючы памерамі і спічастым фасадам ён выглядаў, як вялікі белы бісквіт, як парцэлянавая цацка, паднесеная да манументальных памераў. Найвышэйшая пахвала – 9 выпукласцяў, 8 увагнутасцяў, падобна як каменкаватасць прамежкавай, капрызнай масы шчыту, або залежнай цыліндрычнай, таксама увенчанай шчытам глыбы прэсбітэрыя"*.

## Клопаты з аўтарствам

Нягледзячы на праведзеную ў свой час шырокую дыскусію, да цяперашняга дня, як мне здаецца, без канчатковага адказу застаецца пытанне: хто быў аўтарам беразвецкага касцёла. Прафесар М. Марэлоўскі называе гэта *захапляльнай загадкай*. Прафесар Пётр Багдзевіч, архітэктар, які пасвяціў шмат прац даследаванню касцельнага будаўніцтва ў Дзісненскім павеце, паважна браў пад увагу італьянскага архітэктара Франчэска Плацыдзі. Аднак тая гіпотэза, па чым можна судзіць, адвалілася пасля адкрыцця ў 1940 годзе дамовы, заключанай у 1753 годзе паміж базыліянамі і віленскім архітэктарам і скульптарам Тобіяшам Дзідрэйштэнэм вел Дзідэрстэйнам, якая абавязвала яго пабудаваць касцёл у Беразвеччы на ўзор іншага рэкамендаванага касцёла. А Марэлоўскі лічыць, што ўласна факт задзейнічання Дзідэрстэйна ўказвае, што гэта мог быць звязаны з ім ксёндз Л. Грынцэвіч – аўтар касцёла ў Забелах.

Прафесар Станіслаў Лорэнц, які востра крытыкуе публікацыі прафесара Марыяна Марэлоўскага і яго ацэнкі віленскіх будынкаў, выказвае ў справе аўтарства беразвецкага касцёла наступнае: *"Ім ёсць несумненна Ян Кшыштаф Глаўбіц – вялікі творца прыгожых касцельных і свецкіх будынкаў у Вільні і раёне ўплыву гэтага цэнтра ў 1737 – 1767 гадах... Яны з'яўляюцца вяршыняй дасягнення архітэктурнага стылю ракако на літоўска-беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага... Глаўбіц ёсць адзіным архітэктарам такой меры на тамтэйшых землях. Безумоўна, ён праектаваў, сачыў і кантраляваў, але не праводзіў работ на месцы... Ян Тобіяш Дзідэрстэйн, гэта, відавочна, будаўнік... Калі працаваў у Беразвеччы – то толькі ў такой якасці"*. Лорэнц прыпісвае Глаўбіцу аўтарства таксама іншых касцёлаў на той тэрыторыі, між іншым касцёл дамініканцаў у Забелах - Валынцах, пачаты ў 1749 годзе, і ў Мсціслаўлі.

Вядома, што вонкавая архітэктура беразвецкага касцёла пратрывала без істотных змен да трыццатых гадоў XX стагоддзя. А тым часам унутраны выгляд змяніўся неўзабаве пасля скасавання ўніі ў 1839 годзе і прыняцця святыні праваслаўнымі. Цягам наступных гадоў не раз змянялася функцыя ўсяго аб'екту, а з ім і кіраўніцтва, пры тым даходзіла да крадзяжу розных элементаў убранства. Пасля поўнага закрыцця кляштару ў 1874 годзе святыня засталася практычна без нагляду, і магчымасці спусташэння яе былі яшчэ большыя. Аб гэтым шмат узгадвае Вераксін, праваслаўная духоўная асоба, які кіраваў аб'ектам з 1905 года. Несумненна, да больш значных змен дайшло, калі на

пачатку XX стагоддзя закончылі пераробку святыні, маючы на мэце надання ёй характару праваслаўнай царквы. Нас, несумненна, цікавіць яе першасны выгляд з базыліянскіх часоў, ці стан найбольш да таго набліжаны. Таму мэтазгодным здаецца выкарыстанне апісання, сапраўды, нібы дылетанцкага, але паходзячага аб сведкі святыні ў першых гадах XX стагоддзя Вераксіна, хаця ён выказвае выразна апантанасць у фармуляванні антыпольскіх і антыкаталіцкіх абвінавачванняў, якія абапіраюцца на відавочныя памылкі разумення і, напэўна, злой волі. Далей пазнанні аб аб'екце, які нас цікавіць, цалкам задаволіць прафесіянальнае, аналітычнае апісанне прафесара Пятра Богдзевіча, які апіраецца на даследаванні, праведзеныя ім у 1928 годзе і прадстаўленыя ў 1938 годзе на навуковым пасяджэнні секцыі гісторыі мастацтва Таварыства прыяцеляў навукі ў Вільні.

## Святыня ў апісанні Вераксіна

*"Царква беразвецкага кляштару пад назовам Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі пабудавана ў плане крыжа паводле сярэднявечнай моды. ...Яе алтар быў накіраваны на поўнач, пакрытая была чырвонай медзю... Над кожным заканчэннем чатырох старон крыжа ўзносіліся франтоны, увенчаныя крыжамі. Ад франтону над выхадам узносіліся высокія вежы на 66 1/4 локця.., закончаныя васьміканцовымі крыжамі з усёбачачым вокам у сярэдзіне. Калоны і пілястры на вежах мелі іанійскую архітэктуру.*

*Інтэр'ер святыні аздабляла паліхромія на пурпуровым тле, на сценах, а асабліва на скляпенні, дзе італьянскі мастак прадставіў пяць сцэн з жыцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Прадстаўлялі яны: Ахвяраванне, Дабравешчанне, Унебаўзняцце, Апеку і Каранацыю.*

*З часоў уніі ў святыні знаходзілася 7 алтароў, якія, апрача галоўнага, былі размешчаныя ў бакавых лініях і пры калонах, якія падтрымлівалі яе скляпенне. Тыя месцы, дзе стаялі алтары, аздаблялі калоны і пілястры з капітэлямі ў іанійскім і карынфскім стылі з гіпсавымі постацямі святых мужоў і анёлаў. Іканастас галоўнага алтара, пануючы над усім астатнім, прыцягваў увагу кожнага наведвальніка. Пабудаваны ў выглядзе выгнутага лука, ён складаўся з 12 калон і пілястраў, якія размяшчаліся па абодвух баках царскіх варот, над якімі дамінавала вялікая ікона, якая ўяўляла нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі. Тыя калоны апіраюцца на базы і прыступкі і злучаюцца значна вышэй царскіх варот выгнутым грымсам з белага мармуру, які стварае род*

*узнятай заслоны. У часы ўніі па абодвух баках абразу Н.П.М. былі размешчаныя пры калонах чатыры вялізныя скульптуры, з якіх дзве ўяўлялі Іахіма і Ганну, якія стаялі перад абразом у набожным засяроджанні, а дзве астатнія – Захарыя ва ўрачыстых шатах, які ўказвае на абраз, і Эльжбету, якая трымае ў правай руцэ посуд з двума галубамі. Дзе падзеліся тыя скульптуры, хто зняў яе ў гады злучэння з уніяй (а быць можа і раней) не ўдалося мне даведацца сярод людзей, не знайшлі таксама нідзе пісьмовых сведчанняў аб тым варварстве, аднак мяркую, што яны былі перададзены католікам, якія заплацілі за тыя скульптуры добрыя грошы, прызначаючы іх для нейкага адлеглага касцёла.*

*Загінула без следу таксама ікона майстэрскай італьянскай работы, якая ўяўляла Найсвяцейшую Панну Марыю ў таварыстве Збавіцеля і Яна Хрысціцеля. Мяркуем, што і тыя іконы спрытна “захапалі” католікі, паколькі ў іх да той пары не згасла прага што-небудзь “дастаць” з той прыгожай святыні, пра якую заўзята прапаведуюць, што нібыта “гэта быў касцёл, а расійскі ўрад яго забраў”, (“меркаванне” – які ж пераконваючы довад крадзяжу! – Я.З.).*

*Увесь эфект такога выканання іканастасу дапаўняе тое, што над дзвюма крайнімі калонамі да скляпення святыні ўзносяцца дзве групы пілястраў з сядзячымі на іх анёламі, з якіх два сваімі рукамі як бы падтрымлівалі скляпенне святыні, а паміж пілястрамі над царскімі варотамі на контуры хмар прадстаўлены Святы Дух у постаці голуба”.*

Не пазбягаючы прадстаўлення ўстаўленых да тэмы адступленняў Вераксіна, належыць указаць на відавочны недахоп логікі ў яго аргументацыі і сумнеўную маральнасць, якія вынікалі, напэўна, з пякучай варожасці да іншага народа і іншай рэлігіі, што вядзе яго да выкарыстання беспадстаўных абвінавачванняў. Падобная апантанасць выяўляецца праз заўвагі Вераксіна наконт іканастасу і царскіх варот там, дзе іх насамрэч няма. Значыць, можа варта прыпомніць, што іканастас у праваслаўнай царкве *выступае, як сцяна, пабудаваная з мноства ікон, аддзяляючая алтар ад рэшты святыні. Яна змяшчае трое дзвярэй, з якіх сярэднія носяць назву царскіх варот*.

Алтарны дэкор у беразвецкім касцёле не мае ніякіх рысаў іканастасу. Вырашалі ж яго ўстаўленыя паўкруглыя калоны і апоры, якія замыкалі прэсбітэрыю з боку апсіды, ствараючы цэласнасць барокавай алтарнай выставы. Таксама гэта вынікае са здымка, як і малюнка, прадстаўляючага гарызантальную праекцыю ў мяжы прэсбітэрыя. Сам прэсбітэрый узвышаецца ча-

тырохпрыступкавымі сходамі над узроўнем нефа і аддзелены ад яго балюстрадай. Дзе ж зараз той іканастас? Няма сумнення, што першасная архітэктурная закладка не прадбачыла яго, акрамя таго змяшчалі агульныя элементы праваслаўнай царквы (музычныя хоры, амбон і інш.).

Аднак з многіх крыніц вядома, што была спроба ўбудавання іканастасу, прапанаваная ўніяцкім мітрапалітам Гераклівушам Одравонз – Лісоўскім, гербу Вожык, які быў нейкі час супрыёрам у Беразвеччы. Загадаў ён пабудаваць прыгожы іканастас з каванага, пазалочанага жалеза, эфект якога магла ўзмацніць чырвоная тафта, падложаная з боку алтара. Ініцыятыву Лісоўскага тлумачыць Вераксін поглядамі, якія схілялі да захавання чыстаты даўніх грэчаскіх абрадаў. Аднак прапанова Лісоўскага не прынятая, і іканастас быў адсунуты на прадпісанне арцыбіскупа Базыля Лужыньскага. Паводле Вераксіна гэта мела на мэце *"пашырэнне алтара"*, што не гучыць пераканаўча. Ва ўсялякім разе гэта здарэнне пацвярджае, што іканастасу першапачаткова не было. Добра вядома, што не было яго таксама ў наступныя гады, калі святыня знаходзілася ў распараджэнні праваслаўных, а пабудавалі яго нанова ў 1908 годзе пад кіраўніцтвам Вераксіна.

У 1776 годзе, калі супрыёрам быў Мшэніцкі, з левага боку касцёла дабудавалі араторыюм – спецыяльную капліцу, якая выконвала функцыю закрысціі. Сягала яна ад апсіды да палавіны даўжыні святыні, мела шырыню каля 7,5 метра і злучалася з прэзбітэрыем і нефам, праз калідор пры левай сцяне касцёла.

Касцёл не меў вялікіх званоў. На апошнім ярусе правай вежы знаходзіўся гадзіннік саліднай работы, які накручвалі раз у два тыдні. Выбіваў ён гадзіны і чвэрць гадзіны пры дапамозе асобных званоў. Функцыянаваў да паловы XIX стагоддзя, а калі канчаткова сапсаваўся, званы знялі і падвесілі на званіцу.

## Кляштар і яго гаспадарка

Кляштар быў двухпавярховым мураваным будынкам, які нагадваў у гарызантальнай праекцыі скажоную літару Н. Меў сціплыя, але стыльныя шчыты, набліжаныя да архітэктуры касцёла, акрамя таго дэкор яго быў банальным. Пакрываў яго двухсхільны дах. Келлі манахаў былі пабудаваныя ў амфіладавай манеры. Келлі старэйшага знаходзіліся на другім паверху ў адным з вуглоў і мелі від на пляц перад касцёлам і фруктовы сад. Кляштарныя гаспадарчыя будынкі, як вынікала са старых апісанняў, былі добра развязаныя і прыстасаваныя для вядзення вялікай

гаспадаркі. Апрача мураваных будынкаў было яшчэ 12 драўляных дамоў, якія часткова належалі кляштару, а часткова да яго штатнай службы. Меў кляштар уласную гарэльню (вінакурню), два млыны: вадзяны і прыводзячы ў рух валамі, а таксама пры прылягаючай побач дарозе, заезны дом, які прыносіў значныя прыбыткі. З паўднёвага боку ўсе пабудовы атачаў парк і фруктовы сад, а ўвесь аб'ект – мур з брамамі. На ход муроў і размяшчэнне брам у апошнія гады Рэчы Паспалітай указвае эскіз Гоздавы.

Нерухомасць кляштару ў той час складаў ключ фальварку Беразвечча. Сам фальварак налічваў 25 валок зямлі, і вёскі, якія належалі да яго: Забелы, Бурсы, Абруб і Дзмітраўшчына, якія налічвалі разам 66,5 валок і 368 душ. Другі фальварак Мікулічы меў 13 валок і вёскі: Жабінка, Станулі, Латушкі, Муляры, Казюкі, Арэхава – разам 51 валоку і 280 душ. Разам беразвецкая маёмасць налічвала каля 160 валок зямлі з 650 падданымі абодвух палоў. Пасля першага падзелу адышла разам з Віцебскім ваяводствам маёмасць у Вяржбілаве, якая налічвала 855 падданых мужчынскага полу і вялікую колькасць зямлі, лугоў і лясоў.

Актывы кляштару папаўнялі грашовыя квоты, а менавіта: у шамбеляна Бялікевіча 4815 рублёў, у харунжага Нарвіцкага 600 рублёў, у Бжастоўскіх 300 рублёў, у падчашага полацкага Еліаша Качаноўскага 1500 рублёў, у Станіслава Буйніцкага 300 рублёў, у Казіміра Бялікевіча 1500 рублёў, Дамініка Корсака 1500 рублёў, у Томаша Тэрлецкага 1200 рублёў, разам выходзіла 14415 рублёў. Акрамя гэтага кляштар збіраў гадавыя прыбыткі: за арэнду – 464 рублі, з шынкоў 245 рублёў, з парафіі 50 рублёў, з працэнтаў 150 рублёў, разам каля 900 рублёў. Сельскагаспадарчых прадуктаў і збожжа кляштар не прадаваў, яны прызначаліся на ўласныя патрэбы.

## Школа

Дзейнасць школы, распачатая ў 1773 годзе, мела сферу элементарнага навучання. Лукашэвіч піша: *“Хаця ж беразвецкія айцы базыліяне былі багатымі, толькі Адукацыйная Камісія прымусіла іх да адкрыцця школы”*. Аднак аказалася, што ўласная школа прынесла кляштару найвялікшы розгалас і значэнне. Прымаючы ўказанні Камісіі на працягу некалькіх гадоў, яна дасягнула вельмі значнага ўзроўню. Мураваны школьны будынак быў узведзены за мурам, які атачаў кляштар з усходняму боку. Акрамя таго базыліяне пабудавалі яшчэ пару камяніц для студэнтаў і апекуноў-выкладчыкаў.

Інспектарская праверка школы, праведзеная ў 1782 годзе, сцвярджала, што ад 5 гадоў ужо існаваў канвікт (інтарнат) для 20 вучняў, разам у трох класах іх было *больш за сотню*; часткова ўжывалі кнігі, рэкамендаваныя камісіяй. Вывучалі нямецкую і французскую мовы. На чале школы стаяў айцец Партэнівуш Тэрлецкі, супрыёр кляштару.

У 1783 годзе рэктарам быў а. Максіміліян Вілчынскі, вядомая асоба, будучы генерал ордэна, а прэфектам а. Юльян Пятровіч. Вучняў было 133. Наступныя праверкі адбываліся праз кожныя два гады.

Праверка 1785 года рэктарам застала а. Амброжы Сынгаеўскага, супрыёра кляштару, а прэфектам быў а. Юзаф Фішэр. Класаў ужо было 6.

У 1787 годзе кіраўніцтва кляштару і школы заставалася ранейшым, у 6 класах было 102 вучні.

У 1789 годзе праверку праводзіў кс. Ян Эрдман, канонік інфлянцкі, генеральны інспектар. У кіраўніцтве кляштару і школы зменаў не адбылося. Было 6 класаў і 100 вучняў, у навучанні кіраваліся статутамі Адукацыйнай Камісіі і ўжывалі яе падручнікі. Праверка сцвярджала, што навучаюць: права, фізіку, матэматыку, вымаўленне і мовы: нямецкую, французскую, славянскую і лацінскую.

У перыяд Тарговіцы, II і III падзелаў Польшчы, а таксама Касцюшкаўскага паўстання інспектарскія праверкі не адбываліся.

# РАЗДЗЕЛ II
# ПАД РАСІЙСКАЙ АКУПАЦЫЯЙ

## Упадак і ліквідацыя школы

Пасля трэцяга падзелу можна было чакаць змен у грамадстве і баяцца, што будзе рэалізаваны дэвіз цара Аляксея Міхайлавіча з перыяду патопу маскоўскага: “*не можа тут* (г. зн. на Літве) *быць касцёлаў, уніятаў і жыдоў*”. Цяжка было спадзявацца на ўтрыманне школ з польскай мовай навучання і было малаверагодна, каб праводзілі яе базыліяне. Акрамя таго, першыя распараджэнні Кацярыны II указвалі на блізкую расправу з уніятамі. Аднак пасля яе кароткага панавання наступіў пэўны перыяд адлігі і ў беразвецкай школе, хаця, з малымі зменамі, навучаліся па праграме Адукацыйнай Камісіі.

У 1797 годзе адбылася інспектарская праверка з боку Віленскага Універсітэту. На чале школы стаў а. Меркуры Рымашэўскі і прэфект Вінцэнт Бельскі. У 6 класах аднатавалі рэкордную лічбу ў 149 вучняў. Надыход зменаў прадвяшчала скасаванне навіцыяту (паслушніцтва) і прылучэнне кляштару да Полацкай архідыяцэзіі.

Як падае Вераксін, *школа яшчэ ў канцы таго самага стагоддзя была перароблена ў публічную 4 – класную (schola publica)*.

У беразвецкай школе, падобна, як і ў найбліжэйшай у павеце Лужэцкай школе піяраў, вучылася ў асноўным выключна шляхецкая моладзь. Там пераважала моладзь рымска-каталіцкага вызнання, у Беразвеччы, верагодна, – уніяцкая моладзь, аднак канкрэтных дадзеных на гэту тэму не маем. Абедзве школы працавалі ў сістэме Камісіі Народнай Адукацыі і прадстаўлялі зблізаны навуковы ўзровень. З часоў Рэчы Паспалітай абсальвенты (выпускнікі) базыліянскай школы таксама паступалі ў Віленскі Універсітэт, дзе кляштар утрымліваў 20 стыпендыятаў. Расійскія ўлады скасавалі гэтую практыку, а Вераксін выражае погляд, што з-за таго, каб уніяцкая моладзь, якая паходзіла ў большай ступені з рускага шляхецкага роду, праз немажлівасць вучобы ў тым універсітэце не магла *далучыцца да польскіх шэрагаў*.

Настаўніцкі састаў школы, што заставаўся з часоў Рэчы Паспалітай, пачынаўся скарачацца, новыя кадры не прыходзілі. Выкладчыкамі ў далейшым былі духоўныя ці свецкія асобы, пераважна выпускнікі ўніверсітэту. Сярод прэфектаў некаторыя мелі навуковыя ступені доктара тэалогіі ці філасофіі. Духоўныя, за выключэннем прэфекта, не атрымлівалі зарплату, адзінае – по-

ўнае ўтрыманне ад кляштару. Прэфект атрымліваў 200 рублёў ад ураду і ўтрыманне ад кляштару, а свецкія настаўнікі па 200 рублёў.

Урадавая палітыка, прымяняючая націск на грамадства, каб прымусіць пакінуць унію, негатыўна ўплывала на школу, якая губляла дынаміку і перспектывы. Перыяд напалеонаўскага паходу на Маскву, выклікаў шмат ускладненняў у жыцці грамадства Наддзвіння, у тым ліку і ў кляштары. Працу школы перарваў пажар кляштару ў 1820 годзе. Аднак мусіць уступленне на расійскі трон у 1825 годзе бязлітаснага цара Мікалая I, а потым паўстанне 1831 года схіліла ўлады на канчатковую ліквідацыю базыліянскай школы. Па рэкамендацыі міністра ўнутраных спраў Блудава ў 1834 годзе Грэка-Уніяцкая Калегія закрыла свецкую школу ў Беразвеччы.

Адначасова ўрад пастанавіў выкарыстаць Беразвечча для патрэб праваслаўя. Была створана 4-х класная павятовая духоўная школа, якая ў 1834 годзе перайшла пад адміністрацыю Літоўскай духоўнай семінарыі. З гэтага часу кляштар замест фінансавання стыпендыятаў Віленскага Універсітэту, павінен быў утрымліваць у сябе ў інтэрнаце 20 дзяцей беднага праваслаўнага духавенства, а таксама аплаціць працу настаўнікаў і іх харчаванне. Коштам перахвачаных праз казну маёнткаў (відавочна польскіх, пасля паўстання 1831 года) кляштару прызначана на патрэбы школы 1454 рублі і дадаткова на ўтрыманне 4 настаўнікаў 670 рублёў. Акрамя таго, як падае Вераксін, *вучняў было няшмат і школа доўга не ўтрымалася*. Таксама нядоўга існавала школа *дзячкоў* (псаломшчыкаў), у якой кляштар утрымліваў 12 хлопцаў. Адтуль вынікае, што спробы стварэння ў Беразвеччы асяродка, які б фарміраваў кадры для патрэб праваслаўнай царквы, не мелі поспеху.

## Ліквідацыя ўніі і ўпадак кляштару

Ужо ўзгадвалася пра цяжары напалеонаўскай вайны для краю, праз які прайшла Вялікая Армія. Кляштар таксама меў у іх свой удзел і, як аказалася, таксама сваю легенду.

Залічаны ў 1812 – 1815 гадах да пастаўшчыкоў прадуктаў для расійскай арміі, цягам многіх наступных гадоў павінен быў дамагацца пра вяртанне запазычанасці за прадукты, рэквізаваныя для войска. Калі ж французскія войскі стварылі ў Глыбокім сваю базу забеспячэння, ваколіцы засталіся аголеныя ад жывёлы, і кляштар таксама не быў ашчаджаны. Быць можа, Напалеон аплаціў кляштару за гэта легендай. Знаёмячыся з ваколіцамі, на-

ведаў беразвецкі аб’ект, захапляўся ім і яго размяшчэннем. Ён сказаў: *“Калі б гэта месца належала б мне, загадаў бы збудаваць воднае злучэнне з Дзвіной і такім чынам з той малазначнай мясцовасці зрабіў бы адно з самых найбольш цікавых і прыгожых мясцін Еўропы”*.

Пасля ваеннага досведу ў 1820 годзе кляштар наведаў грозны пажар. Дзякуючы дзейнасці супрыёра а. Тадэвуша Маеўскага і сродкам брацтва святога Ануфрыя ўдалося да 1830 года адбудаваць кляштар і яшчэ адрамантаваць іншыя будынкі, у тым ліку і школу.

Каля 1830 года ў Паўночна-Заходнім Краі ўзмацнілася пераварочванне ўніятаў да праваслаўя і рыхтавалася ліквідацыя ўсіх уніяцкіх інстытуцый. Ужо ў 1827 годзе ў II Дэпартаменце Грэка-Уніяцкай Калегіі пастанавілі ліквідаваць 57 базыліянскіх кляштараў і стварыць за іх сродкі тры новыя духоўныя семінарыі. Датычыла гэта таксама і Беразвечча, дзе паўстала духоўная школа, якая падпарадкоўвалася не ордэну базыліянаў, а толькі біскупу.

Адначасова працягвалася вострая крытыка ўніяцкага духавенства. У тым духу піша Вераксін: *“Ва ўніяцкіх кляштарах, дзякуючы паблажлівасці прыёраў, а таксама хітрых, нярэдка праяўляючых насілле ў паводзінах, палякаў, будучых у краі гаспадарамі сітуацыі, нягледзячы на вяртанне гэтага краю пад расійскі герб.., была вялікая колькасць манахаў, якія яўна спрыялі лаціне, больш падобных да ксяндзоў, чым грэка-ўніятаў, якія ахвотна практыкавалі лацінскія абрады і ўжывалі ў размове польскую мову”*.

На кіраўнікоў кляштараў і манахаў расійскія ўлады на парадку дня прымянялі ціск, схіляючы да адмаўлення асноў сваёй веры. Гэта выклікала ў іх заняпад духу і страту актыўнасці. Такога роду настроі і аб’явы, сігналізаваныя праз візіцёраў, тлумачыліся як довад *загнівання пад лацінскім уплывам*. Такія думкі выказвалі ў 1833 годзе візіцёры Беразвечча. У парафіях супраць уніятаў і іх пробашчаў арганізоўваліся брутальныя палітычныя акцыі.

З цягам часу дзеянні ўраду і праваслаўнай іерархіі не засталіся безвынікoвымі. Аршанскі біскуп Базыль Лужынскі, інспектуючы беразвецкі кляштар у 1836 годзе, пацвердзіў *павольнае знікненне* лацінскіх парадкаў, між іншым, выдаленне з царквы лавак і званка і адпраўленне набажэнстваў з паклонамі. Пасля той інспекцыйнай праверкі ў лісце да ўніяцкага мітрапаліта хваліць здольнасці і дзелавітасць узгаданага ўжо супрыёра Тадэвуша Маеўскага, якія датычыцца *кіравання школьным беразвецкім кляштарам*, і ён нават выступае аб *спецыяльнай узнага-*

*родзе*. Гэта былі, як здаецца, намаганні, што мелі мэту падпарадкаваць праваслаўю здольную асобу. У дадзеным выпадку – цалкам безвынікова, бо Маеўскі хутка *падаў … на найвышэйшае імя* (ці да цара) *прашэнне аб дазволе перайсці на рымскі абрад*.

Акрамя ідэалагічных клопатаў матэрыяльная сітуацыя кляштару на пачатку трыццатых гадоў была заўсёды неблагая. У 1832 годзе ён меў яшчэ 200 валок зямлі і 21050 рублёў капіталу.

У 1835 годзе ў сувязі з пануючай у наваколлі гарачкай быў у стане ўтрымліваць для лячэння навакольнага насельніцтва лекара і фельчара, і нават дапамагаць яму, раздаючы шмат рознай жывёлы. Інспекцыя ў тым жа годзе пацвярджала наступныя рэсурсы кляштарнай гаспадаркі:

| | |
|---|---|
| Збожжа markerрознага | 611 чвэрці |
| Гарэлкі | 469 вёдзер |
| Наяўнасці | 447 рублёў |
| Коней | 12 |
| Быдла рагатага | 219 |
| Цялят малых | 31 |
| Авечак мерыносаў | 91 |
| Коз | 6 |
| Свіней і парасят | 58 |
| Гусей | 51 |
| Індыкоў | 37 |
| Качак | 33 |
| Курэй | 94 |

Пасля ліквідацыі школы і ўвядзення новых парадкаў пачала надламвацца частка манахаў, асабліва адукаваных і моцна звязаных са сваёй рэлігіяй. Іх лёс быў прадвызначаны актам ліквідацыі ўніі і прыняцця яе вернікаў у праваслаўную царкву. Падпісалі акт у Полацку ў 1839 годзе ўніяцкія біскупы: Юзаф Сямашка, Базылій Лужынскі і Антоній Зубко. У той час частка манахаў рашыла пакінуць Беразвечча і адпраўлялася ў другія кляштары, частка абдумвала кінуць сваё манаства, ці як суперыёр Тадэвуш Маеўскі, рашалася на прыняцце рымскага абраду.

Вераксін прызнае, што з 14 асобаў, навучаных, якія калісьці мелі кваліфікацыю для высокіх пасадаў ва ўніяцкіх біскупствах, у 1847 годзе засталося толькі двое, а братоў манахаў толькі 16 асобаў і гэта лічба надалей змяншалася. Калі быў адабраны фальварак Мікулічы, фінансавыя рэсурсы хутка паменшалі, і ўжо ў 1842 годзе ён быў залічаны да другараднага і пачаў атрымліваць дапамогу з дзяржаўнай казны ў колькасці 2200 рублёў. Пасля ліквідацыі духоўнай школы не хапала гэтага нават на ўтры-

манне ў належным стане толькі самой святыні, не лічачы іншых мураваных будынкаў, якія пачалі ператварацца ў руіны.

У 1873 годзе ў кляштары заставалася толькі 7 манахаў. Праўда, у той год Гаспадарчая Адміністрацыя пры Святым Сінодзе выдзеліла 10 000 рублёў з сінадальных сродкаў на рамонт кляштара і святыні, але падлікі паказвалі, што сам храм вымагае 30000, таму рамонт нават не пачыналі, а грошы палажылі ў банк.

У тым крытычным 1873 годзе інспектаваў Беразвечча генерал-губернатар Патапаў і, бачачы сумны стан кляштару, звярнуўся да оберпракурора Святога Сінода з прапановай яго ліквідацыі, па прычыне крайняй нястачы, малой колькасці манахаў і *нездавальняючай маральнасці некаторых*. Напэўна, гэта азначала трыманне асноў свайго абраду.

Тым часам шмат кляштарных зямель атрымалі сяляне ў рамках вызвалення з-пад прыгону.

Вырашаны пазней продаж лясной дачы Адамаўка быў рэалізаваны ў 1876 годзе і прынёс 8550 рублёў, але ўрад тую суму прызначыў на рамонт кляштару ў Барунах. Тым часам выдзеленыя перад гэтым 10 000 рублёў на рамонт Святы Сінод накіраваў на ўтрыманне і пабудову царквы ў Заходнім Краі.

17 верасня 1874 года сілай *найвышэйшага дазволу*, з якім выступіў Св. Сінод, кляштар у Беразвеччы быў зачынены. 28 лістапада таго ж года святыня прыпісана да глыбоцкай царквы, а кляштарныя землі да аднаго з кляштараў Ковенскай губерніі.

З таго часу ў апусцелай святыні набажэнства адбывалася раз у год, у свята апосталаў Пятра і Паўла 29 чэрвеня, а ў астатні час была зачынена. У кляштарных будынках сталі жыць арандатары зямлі, а яго рухомая маёмасць засталася без нагляду, была раскрадзена або знішчана.

Варта пагадзіцца са спагадай, якую выражае Вераксін, пішучы, што *ў часах занядбання санктуарыя, пры недахопу дысцыпліны і адказнасці, загінула немалая колькасць вельмі вартасных і цікавых дакументаў і актаў, якія датычацца жыцця і гісторыі краю на працягу двух стагоддзяў, і адначасова раскрадзена бібліятэка, якая валодала кнігамі на шматлікіх мовах, аб чым сведчаць рэляцыі мясцовых землеўладальнікаў і нават паноў-католікаў.*

Можна толькі дадаць, што тое занядбанне і раскраданне адбывалася пры расійскім кіраванні ў нармальных пакаёвых умовах і запытаць, ці не адбылося гэта таму, што тое двухсотгадовае жыццё і гісторыя таго краю былі сцісла звязаныя з гісторыяй Рэчы Паспалітай, а не Масквы, і ці не гэты факт уласна быў пры-

чынай бестурботнасці ўлады, калі не наўмысных паводзінаў. Адначасова, той самы аўтар з жалем піша, што ў адчыненым у 1856 годзе музеі старажытнасці ў Вільні дамінавалі экспанаты, прысвечаныя *польскаму панаванню, а не хапала довадаў расійскай праваслаўнай мінуўшчыны*. Можна на тую ўвагу адказаць, што палякі не хаваюць расійскай прысутнасці *ў тым краі*, ні яе прычын, ні характару. Не замоўчваем таксама факту, што ў часы Рэчы Паспалітай аж да 1696 года ў адміністрацыі і заканадаўстве Вялікага Княства Літоўскага панавала старабеларуская мова, і што той мовай былі напісаны Статуты Літоўскія, экзэмпляр якой узяў з бібліятэкі беразвецкага кляштара біскуп-апостат Юзаф Сямашка.

Аж да канца стагоддзя будынкі кляштару і касцёла заставаліся без нагляду і цягам апошняй чвэрці стагоддзя далёка прасунулася іх эрозія. Сапуноў, які аглядаў аб'ект у дзевяностыя гады, напісаў, што *ад былой школы засталася куча друзу*.

Тым часам летам 1900 года арцыбіскуп Літоўскі і Віленскі Ювеналій, інспектуючы цэрквы Дзісненскага павету, зацікавіўся беразвецкім кляштарам. Вераксін мяркуе, што занядбаны аб'ект зрабіў вялікае ўражанне на іерарха, бо *быццам дакараў расійскі народ і ўрад за нядбалыя адносіны да такога прыгожага гістарычнага помніка, а таксама дастаўляў палякам нагоду гаварыць аб рэлігійнай абыякавасці расіян і вандалізме*. Нельга адмовіць у недахопе логікі такому разважанню.

Намаганні арцыбіскупа прывялі да заключэння Святога Сінода, якое было выдадзена ў канцы студзеня 1901 года, каб у кляштарных будынках залажыць жаночы манастыр і адчыніць пры ім жаночую настаўніцкую школу II ступені. Яна мелася выхоўваць настаўніц пачатковых і царкоўнапрыходскіх школ *на цвёрдых асновах айчыннай веры і расійскага нацыяналізму*.

Спачатку на рамонт будынкаў прызначылі 10 000 рублёў, а потым, калі выявілася, што кляштарныя будынкі не падыходзяць пад школу, выдзелена яшчэ 26 000 рублёў на новую школу.

Прыёршай манастыру была прызначана ігумення Сергія, напраўленая з Арлоўскай губерні разам з 6 сёстрамі-*паслушніцамі*. Потым на пасаду *казначэя* (гаспадарчая сястра-касір) таксама адтуль прыбыла сястра Вінцэнціна.

Гэты малы жаночы персанал распачаў цяжкую задачу па рамонту і прыстасаванні будынкаў да новых патрэб. *У кляштарным будынку падлогі амаль не было, вокны і дзверы знішчаныя, печы разбітыя, коміны патрэскаліся, запханыя смеццем і варонымі гнёздамі. Усё, што можна было вырваць, забралі. Спа-*

*чатку ўсе пасяліліся ў адным памяшканні. Небяспечна было ўваходзіць у святыню, бо скляпенне ўжо пачало распадацца. Капліца таксама не падыходзіла да адпраўлення набажэнстваў, з яе і пачалі капітальны рамонт*.

Яе паверхня была павялічана ўдвая, часткова коштам калідора. Такім спосабам атрымалася злучэнне касцёла з кляштарам, бягучага ад бабінца праз капліцу. У капліцы пабудавалі іканастас, прыстасаваўшы яго да адпраўлення праваслаўных набажэнстваў. У снежні 1902 года асвяцілі яе ў гонар Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

Доўга праводзіўся рамонт кляштарных будынкаў, кошт яго склаў каля 35 000 рублёў, бо аказалася, што прызначаных сродкаў не хапіла, і 6 снежня 1902 года быў праведзены дзяржаўны збор грошай.

Таксама закончаны адбудовы часткова знішчаных муроў агароджы ўсяго аб'екту, на што быў выкарыстаны матэрыял са зруйнаваных будынкаў. Пры тым змяніўся іх ход і размяшчэнне ўваходных брамаў. Гэта можна сцвярджаць, параўноўваючы эскіз Гоздавы і малюнак у справе Сапунова са здымкам 1914 года і эскізам Богдзевіча.

Кляштарная зямля была ўзятая арандатарам да непасрэднай апрацоўкі, закупілі рабочых каней і быдла, даведзены да парадку агароды. Колькасць манашак павялічылася да шасцідзесяці.

У першы год манастыр не меў святара. Потым прыбыў а. М. Ячыноўскі, прызначаны па пасаду кіраўніка школы.

У верасні 1905 года на месца а. Ячыноўскага прыбыў а. Аляксандр Вераксін. Ён быў на Дзісненшчыне вядомай фігурай, бо знаходзіўся ў плыні здарэнняў, якія разыграліся ў Расіі пасля рэвалюцыі 1905 – 1907 гадоў. Ён знаходзіўся на баку манархічных і нацыяналістычных груповак, вядомых як *чорная сотня*. Яны дэманстравалі народна-рэлігійны фанатызм і працавалі на карысць захавання царскага самаўладдзя, праваслаўя і расійскасці. Вераксін, як адзін з кіраўнікоў таго руху ў павеце, быў у 1907 годзе абраны ў Трэцюю Думу, разам з Аляксеем Сапуновым, настаўнікам класічных моваў у Віцебскай гімназіі, аўтарам манаграфічных прац, якія датычыліся і Наддзвіння. Публікацыя Вераксіна *"Беразвецкі манастыр"*, падобна, як і працы Сапунова, заключаюць антыпольскія і антыкаталіцкія фармулёўкі і прыдумкі, галаслоўныя абвінавачванні. У *"Беразвецкім манастыры"* гэта шматразова дэманструецца, абвінавачваючы польскі элемент у захопе кляштарнай маёмасці, без падачы якіх-небудзь доказаў, не шкадуючы антыпольскіх фармулёвак і абвінавачван-

няў. Гаворыць аб паляках, як *ужываючых хітрасць і гвалт*, аб іх *згубных дзеяннях, аб сецях і джунглях лацінства, аб злой мінуўшчыне краю пад уплывам паланізму і каталіцызму і г.д.*

У красавіку 1906 года ігуменння Сергія рашыла пачаць рамонт унутры храма. Прызначанай святым Сінодам дапамогі ў суме 3500 рублёў ледзь хапала на разборку старога цаглянага скляпення і пабудову новага з бетону. Закончылі ў 1907 годзе, на далейшы рамонт прыйшлося збіраць ахвяраванні ў Санкт-Пецярбургу і Маскве. На працягу зімы 1908 – 1909 гадоў сталяры змайстравалі ўсе складныя часткі драўлянага іканастасу.

Пасля атрымання ад Святога Сіноду наступных 12 000 рублёў дапамогі вясной 1908 года прывезлі з Вільні пазалотніка. Працуючы ўсё лета разам з двума памочнікамі, ён пазалаціў іканастас, галовы на ўсіх калонах і карнізы. У захапленні Вераксін напісаў: *“Трох’ярусны іканастас разной работы аказаўся вельмі прыгожым”*. Нарэшце меў свой сапраўдны іканастас, пазалочаны, так што не заставаўся упэўненым, ці яго справа выкананая ў іншым стылі гарманізуе з алтаром, зробленым у стылі барока, ці таксама ёсць на фоне стылёвага дэкору агульным целам. Абразы да іканастасу намалявала манастырская паслушніца Антаніна Ітулевіч. Калоны і пілястры пакрылі алейнай фарбай.

Летам 1909 года адрамантавалі вонкавыя сцены святыні. *Ужывалі матэрыялы добрай якасці, усе вонкавыя работы рабіліся на цэменце, таму рамонт аказаўся трывалым, гарантаваным на доўгі час*.

Аднак не грэлі надта доўга месца ў Беразвеччы тыя новыя паслушніцы. Выбух сусветнай вайны ў 1914 годзе ўсё змяніў. 2 верасня 1915 года манашкі былі эвакуіраваны на ўсход разам з расійскімі ўцекачамі з Літвы, якія сабраліся ў Глыбокім пад напорам наступаючых нямецкіх войскаў. Адразу знялі ўсе званы са святынь Глыбокага і Беразвечча. Цікава, што незадоўга перад гэтым у Беразвеччы мелася знайсціся цэнная бібліятэка віленскага губернатара Вяроўкіна, які шукаў тут сваю прыхаваную маёмасць.

Працягам некалькіх наступных гадоў праз Беразвечча і ваколіцы прайшла бура вайны і рэвалюцыі. Пасля той буры, згодна з умовай Рыжскага міру, Беразвечча стала знаходзіцца ў межах адроджанай Рэчы Паспалітай.

# РАЗДЗЕЛ III
# II РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ

## Клопаты пра святыню

Праваслаўныя манашкі, перапужаныя набліжэннем нямецкіх войскаў, былі эвакуіраваны ў 1915 годзе на ўсход, але, калі фронт стабілізаваўся, то вярнуліся ў Беразвечча. Заставаліся тут да заканчэння Рыжскіх перамоваў, пасля чаго ў 1921 годзе выехалі ў Вільню. Тым часам беразвецкая святыня была перададзена каталіцкаму касцёлу.

Вядома, што чыніліся спробы перадачы аб'екта якому-небудзь манаскаму ордэну (праўдападобна бліжэй да прыняцця былі езуіты), але канчаткова ніхто не вырашыў. Пэўны час кватаравала ў кляштары войска, II дывізіён 23 палка гродзенскіх уланаў.

Калі ў 1925 годзе стварылі Корпус Аховы Памежжа (КАП) і пачала існаваць патрэба знаходжання адпаведнага аб'екту для размяшчэння камандавання палка, было прынята рашэнне аддаць кляштар на патрэбы гэтай адзінкі. Тым часам уланаў перавялі ў Падброддзе.

Кляштарным будынкам гэта рашэнне стварала карысную сітуацыю, бо былі праведзеныя адпаведная кансервацыя і рамонт. Тым часам касцёл надалей заставаўся без гаспадара, падвергнуты сітуацыі, у якой знаходзіўся перад другой паловай XIX стагоддзя. Рэлігійныя патрэбы навакольных жыхароў, як католікаў, так і праваслаўных, былі цалкам забяспечаны вялікімі і прыгожымі святынямі ў Глыбокім. Зрэшты вырашылі, каб ён быў прыпісаны да Глыбоцкай парафіі, як гарнізонны касцёл імя св. Пятра і Паўла. Кіраваў ім і адпраўляў штотыднёвую імшу для жаўнераў гарнізона ксёндз-дэкан Антоні Зянкевіч. Сапраўды, не было арганаў, але з аказіі вельмі значных урачыстасцяў іграў гарнізонны аркестр, што дадавала набажэнствам асаблівы характар.

Аднак у трыццатыя гады спынілі адпраўляць там набажэнствы, і жаўнеры з Беразвечча хадзілі кожную нядзелю ў касцёл у Глыбокае.

З таго, што распаведзена ў папярэднім раздзеле, вядома, што касцёл, застаўшыся ва ўладанні праваслаўных манашак, перад 1910 годам быў грунтоўна адрамантаваны, і, сярод іншага, быў убудаваны іканастас, якога раней не было, паколькі святыня была пабудавана на ўзор рымскага касцёла. Той іканастас праўдападобна быў пастаўлены ўжо ў пачатку дваццатых гадоў, па-

колькі бракуе на гэту тэму інфармацыі. Ва ўсялякім разе ён бачны на здымку 1916 года, а тым часам яго няма на здымку за 1928 год. Гэткім метадам быў адкрыты выкананы ў стылі барока дэкор алтара і прэсбітэрыя, таму тая частка святыні мела выгляд базыліянскіх часоў. Няма сумнення, што прафесар Пётр Богдзевіч, архітэктар, які дасканала ведаў гісторыю касцёла і ў 1928 годзе даследваў яго, а потым падрабязна апісаў, таксама знаў пра іканастас. Аднак у апублікаванай у *"Бюлетэні Гісторыі Мастацтва"* яго працы пра беразвецкі касцёл няма ніякай згадкі пра яго існаванне.

Хаця і не была парафіяльным касцёлам і функцыянавала ў абмежаваным дыяпазоне, зберагала беразвецкая святыня даўнія традыцыі, якія сягалі да базыліянскіх часоў, гучна святкуючы дзень сваіх патронаў св. Пятра і Паўла. 29 чэрвеня сюды з'язджалася мноства людзей з навакольных мястэчак і вёсак: з Удзела і Мосара, з-пад Докшыц і Шаркоўшчыны. З парафіяльнага касцёла св. Троіцы ў Глыбокім ішла шматлюдная працэсія з кс. дэканам Зянкевічам у Беразвечча. У палове дарогі працэсія затрымлівалася на кароткую малітву ля капліцы св. Язафата. Пасля святочнага набажэнства грамадскасць накіроўвалася ў ларкі і крамы, хтосьці раскладваўся пры дарозе і за кляштарным мурам на лугу над ручаём. Там адбываліся таварыскія спатканні, спажываліся пачастункі. У крамах можна было набыць розныя харчы, ласункі і святочныя сувеніры, ці выйграць бляшаны гадзіннік, калі папугай выцягне шчаслівы лёс.

## Каплічка святога Язафата

Вышэй узгадвалася прыдарожная каплічка св. Язафата. Гэта была старая пабудова, гісторыя якой сягала да корсакаўскіх часоў. Звязвалася з ёю легенда, якая аддавала духам даўніх часоў і складаных рэлігійных стасункаў гэтага краю, якая далей з гадамі больш напластоўвалася вельмі праўдападобна, альбо і сапраўды здарыўся такі выпадак.

Пачаць трэба ад сцвярджэння цалкам рэальнага факту, што ў сваім тэстамэнце Юзаф Корсак выказаў волю, каб яго пахавалі ў каталіцкім парафіяльным касцёле, якога ён быў фундатарам. Паводле легенды, меўся таксама існаваць іншы тэстамэнт, у якім Корсак прызначаў 1000 валок зямлі таму кляштару, пры якім будуць пахаваны яго парэшткі.

За жыццё бываў у абодвух кляштарах, аднак памёр у карміліцкім, і там яго пахавалі. Як распавядае легенда, базыліяне ў той час сумелі каварна выкрасці цела фундатара і з ім хутка на-

кіраваліся ў Беразвечча. У палавіне дарогі іх дагнала пагоня кармелітаў і пасля зацятай бойкі адабрала парэшткі, але пры гэтым згінуў іх манах Язафат. Для ўвекавечвання гэтага здарэння і ахвяры жыцця аднаго з іх, пабудавалі кармеліты на месцы крывавага сутыкнення мураваную капліцу пад назвай святога Язафата. Аднак невядома, ці атрымалі потым кармеліты гэтыя 1000 валок.

Пасля канфіскацыі кармеліцкага кляштару каплічка перайшла да праваслаўных. Адначасова хацелі ўтапіць у бліжэйшым возеры фігуру святога, якая знаходзілася ў капліцы. На пачатку XX стагоддзя праваслаўныя манашкі, якія валодалі беразвецкім кляштарам, правялі рамонт каплічкі, змяніўшы яе вонкавы і ўнутраны выгляд.

Вопіс, які паходзіць з 1931 года, прадстаўляе наступнае: памеры 4,2 х 4,14 м, вышыня 4,2 м. На даху, які накрыты жалезнай бляхай, крыж вышынёй 1,5 м. Дзверы драўляныя "штыкетнікавыя" 2,3 х 2,9 м, над дзвярыма жалезнаяваконная рама з шыбамі 40 х 30 см. Насупраць дзвярэй алтар вышынёй 1 м, над ім у нішы абраз Маткі Боскай Чэнстахоўскай памерамі 40 х 30 см у чорнай драўлянай раме. У той нішы перад гэтым павінна была знаходзіцца фігура св. Язафата.

Спачатку каплічка выглядала зусім іначай. Задняя сцяна была вышынёй 2 м, а бакавыя сцены толькі 1 м. Абапіраліся на іх дзве акругленыя калоны. На іх і на задняй сцяне стаяў дах. Дык вось гэта была свайго роду адкрытая ад параднага ўваходу альтанка.

Каплічка перажыла шмат войнаў і жыццёвых бураў, у тым ліку дзве сусветныя войны. Усе былі прывязаны да яе, як да сціплага ды звязанага з краявідам і людзьмі рэлікту старажытнасці. Была зліквідавана пасля 1958 года Савецкай уладай.

Штогадовы фэст з'яўляўся прыемным перажыткам для грамадскасці, аднак факт, што прыгожы касцёл цэлы год бываў зачынены і ахоўваецца войскам, увогуле не будзіў ухвалу. З'явіліся думкі, што святыня не мае належнай прафесійнай кансервацыі і падлягае эрозіі. У 1928 годзе віленская штодзённая прэса апублікавала галасы чытачоў, якія крытыкавалі каталіцкае духавенства і ўлады за недахоп цікаўнасці да аб'ектаў, якія нішчацца. Двума гадамі пазней Юзаф Гюнтэр змясціў у "Тыгодніку ілюстраваным" вялікі артыкул, які прыпамінаў гісторыю *"Беразвецкай перліны"* і прызываў да выратавання яе ад пагрозы знішчэння.

Быць можа пад націскам публічнай думкі ўжо з 1929 года распачаліся кансервацыйныя і забяспечваючыя захаванасць пра-

цы. Яны прынеслі нават адкрыццё паліхраміі сцен, выкананых у стылі ракако. Прафесар Лорэнц піша, што *ў наступныя гады работы прасуваліся павольна, але ўвесь калектыў быў забяспечаны*.

Належыць з разуменнем аднолькава прыняць непакой і знерваванасць абывацелей, якія ўвесь час бачылі святыню, якая стала без ужытку і нішчылася, як і недаход фінінсавай магчымасці дзяржавы, якая адраджалася пасля гадоў няволі, якую ў сітуацыі сусветнага крызісу суправаджалі непамерныя патрэбы.

## Помнік у апісанні прафесара Богдзевіча

У 1928 годзе прафесар Пётр Богдзевіч па ўказанні Установы Польскай Архітэктуры Варшаўскай Палітэхнікі правёў памеры касцёла ў Беразвеччы, выканаў шэраг малюнкаў і фотаздымкаў, апісаў актуальны стан помніка, а таксама выканаў спробы аднаўлення першапачатковага стану. Таксама акрэсліў сваё стаўленне да розных згадак яго старажытнасці.

Вопіс прафесара Богдзевіча, змешчаны у *Бюлетэні Гісторыі Мастацтва* (1968 ,№3–4) разам з малюнкамі і здымкамі, дазволіў вычарпальна пазнаць актуальны стан аб'екту.

Адсылаючы да першакрыніцы глыбей зацікаўленага чытача, ніжэй прадстаўляем у вялікім скароце архітэктурны вобраз касцёла і кляштара, што ўсталяваны дзякуючы прафесару. Можна судзіць, што разам з апісаннямі, што паходзяць з расійскіх крыніц, прадстаўленых у папярэднім раздзеле, вобраз помніка і яго гісторыя аказаліся паўнейшымі.

Касцёл ёсць прадаўгаватым будынкам у выніку таго, што сярэдні неф, утвараючы рэгулярны квадрат, павялічвае арку аднолькава як у шырыню, так і ў даўжыню – адну з боку ўвахода, другую ад паўкруглага закончанага прэсбітэрыя. Тую самую вышыню маюць трансепты, утвараючыя з нефам крыж у гарызантальнай праекцыі, з-за чаго паміж плячамі крыжа ўтварыліся як-бы два бакавыя нефы.

Дахі на ўсіх чатырох канцах верхняга крыжа гарызантальнай праекцыі замыкаюць шчыты, прычым тыльны ўвенчаны подпісам, стварае ў гарызантальнай праекцыі паўкруг. З левага боку да будынку касцёла прылягае араторыюм (капліца), злучаная калідорам, які праводзіць з бабінца касцёла да кляштарнага будынка. Акрамя таго, касцёл мае яшчэ два ўваходы: галоўны, на восі будынку ў фасадзе трэцяй закрыстай да араторыюма. Над бабінцам знаходзіцца музычны хор. Хор таксама мае араторыюм.

Даўжыня касцёла складае 39,5 м, найбольшая шырыня – 27,5 м (разам з араторыюм 35 м). Сярэдні неф мае шырыню 12,5 м, а вышыню – 15 м. Вышыня вежаў ад зямлі да падставы крыжа – 41 м, да вышэйшага заканчэння – 43 м.

Касцёл асвятлялі вокны, размешчаныя ў трох ярусах: ніжнім – на вышыню дзвярэй у сенцах пад музычным хорам, у араторыюме, закрыстай і калідоры, сярэднім – над музычным хорам і ў заглыбленні трансептаў, а таксама верхнім – побач паніжэй галоўнага карнізу, які навокал акружаў касцёл.

Да архітэктуры касцёла належыць сем алтароў: галоўны ў выглядзе вольна стаячай алтарнай выставы, два бакавыя ў пераходзе да прэсбітэрыі з нефа, два пры апорах і два ў трансепце пры вонкавых сценах.

У вонкавай архітэктуры ўтрымліваецца характэрная працяглась карнізу, які абягае навокал увесь гмах, таксама як цокаль. Архітраў і фрыз захаваныя фрагментарна.

Вежы падзелены на пяць ярусаў. Ніжні па вышыні роўны франтоннаму шчыту, далей наступае другі мураваны, шлем, верхні мураваны маленькі карніз і шлем, увенчаны крыжам.

Сярэдні шчыт фасаду ўвенчаны меншым уласным шчытом – на ім спачывае крыж. Тыльны шчыт адпавядае вышыні ніжніх ярусаў вежаў, дамінуе над ім толькі сігнатурка. Шчыты на трансептах маюць простую развязку, падобна, як і ў тыльным шчыце пілястры не маюць капітэль.

Характэрнай з’яўляецца архітэктура сценных пралётаў, якая ў гарызантальнай праекцыі выражаецца паслядоўна простымі і крывымі лініямі, што дае ўражанне як бы паверхні сцен хвалявания. Адначасова хваляванне карнізаў зацірае класічная канструкцыя, якая зложана з апораў і бэлечных перакрыццяў, і дае ўражанне плаўнасці і мяккасці.

Апісваючы архітэктуру таго будынка, Богдзевіч сцвярджае, што *масіўнасць і дынамізм… утвараюць наўпрост нязвыклую маляўнічасць усяго будынку...* Падобныя прыкметы выказвае ашчадны арнамент у стылі, паводле Богдзевіча, *збарбарызавана-барокавым* звонку і барокавым унутры.

Падобна, а можа нават мацней чым у архітэктуры фасада, адчуваецца ўражанне масіўнасці і дынамізму ў архітэктуры інтэр’ера, напрыклад, у нішах музычнага хору. Паверхня сцяны застаецца выгнутай і выкраенай, што па меркаванню Богдзевіча, абумоўлена артыстычным тэмпераментам творцы, а не ўтылітарнай патрэбай.

Падобныя прыкметы маюць і алтары, хаця тут, галоўным чы-

нам, калі размова ідзе аб галоўным алтары, размешчаным у свабоднай прасторы, не праблемай было б затушаваць канструкцыі падпор і бэлечнае перакрыццё.

Выгляд галоўнага алтара вельмі цікавы. Ён двухпавярховы. Ніжні паверх складаецца з шасці калон і шасці апор, аздобленых пілястрамі. Разам узятыя, яны ўтвараюць шэсць груп, на якіх спачывае поўнасцю бэлечнае перакрыццё, зложанае з архітраву, фрызу і карнізу. І тут наступае хваляванне – крайнія групы апор ніжэйшыя, і бэлечнае перакрыццё выгінаецца ніжэй. Другі паверх створаны з двух груп пілястраў і двух калон.

Усё, што адкрывалася (дзверы, вокны), выразанага тыпу або не аблямаваныя.

Арнаментацыя інтэр’еру ашчадная. Яе вырашае дэкарацыя ў стылі ракако, у якой галоўную ролю іграе раслінны арнамент і ракавіны (на капітэлі), а таксама вазоны, аблокі, праменні і галоўкі анёлаў. Частка арнаментаў на капітэлі пілястраў, а таксама на алтарах пазалочаная, усе падпоры на алтарах памаляваныя алейнай фарбай.

Дзверы галоўнага парталу з густам аздоблены арнаментам у стылі ракако. Архітэктура араторыя не носіць асаблівых мастацкіх прыкмет. Пад касцёлам знаходзіцца падзямелле, асветленае з боку тыльнай сцяны. Увесь будынак унутры і звонку памаляваны ў белы колер.

Кляштарны будынак мае два паверхі, а ў гарызантальнай праекцыі ўтварае скажоную літару Н. Размяшчэнне пакояў і калідораў – анфіладнае. Шчыты, якія замыкаюць двухсхільныя дахі, таксама, як сцены, прывязаны да архітэктуры касцёла, аднак у іх няма ні арнаменту, ні хвалявання.

У параўнанні з апісаннем Вераксіна (улічваючым таксама ранейшы стан святыні, пададзены Казанскім у 1851 годзе) можна заўважыць у стане на 1928 год значную розніцу ў арнаментацыі галоўнага алтара і бакавых (адсутнасць фігур, паліхраміі і алейных абразоў).

## КАП у Беразвеччы

Размешчаныя ў Беразвеччы войскі КАПу не толькі ахоўвалі і рабілі мяжу менш пранікальнай на значным адрэзку паўночнай і ўсходняй мяжы дзяржавы, але таксама прыносілі істотнае грамадскае, культурнае і гаспадарчае ажыўленне памежжа, пасля больш чым векавой няволі.

КАП наладжваў шмат карыснага супрацоўніцтва з адміністрацыйнымі ўладамі, са школамі, грамадскімі арганізацыямі, слу-

жыў дапамогай у розных грамадскіх і гаспадарчых пачынаннях. Беразвецкі КАП у вялікай ступені прычыніўся да актывізацыі культурнага жыцця павету, таксама як і яго батальёны ў мястэчках Лужкі і Падсвілле, а таксама роты ў шэрагу вёсак.

Удзел войска ў жыцці грамадскасці горада Глыбокае выражаўся эфектыўным узаемадзеяннем з уладнай адміністрацыяй ў арганізацыі святкавання дзяржаўных святаў і нацыянальных гадавін. Войска са сваім аркестрам ішло на чале паходаў, яго прадстаўнікі з’яўляліся на трыбунах, вайсковыя вакальныя і забаўляльныя калектывы рабілі цікавымі праграмы ўрачыстасцяў. Войска арганізоўвала спартыўныя і забаўляльныя імпрэзы, дапамагала сваім рыштункам, давала доступ у сваю бібліятэку. Гэтыя дзеянні, хаця праводзіліся *на святы*, былі пазітыўнымі з погляду на іх дзяржавастваральную ролю, а таксама распаўсюджвання польскіх традыцый і польскай культуры, якія былі закрытымі пад маскоўскай акупацыяй. Не былі аднак жа адзінымі. Несумненна, рэальную і вымерную вартасць і значэнне мелі дзеянні КАПу ў галіне асветы, выхаванні моладзі, гаспадарчага развіцця і дапамогі грамадству ў асаблівых сітуацыях. Канкрэтнай была матэрыяльная і арганізацыйная дапамога, якую ўдзяліў КАП школам Глыбокага, а асабліва гімназіі. Узвядзенне новага будынка гімназіі імя Люблінскай Уніі дайшло да фіналу пры ўдзеле камандных кадраў палка і яго фінансавай дапамозе. Яны складалі адну з апор Таварыства *Асветы*, створанага для будаўніцтва гімназіі. Выключна за кошт палка была пабудавана гімнастычная зала. Неацэннымі былі заслугі камандавання палка для развіцця харцэрскага руху. Яго камандзір, палкоўнік Зыгмунт Богуш-Шышка, знайшоў час на асабістыя кантакты з харцэрамі і цікавіўся іх праблемамі.

Асабліва адданы харцэрству быў капітан Францішак Віславух, выдатны паляўнічы, знаўца лясных нетраў, прычым не толькі галубіцкіх, незабыўны аўтар чароўных *“Палескіх апавяданняў”*, які ўключыўся ў штодзённыя справы харцэрскіх дружын, у навучанне і арганізацыю паходаў, лагераў і імпрэзаў.

У суровым клімаце і цяжкіх гаспадарчых умовах Дзісненскага павету цяжка было б знайсці сітуацыю, у якой бы грамадства не магло б разлічваць на дапамогу КАПу. Падчас частых і грозных паводак на Дзісненшчыне атрады КАПу сваімі сіламі і абсталяваннем ратавалі жыцці і маёмасць жыхароў, папраўлялі знішчаныя будынкі. У гады неўраджаю, які часта наведваў паўночную Віленшчыну, калі голад заглядаў у многія сем’і, састаў КАПу даваў падаткі на дакармліванне школьнікаў, вайсковыя кухні выда-

валі найбяднейшым ежу, а ў час стыхійных бедстваў усім патрабуючым, раней, чым была аказана дзяржаўная дапамога. Жаўнеры КАПу шматразова фундавалі розныя пачынанні. Прыкладам можа быць пабудова касцёла батальёнам з Падсвілля.

У 1929 – 1937 гадах праведзена шмат арганізацыйных зменаў у структуры КАПу. Канчаткова арганізаванымі сталі палкі, якія насілі назвы мясцовасцяў, у якіх стаялі. *Полк Глыбокае* належаў да *брыгады Вільня*. Спачатку ў яго складзе былі два батальёны: *Падсвілле* і *Лужкі*, а таксама два эскадроны з такімі самымі назвамі. У сакавіку 1934 года ў палку *Глыбокае* дадаткова сфарміравалі стралковую роту. Першым камандзірам палка быў падпалкоўнік Уладзіслаў Калвіньскі, пасля яго палкоўнік Зыгмунт Богуш-Шышка, а затым падпалкоўнік Ян Свянткоўскі.

У 1937 годзе наступіла рэарганізацыя войск КАПу. Згодна з ёй полк *Глыбокае* складаўся з трох памежных батальёнаў і аднаго рэзервовага.

Батальён *Слабодка* налічваў 3 роты і 12 застаў.

Батальён *Лужкі* налічваў 3 роты і 9 застаў.

Батальён *Падсвілле* налічваў 3 роты і 9 застаў.

Батальён *Беразвечча* быў рэзервным батальёнам палка.

На пасаду камандзіра батальёна *Беразвечча* атрымаў прызначэнне маёр Казімір Уладзіслаў Чаркоўскі.

22 сакавіка 1939 года батальён *Беразвечча* быў перавезены чыгункай у раён Жыўца з прызначэннем узмацнення паўднёвага памежжа на адрэзку Жывец – Хабуўка – Новы Сонч. У першыя дні вайны батальён уваходзіў у склад 2 п.п. КАП арміі *Кракаў* і ваяваў на лініі франтоў у Венгерскай Горцы. Дзякуючы нязвыклай рашучасці і гераізму жаўнеры батальёну *Беразвечча* стрымалі нападзенне ўзброенай да зубоў нямецкай дывізіі і не дапусцілі акружэння арміі Кракаў. Вайсковыя гісторыкі аценілі постаць батальёна Беразвеч, як роўную абаронцам *Вестэрплятэ* і надалі Венгерскай Горцы назву Вестэрплятэ Поўдня. Маёр Чаркоўскі, кіруючы ў часы адступлення палком, быў 15 верасня паранены і трапіў у нямецкі палон.

17 верасня 1939 года падраздзяленні палка Глыбокае аказвалі супраціўленне пераважаючым савецкім сілам на заставах і ў пагранічных ротах. Камандаванне палка і сілы глыбоцкага гарнізона эвакуіраваліся зараз жа перад уваходам Чырвонай Арміі ў горад. Аб'ядноўваючыся з іншымі падраздзяленнямі КАП, дайшлі без сутычак з непрыяцелем да латвійскай мяжы. 20 верасня перайшлі яе і былі разам з камандзірам палка інтэрнаваныя на станцыі Земгале. Да часу перахвату НКУСам у жніўні 1940 года жаў-

неры КАПу знаходзіліся ў лагеры для інтэрнаваных у Лібаве (Лієпая). Пасля падпісання дамовы Сікорскі – Майскі большасць КАПістаў знаходзілася ў польскіх узброеных сілах на Захадзе.

Таксама там знаходзіўся перадапошні камандзір палка *Глыбокае* палкоўнік Зыгмунт Богуш-Шышка. Ужо як генерал арганізаваў у Францыі самастойную Брыгаду Падгаланьскіх Стралкоў. На яе чале прыняў удзел у бітве за Нарвік (IV – V. 1940), якая закончылася ўзяццем порту. Палякі адзначыліся гераізмам і атрымалі найвышэйшае прызнанне камандавання саюзных войск і грамадскасці Нарвегіі.

## Льнаводчая даследчая станцыя

Пасля здабыцця незалежнасці пачалося развіццё адсталай сельскай гаспадаркі паўночна-ўсходніх Крэсаў Польшчы. Пачалося з камасацыі зямлі і ліквідацыі неэфектыўнай трохпольнай сістэмы, а таксама ўвядзення спецыялізацыі і іншых сучасных спосабаў гаспадарання. Мясцовыя кліматычныя і глебавыя ўмовы спрыялі гадоўлі малочнага быдла, а з працы на зямлі найбольш прыбытковым было вырошчванне льну.

Дзісненскі павет у міжваенны перыяд займаў у краі першае месца па вытворчасці льновалакна і льносемя, спрычыніўся да галоўнай пазіцыі Польшчы ў свеце (другое месца ў вытворчасці льновалакна і шостае ў вытворчасці ільносемя). Гэта было звязана з рознымі кліматычнымі і глебавымі ўмовамі, карыснейшымі, чым у іншых часцях краю. Падобныя вынікі дасягалі суседнія Браслаўскі і Пастаўскі паветы. Ужо ў XVII стагоддзі *друйскі лён* уяўляў найвышэйшую якасць у экспарце на Захад.

Тыя акалічнасці прывялі да таго, што Льнаводчае Таварыства ў Вільні вырашыла стварыць на тэрыторыі *льнаводчага заглыблення* навукова-даследчы цэнтр перапрацоўкі льну і выбар яго размяшчэння выпаў на Беразвечча. На пачатку трыццатых гадоў тут паўстала ўстанова, названая *Даследчым полем Беразвечча з Даследчай станцыяй*, як філія Цэнтральнай льнаводчай даследчай станцыі ў Вільні. Заданнем гэтага прадстаўніцтва было рашыць з дапамогай навуковых метадаў практычныя пытанні, якія б служылі павышэнню ўраджайнасці і рэнтабельнасці ільнопрадукцыі, а таксама некаторых караняплодаў.

Першыя канкрэтныя даследаванні былі датычныя ўплыву розных відаў угнаення і выбару іх разнавіднасцяў, якія найбольш карысныя для дадзеных умоваў. У ранейшай практыцы не было арыгінальных разнавіднасцяў у генетычным значэнні, вырошчвалі мясцовыя выпадковыя папуляцыі.

З мэтай атрымання больш прадукцыйных і генетычна чыстых разнавіднасцяў у Беразвеччы приступілі да пасеву сотні тысяч зярнят ільну, па адным зярнятку. Выгадаваныя ў аднолькавых умовах расліны параўноўвалі паміж сабой. Гэтай дарогай, праз індывідуальную селекцыю, мелі намер дайсці праз пэўны час да арыгінальных, краёвых відаў ільну, якія б найбольш адпавядалі мясцовым умовам.

Льнаводчае Таварыства, акрамя таго, мелі намер выкарыстаць беразвецкі цэнтр для сваіх арганізацыйных дзеянняў. Прадугледжвалася разгортванне спецыяльнага навучання для земляробаў-ільнаводаў, забеспячэнне іх пасяўным матэрыялам, спецыяльным абсталяваннем, і нават пярвічная перапрацоўка прадукцыі.

Першыя працы, якія пачаліся на *Даследчым полі* ў Беразвеччы, датычыліся ўплыву ўгнаенняў і тэрмінаў пасеву ільну на велічыню збораў зерня і льняной саломкі. Вынікі тых даследаванняў паказалі, што, у залежнасці ад віду, з 1 га можна было атрымаць ад 3 да 8 цэнтнераў зерня. Таксама сцвярджалася, што найлепшы вынік дае ранейшы пасеў (канец красавіка – пачатак траўня), прычым выступае неўспрымальнасць апрацоўкі на замаразкі, якія дасягаюць – 6 градусаў. Таксама распачата даследаванне ўплыву раслін-папярэднікаў (бульбы, канюшыны, аўса і жыта) на вырошчванне льну. Планавалася, што вынікі даследаванняў павінны быць праверены цягам шматгадовых эксперыментаў і назіранняў.

Паралельна з вышэйпрыведзенымі доследамі восенню 1930 года распачата даследаванне, якое датычылася вырошчвання пшаніцы. Эксперыменту падлягалі 25 гатункаў пшаніцы, што да ўкаранення, вымярзання і іншых акалічнасцяў вырошчвання. Гэта было выключна важнае пытанне для паўночных паветаў Віленшчыны, якія мелі адпаведныя глебы для вырошчвання таго збожжа, такім чынам рэч заходзіла аб падборы адпаведнай замены, надзейнай і ўрадлівай. Далей даследаванні праводзіліся з 13 гатункамі жыта; у планах былі эксперыменты з кармавымі буракамі наконт угнаенняў і пераменаў, рознымі пашавымі культурамі, лубінам, і нават прамыслова-лекавымі раслінамі. Абмаляваная вышэй праграма дзейнасці *Даследчай станцыі* была несумненна захапляльнай. Але вымагала значных фінансавых выдаткаў. Для распачынання прац Дзяржаўны Зямельны Банк прызначыў субсідыю ў памеры 200 000 злотых.

Тэрыторыя *Даследчага поля* займала 50 га і расцягнулася па правым баку дарогі з Глыбокага ў Германавічы і Шаркоўшчыну,

якая праходзіла праз Беразвечча. У адлегласці каля 400 метраў перад кляштарам меліся паўстаць пабудовы *Даследчай станцыі*.

Як першы будынак, было ўзведзена даследчае гумно. Першы паверх таго самавітага будынка быў прызначаны на складзіраванне льну і іншых культур, а таксама на ўмалот і даследаванні. На другім паверсе размяшчаўся склад markdown розных насення.

13 верасня 1931 года перададзены ва ўжытак другі будынак, які размяшчаў на першым паверсе канцылярыю і пакоі для сталых работнікаў, а на другім паверсе - кватэру кіраўніка ўстановы. Ім быў інжынер Леон Невяровіч.

Дырэктар Невяровіч перад атрыманнем пасады ў Беразвеччы ўжо меў шмат даследчага досведу ў сферы насенняводства. Нарадзіўся ў Свянцянскім павеце, закончыў вышэйшую сельскагаспадарчую школу ў Варшаве ў 1913 годзе. Да 1920 года кіраваў даследчай станцыяй бураканоўства ва Украіне. У 1921 годзе прыняў кіраўніцтва даследчай станцыі ў Влашанове, што ў Познаньскім ваяводстве, якая належала таварыству *"Сяўба"*. Выгадаваў там *влашаноўскае жыта* адпаведна на вялікапольскія глебы. Па ўласнаму жаданню прыехаў у Беразвечча, каб быць бліжэй да сваіх і жонкі родных мясцін.

У наступныя гады пабудавалі двухпавярховы будынак, які прызначаўся на вялізную лабараторыю і склад. Былі там таксама пакоі для практыкантаў. Пабудаваная таксама льносушылка з абагрэвам, навес пад ільняную салому і абсталяванне, а таксама стайня для коней і стадола для сена. Жывы інвентар станцыі складалі 4 – 5 коней, мёртвы – вазы, сані, брычка, сяўнік, малатарня, плугі, бароны і іншае абсталяванне. Усе ўладанні, маляўніча размешчаныя ўздоўж Беразвецкага возера, аднолькава ахопліваў агарод з гароднінай і кветкамі, і акружаў плот са штыкетніка.

Сталы персанал, акрамя дырэктара, складаўся з 2 – 3 асістэнтаў, інжынераў сельскай гаспадаркі, эканома і двух сталых сельскагаспадарчых работнікаў. Акрамя таго, з суседніх вёсак сезонна задзейнічалі работнікаў для фізічнай працы (у асноўным кабет), для палявых і лабараторных работ. Летам прыязджалі на практыку некалькі студэнтаў.

Станцыя развівалася паспяхова, даследаванні датычыліся ў асноўным ільну, але на ім не абмяжоўваліся. На базе станцыі пачата навучанне бракоўшчыкаў і тэхнолагаў льнаводства для апрацоўкі льну. Развівалася супрацоўніцтва Станцыі з агранамічнай службай павету: яна рабілася важным асяродкам у гаспа-

дарчай палітыцы ваяводства.

Далейшыя перспектывы закрыла 17 верасня 1939 года савецкая атака на Польшчу. Новыя ўлады спачатку ўтрымлівалі станцыю, і дырэктар Невяровіч заставаўся на пасадзе, уводзячы ў сферу дзейнасці ўстановы савецкіх навуковых супрацоўнікаў.

Нечакана 3 студзеня 1941 года яго арыштаваў НКУС, пасадзіўшы ў аддаленую толькі на 100 метраў Беразвецкую турму НКУС. Напэўна, з усіх вязняў меў найкарацейшую дарогу.

Сям'я яго ўжо не ўбачыла. Паводле паказанняў сведкаў, 24 чэрвеня 1941 года пайшоў пад канвоем дарогай смерці і з яе не вярнуўся.

*************

Акрамя войска КАПа і Даследчай Станцыі не было ў Беразвеччы ў перыяд II Рэчы Паспалітай ніякіх прадпрыемстваў ці ўстановаў. Уся мясцовасць складалася з некалькіх сядзібаў, якія належалі да невялікіх зямельных гаспадарак, захоўваючы характар прыкляштарнага паселішча. Пры казармах была салдацкая сталоўка, у якой таксама прадаваліся папяросы, напоі і слодычы.

Насупраць кляштару, па другім баку дарогі існавалі магілы польскіх жаўнераў, палеглых у вайне 1920 года.

**Станцыя льну. Сучасны стан.**



# РАЗДЗЕЛ IV САВЕЦКАЯ АКУПАЦЫЯ 1939 – 1941 ГАДЫ

## Савецкі рэпрэсіўны апарат

Агрэсія СССР на Польшчу адбылася ў верасні 1939 года, і заняццё Усходніх Крэсаў змяніла спакойнае жыццё Беразвечча, шырэй вядомага па фэсту ў свята Пятра і Паўла і прыгожага касцёла, які ахвотна аглядалі турысты з урочышча Барок, асабліва калі яго сілуэт адбіваўся ў люстэрку возера.

17 верасня 1939 года ў 7 гадзін 30 хвілін сірэна гарадской пажарнай аховы абвясціла паветраную трывогу. Над Глыбокім і Беразвеччам праляцеў самалёт з чырвонай зоркай. Камандзір палка КАП падпалкоўнік Ян Свянткоўскі атрымаў тэлефанаграму аб пераходзе войскам СССР дзяржаўнай мяжы з Польшчай, якая праходзіла за 20 км ад Глыбокага. Войска ў надзвычайным парадку рыхтуецца да пакідання казармаў у Беразвеччы, афіцэры паляць дакументы палка, і ў 10.20 сілы КАП выходзяць на дарогу Удзела – Мосар. У гэты самы час савецкія войскі дасягаюць Глыбокага, і праз 10 хвілін пасля выйсця польскіх сіл іх бронемашыны з'яўляюцца ў Беразвеччы. Пагоню, аднак, не праводзяць. Атрады КАП без сутычак з непрыяцелем дабіраюцца да мяжы з Латвіяй і пераходзяць яе 20 верасня. Там застаюцца інтэрнаванымі. Так прадстаўляе падзеі ўспаміны сяржанта Мар'яна Завілы з гарнізону Беразвечча. (М. Завіла. Уцёкі ад бальшавікоў (у) Усходнія лёсы палякаў. Кашалін 1993, с.52).

Польшча ў той час смяротна змагалася з сіламі Трэцяга Рэйху, і польскае кіраўніцтва ў крытычнай сітуацыі вымушана было прызваць народ да несупраціву Чырвонай Арміі. Сутыкаючыся з невялікім супрацівам памежных заставаў КАПу, яна папярэдне ўзгадніўшы з фашысцкай Германіяй, заняла тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

Далейшыя падзеі на акупаваных СССР тэрыторыях уражвалі грамадства сваёй брутальнасцю, і, напэўна, толькі для сведак бальшавіцкай рэвалюцыі 1917 года не станавіліся вялікай неспадзяванкай. Неадкладна пачаўся так званы *працэс устанаўлення Савецкай улады*. Сумяшчаўся ён з нечуванай рэпрэсіўнасцю да польскага элементу, увогуле да польскіх дзяржаўных і адміністратыўных структур. Распачыналі яго дзеянні вайсковыя адзінкі і таварыскія ім сілы Народнага Камісарыяту Унутраных

Спраў (НКУС), паводле схемаў, уласцівых бальшавіцкім рэвалюцыйным традыцыям. У ходзе тых дзеянняў знайшлося нечакана Беразвечча, як элемент і тэрыторыя дзеянняў савецкай сістэмы рэпрэсій.

Занятыя тэрыторыі Польшчы, як Заходняя Беларусь, так і Заходняя Украіна, сталі часткаю савецкіх рэспублік. Падзялілі яе на вобласці, а іх на раёны. Раёны складаліся з адзінак, якія кіраваліся праз гарадскія і вясковыя Саветы дэпутатаў працоўных (*горсаветы* і *сельсаветы*).

Раней, чым адбылося так званае галасаванне ў справе далучэння Заходняй Беларусі да Усходняй і затым стварыліся вобласці, паўстала сетка структур НКУС ніжэйшага ўзроўню: найперш раённых і гарадскіх, а толькі пасля – абласных. Падпарадкаваліся ім структуры рабоча-сялянскай міліцыі, арганізаваныя на ўзроўні гарадскіх і сельскіх саветаў. Такім спосабам затым арганізавалі гаспадарчыя структуры, існавала ўжо кампетэнтная сістэма, так званыя: для аховы рэвалюцыйнага парадку і барацьбы з крымінальна-злачыннымі элементамі.

Гэта было згодна з практыкай Савецкай дзяржавы тых часоў, якая прытрымлівалася прынцыпу, што *пабудове сацыялістычнага ладу* супраціўляецца грамадскасць, што вымагае шырокіх дзеянняў апарату НКУС ва ўсіх галінах жыцця, а выхаванне *савецкага чалавека* не можа абысціся без ужывання прымуса і рэпрэсій. Сапраўды, у рэалізацыі ўсіх дзеянняў найвышэйшая ўлада значна належала камуністычнай партыі, але на практыцы органы НКУС імкнуліся да атрымання параўнальных пазіцый.

Суправаджальныя вайсковым адзінкам атрады НКУС неадкладна дзейнічалі пасля перахода польскай мяжы. Карыстаючыся паслугамі часткі пракамуністычна настроенага беларускага і яўрэйскага насельніцтва ў якасці інфарматараў і праваднікоў, функцыянеры НКУС ужо 17 верасня прыступілі да арышту польскіх паліцыянтаў і вайскоўцаў, асобаў, якія выконвалі кіраўнічыя функцыі ў адміністрацыі (бурмістраў, войтаў) і ў арганізацыях грамадзянскай абароны, а таксама ў “Стральцы” і моладзі сярэдніх школ, у якіх выкладалася ваенная падрыхтоўка. Акрамя таго, па даносах інфарматараў былі арыштаваныя асобы, вядомыя антысавецкімі поглядамі, што збіралі зброю, а таксама ў святле савецкіх нормаў, якія былі *выключнымі эксплуататарамі рабочага класа*, альбо проста заможныя асобы. У асноўным, хаця не выключна, гэта былі прэвентыўныя арышты, аднак некаторыя асобы ўжо не атрымалі свабоды.

Органы НКУС займалі на свае патрэбы памяшканні польскай

паліцыі і адміністрацыі для арыштаў, якіх было нямала ў той час, і трэба было іх павялічваць, прыстасоўваючы іншыя памяшканні, звычайна падвалы.

Тым часам, з Усходняй Беларусі прыбылі новыя кадры НКУС, а з мясцовага насельніцтва беларускай і яўрэйскай нацыянальнасці паўсталі на прадпрыемствах атрады *рабочай гвардыі* і *аддзелы рабоча-сялянскай міліцыі*. У іх часткова ўступалі ідэйныя камуністы, якія былі раней неаднаразова пакараныя за антыдзяржаўную дзейнасць, часткова пралетарыят з малых мястэчак і вёсак, якіх заахвоцілі агітатары на арганізаваных пастаянных *мітынгах*. Таксама не бракавала звычайных крымінальнікаў, вызваленых з польскіх турмаў, беспрацоўных і камбінатараў, якія шукалі магчымасці *вылучыцца* ў атмасферы рэвалюцыі ці проста адпомсціць палякам.

Уражанне пасля першых дзён *вызвалення*, што арыштоўвалі найчасцей палякаў, пацвердзіліся на наступныя тыдні. Дыскрымінавалі іх за тое, што належалі да народу, які ў 1920 годзе спрычыніўся да правалу бальшавіцкіх планаў заваёвы Еўропы, а затым бараніўся ад камуністычных уплываў, кіруючыся адметнымі грамадскімі і гаспадарчымі прынцыпамі.

Не толькі ў савецкай прэсе, але таксама ў пракурорскіх выступах і судовых прысудах выдзяляліся фармуліроўкі, якія ўвогуле абвінавачвалі палякаў аб варожых адносінах да СССР, аб службе рэжыму, які быў апірышчам абшарнікаў і эксплуататараў, аб жыцці коштам крыві і поту наёмных працаўнікоў.

*Кожная легальная дзейнасць у польскім грамадскім жыцці перад 17 верасня была прызнана ў новай сітуацыі за контррэвалюцыйную, скіраваную супраць інтарэсаў СССР і міжнароднага пралетарыяту, а значыць падлягала пакаранню*.

У той новай рэчаіснасці ўсялякія караючыя дзеянні былі акрэслены пры дапамозе *спецыяльнай наменклатуры*, якая надавала ім характар грозных наступстваў. А менавіта, крытыка ладу ці кіраўнікоў дзяржавы – гэта *варожая прапаганда*, спроба ўцёкаў за мяжу – *шпіёнства*, невыкананне ўзложаных гаспадарчых абавязкаў – за *сабатаж*, продаж асабістай уласнасці – *спекуляцыя*, служба ў польскім войску, асабліва ў легіёнах – гэта *прыналежнасць да дыверсійных польскіх бандаў*. Нават сацыяльнае паходжанне, ці маёмасны статус давалі падставы да закляймення, нават у афіцыйных дакументах, – напрыклад, судовых, іменавалася – *грамадска небяспечнай адзінкай*, ці *сацыяльна-небяспечны элемент*. Відавочна, найгрознейшым наступствам і адначасова паняццем вельмі *ёмістым* была *контррэвалюцыйная*

*дзейнасць*. Уся гэтая грозная тэрміналогія, як і неканкрэтная яе *акрэсленасць*, далі магчымасць арыштоўваць кожнага і рэалізоўваць *чэкісцкія прынцыпы: калі ёсць у руках чалавек – то знойдзецца і артыкул*.

Параўнальнай сітуацыяй з палякамі было становішча ўцекачоў з СССР пасля 1920 года, членаў КПП і іншых левых партый, асабліва – *трацкістаў*. Яны адказвалі за *здраду міжнароднаму пралетарыяту* і было гэта абвінавачванне больш цяжкім, чым за *контррэвалюцыйную дзейнасць*.

Восенню 1939 года распачалася калектывізацыя і адначасова часцей пачаліся арышты сялян, у тым ліку і беларусаў, якія пасля пачатковай эйфарыі да калгасаў, не туліліся да іх таксама, як і палякі. Каб да гэтага заахвоціць сялян, вызначылі абавязковыя пастаўкі сельгаспрадукцыі, а таксама апрацоўку і вываз леса ў колькасці, якая не адпавядала іх магчымасці. Невыконваючых паставак судзілі паказальнымі працэсамі і каралі працоўнымі лагерамі за сабатаж. Прадукты, якія знаходзілі падчас рэвізіі, як *затаёныя*, – дадатковы довад злачынства – канфіскоўвалі. Сітуацыя такіх сямей была роспачнай. Таксама яўрэі, у асноўным уласнікі малых прадпрыемстваў і гандлю, штораз часцей траплялі пад арышты і ў турмы.

Таксама варта ўспомніць аб традыцыйна варожых адносінах савецкіх уладаў да каталіцкага духавенства. Указвалася, што яны непасрэдна тармазілі ўсталяванне савецкай улады і падтрымлівалі супраціў насельніцтва. Ужо ў час рэвалюцыйных хваляванняў і ў час усталявання ўсходняй мяжы шмат ксяндзоў загінула ад бальшавіцкіх рук. Пасля заняцця польскіх Крэсаў Усходніх рэпрэсіі закранулі большасць каталіцкіх святароў. Пад рознымі прычынамі іх арыштоўвалі і адпраўлялі ў высылку ў лагеры прымусовай працы, адкуль большая іх частка ўвогуле не вярнулася. У савецкай сістэме з 1928 года існаваў на адной з Салавецкіх выспаў спецыяльны лагер для духавенства, з якога немагчыма было кантактаваць з грамадствам. Вядомыя цалкам абсурдныя абвінавачванні ксяндзоў аб удзеле ў *антысавецкіх падпольных арганізацыях*, у прыватнасці ў *Польскай Вайсковай Арганізацыі (POW)*, якая не дзейнічала аж з 1920 года. Абвінавачванне таксама мела абцяжарваючы характар, як *контррэвалюцыйнае*.

Увогуле, у выніку дзеянняў савецкіх уладаў, а таксама бяспраўных забойстваў, учыненых савецкімі функцыянерамі, на тэрыторыі Віленскай Архідыяцэзіі загінулі 38 каталіцкіх святароў, з якіх 18 былі вывезены ў лагеры.

Такога роду палітыка ў Заходняй Беларусі, вызваленай ад уці-

ску *панскай Польшчы*, у выніку прыносіла вялізную лічбу арыштаваных і асуджаных. Арышты і следчыя турмы, якія займалі даўнейшыя польскія і цалкам новыя, дадаткова прыстасаваныя памяшканні, былі хутка запоўнены.

## Турма НКУС у Беразвеччы

Калі ў паўночных паветах Віленшчыны не вырашылі праблему стварэння новай турмы ў Маладэчне, улады звярнуліся да часта практыкуючай у СССР арганізацыі турмаў у сакральных аб'ектах. Выбар паў на базыліянскі кляштар у Беразвеччы.

Турма, якая паўстала ў Беразвеччы, насіла назву *"Турма НКУС у Глыбокім №32"* (потым *№28*). Была створана як следчая турма. З цягам часу стала лічыцца, што накіроўвалі туды ў асноўным арыштаваных за *палітыку*, ці за дзейнасць, нязгодную з дзяржаўнай ідэалогіяй. З намінальнай лічбай 530 месцаў была яна адной з найбольшых турмаў у пенітэнцыярнай сістэме Заходняй Беларусі.

У сярэдзіне 1941 года на польскіх тэрыторыях, занятых у 1939 годзе, было 56 савецкіх агульных турмаў з лімітам 18562 месцы. Насамрэч фактычна, як падае Главацкі, сярэднямесячная лічба вязняў перавышала 40 тысяч. Не іначай было і ў Беразвеччы, дзе ў той час ліміт быў перавышаны і *запаўненне* складала 150%. Праблему гэту стараліся злагодзіць праз стварэнне спецыяльна ўмяшчальных агульных камер у прымальна-размеркавальных лічбах не менш 50 чалавек. Для Беразвечча гэта лічба складала 75 асобаў.

## Арышты

Спачатку арышты праводзіла войска, а потым звычайна НКУС ці міліцыя. Яны адбываліся ў дамах падазраваных ці ў адміністрацыйных будынках, у якія вызывалі з мэтай *высвятлення чагонебудзь*. Яны былі наступствам ранейшых даносаў мясцовых *актывістаў*, рэвалюцыйных камітэтаў, міліцыі, а таксама дакументаў, якія паходзілі з польскіх мясцовых адміністрацый, установаў ці архіваў.

Падчас арыштаў, якія выконваліся ў дамах, як правіла адбываліся вобыскі. Як выдуманай прычынай падавалася падазрэнне ў захаванні зброі альбо прапагандысцкіх матэрыялаў. Асабліва вельмі падрабязна разглядаліся ўсялякія дакументы і паперы, карэспандэнцыя, сямейныя альбомы, фотаздымкі, змесціва шаф і бібліятэк. Гэта дазваляла заарыентавацца аб інтарэсах, палітычных перакананнях і светапоглядзе, усялякіх канэксіях і ступені

заможнасці падазраванага. Калі 4 кастрычніка 1940 года ў Беразвечча забіралі жыхара Глыбокага падпаручніка рэзерва Браніслава Яноўскага, таксама забралі яго здымак з вайсковых вучэнняў, каб, як выявілася, заіндыфікаваць іншых падобных яму *галубчыкаў* (тыпаў). Дастаткова было быць польскім афіцэрам, каб быць арыштаваным і да сям'і ўжо не вярнуцца. Такім быў лёс падпаручніка Яноўскага.

Таксама здаралася, што падчас арышту знікалі дакументы, дарагія прадметы і каштоўнасці. Пад час арышту адваката Гееўскага ў Дзісне забралі ларнэтку і пішучую машынку. Нярэдка знішчаліся прадметы хатняга ўжытку і абсталявання грамадзян, узрывалі падлогі, а ў вёсках нават саламяныя стрэхі, шукаючы там невядома што. Застрашаныя людзі нават не скардзіліся, каб не пагаршаць сваіх справаў. Падобным чынам працякаў вобыск у доме Пятра Квятнеўскага, дырэктара школы ў Дзісне, калі забіралі яго ў Беразвечча. *Вывярнулі нават балею з намочанай бялізнай...*

Вобыскі, як правіла суправаджаліся грубасцю і абразай да шакаваных людзей, пужаючы санкцыямі і нават расстрэламі. У аддаленых ад Беразвечча мясцовасцях, напрыклад, у Дзісне, затрыманыя асобы знаходзіліся пад арыштам да часу камплектавання групы, якая затым пад канвоем фурманкамі, ці аўтамабілямі перавозілася ў Беразвечча. Пражываючых у Глыбокім ці паблізу непасрэдна дастаўлялі ў турму пасля арышту.

## Прыём у турму

Прыём у турму спалучаўся з асабістым вобыскам арыштаванага. Пры тым забіралі ў дэпазіт пасведчанне асобы, грошы, а таксама ўсялякія прадметы асабістага ўжытку: гадзіннікі, брытвы, нажы, ножычкі, пішучыя прыборы, паясы, рамяні, падцяжкі, шнуркі і інш. На здадзеныя прадметы вязень павінен быў атрымаць квіткі, чаго не заўсёды прытрымліваліся, таксама часам квіткі губляліся ў час допытаў, што стварала клопаты, калі выпускалі вязня. Перад дастаўкай вязня ў камеру адбывалася санітарная апрацоўка: стрыглі галаву да голай скуры, вадзілі ў душ, шукалі вошы, праводзілі медыцынскі агляд. Аднак не заўсёды гэтыя прадугледжаныя працэдуры выконваліся.

## Умовы ўтрымання вязняў

Дзень вязня пачынаўся з *пад'ёму* а 6-й гадзіне і заканчваўся вечаровай пераклічкай а 22-й гадзіне. З ранку быў асабісты туалет, мыццё і сняданак. Да прыбіральні выходзілі па чарзе поўным

складам кожнай камеры два разы на дзень: перад сняданнем і пасля вячэры. Пасля снядання быў час, прызначаны для шпацыру (*прагулкі*) па турэмным панадворку, пры гэтым правядзенне размоваў было забаронена. Рэшту дня вязні праводзілі ў камеры, атрымліваючы там абед і сняданак. Фізіялагічныя патрэбы ў міжчасоўе спраўлялі ў бляшаны посуд (*парашу*) у камеры. У дзённы час у камерах праводзіліся асабістыя дагляды іператрусы, вызывалі вязняў на допыты, хаця яны адбываліся таксама і ноччу.

Большасць турмаў, якія існавалі ў Заходняй Беларусі, размяшчаліся ў будынках, якія былі пабудаваныя ў розныя гістарычныя перыяды (у асноўным перад І сусветнай вайной) і мелі рознае прызначэнне, а затым былі прыстасаваныя. Гэта былі будынкі не сучасныя. Пасля 17 верасня 1939 года акрамя адаптацыі новых памяшканняў дайшло да вялізарнай скучанасці, якая стварала нязвыкла цяжкія ўмовы побыту вязняў. Аб гэтым сведчаць як і успаміны вязняў, так і вынікі кантролю савецкіх органаў.

Павел Кожух, які правёў у Беразвеччы 1,5 гады, распавядае пра сваю камеру, якая мела памеры 5х2 метры: *"У гэтым кляштарным памяшканні, прызначаным для адной асобы, утрымлівалі 48 вязняў. У замураваным акне ўстаўлена адна шыба прыкрытая стрэшкай. Нараў, ці іншых прыстасаванняў для спання, не было. Вязні спалі на бетоне. За пасцель і прыкрыццё служыло тое, што вязень меў на сябе, ці абрыўкі ўжытага адзення. Не было спатканняў, карэспандэнцыі, а ні тым больш пасылак."*

У верасні 1940 года скучанасць беларускіх турмаў склала 218% ліміту. А ўжо вясной 1941 года шмат турмаў на Віленшчыне мела скучанасць, якая перавышала 200%, а новая турма ў Маладэчне нават 300%.

У сакавіку і красавіку 1941 года запоўненасць турмы ў Беразвеччы дасягнула 160 і 170%. У наступным тыя вязні спалі на падлозе ў задусе, у суседстве са смярдзючай *парашай*. Не прытрымліваліся прадугледжаных гігіенічных працэдур, не змянялі і не праводзілі санітарную апрацоўку адзення, нормы харчавання былі заніжаныя.

У лютым 1940 года правялі ў Беразвеччы праверку, калі напоўненасць турмы складала *толькі* 118%. Яна адбылася пад кіраўніцтвам пракурора па спецыяльных справах Вілейскай абласной пракуратуры Малкоўскага. Пры гэтым выявіліся наступныя парушэнні:

- *У камерах, прызначаных для 530 вязняў, знаходзіцца 625 асо-*

*баў, або ў сярэднім 20 асобаў у адной камеры.*

*- З прычыны адсутнасці ўліку няма магчымасці ўстанавіць, каму належаць арышты (НКУС, НКДБ, пракурору ці міліцыі) і колькі вязняў знаходзіцца з парушэннем тэрміну прыбывання, г. зн. без санкцыі пракурора на яго працяг. Сцвярджаецца, што з верасня 1939 года без пракурорскіх санкцый знаходзіцца 64 асобы, якія не мелі папак асабістых спраў.*

*- Арыштаваныя Заяц Аляксандр, Рагоўскі Ігнаці, Шчарбіцкі Уладзімір і Шчарбіцкі Пётр з камеры №15 ад часу арышту дзісненскай спецыяльнай групай не былі выслуханы па справе.*

*- Хворыя на сухоты: Урублеўскі Вацлаў, Кралікоўскі Балтазар, Квеціньскі М. з камеры №31, а таксама Сташкевіч Сяргей, Голенбеўскі Ян, Брыклер Людвік з камеры №1 не былі ізаляваныя ў асобнае памяшканне, атрымлівалі харчаванне такое, як і астатнія: 600 г чорнага хлеба і 1 літр нізкакаларыйнага супу.*

*- Не выконваецца санітарная апрацоўка арыштаваных, бялізна іх не ўбіраецца і не мяняецца, што вызывае вялікае завошванне ва ўсіх камерах.*

*- Арыштаваных не выводзяць на прагулкі, у камерах не праводзіцца вентыляцыя, што стварае пры празмернай скучанасці ў камерах выкарыстанае паветра, якое шкоднае для здароўя.*

Пералік канстатаваных парушэнняў і правіл інструкцыі быў закончаны рэкамендацыяй іх ліквідавання ў словах, якія выражалі агульны клопат аб здароўі вязняў. Вельмі сумнеўна, ці штонебудзь змянілася ў выніку той праверкі, бо годам пазней запоўненасць узрасла на дзесяткі працэнтаў. Гэта бачна з дадзеных, якія падае А. Главацкі згодна Дзяржаўнага Архіва Расійскай Федэрацыі.

**Запоўненасць турмы НКУС №28 у Глыбокім (Беразвеччы) у перыяд 20.III – 10.IV. 1941 г.**

| Ліміт месцаў | 20.III | 1.IV | 10.IV | 20.IV | 1.V | 10.V | 20.V | 1.VI | 10.VI |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 530 | 905 | 868 | 851 | 856 | 809 | 385 | 800 | 605 | 680 |
| % | 171 | 164 | 161 | 162 | 153 | 73 | 151 | 114 | 128 |

## Правядзенне следства

Турма ў Беразвеччы была ў сутнасці следчай турмой для палітычных вязняў.

Падазраваныя ў крымінальных і гаспадарчых злачынствах складалі меншасць. Аднак, каб сюды папасці, не трэба было займацца палітыкай, ні нават ёй цікавіцца. Хапала трапіць у межы (ахоп) той наменклатуры злачынстваў, ці папросту быць палякам, уцекачом з СССР ці сацыяльна-небяспечным элементам, каб

стаць *пансіянерам* той установы. А некалі, як паказвала практыка, няцяжка было аказацца *контррэвалюцыянерам*, і не было клопату з пошукам артыкула.

Нягледзячы на перапоўненасць, следства не пачыналася адразу, і – як вынікала з прадстаўленай праверкі – вязні шэрагам некалькіх месяцаў заставаліся без пракурорскіх санкцый, ці нават не мелі асабістых пратаколаў арышту. Напэўна, можна прыняць, што пракуроры былі загружаныя працай, але існаваў абгрунтаваны погляд, што гэта быў намераны і выпрабаваны спосаб паводзінаў. Не спяшаліся са следствам, а тым часам вязень, трыманы ў напрузе і няпэўнасці, пераносіў цяжкія бытавыя ўмовы, назіраў як здзекваліся на следстве над таварышамі па нядолі, якія прыбылі раней, даходзіў да стану фізічнага і псіхічнага надлому. Потым, калі прыходзіла яго чарга, менш супраціўляўся, ахвотней прызнаваў абвінавачванні, якія яму выстаўляліся, і выконваў руцінную мэту выканаўцаў: выяўленне саўдзельнікаў і нелаяльных да ўлады асобаў...

Допыты адбываліся ў розныя гадзіны дня і ночы. За кожным разам, наноў, вінаваты мусіў распавядаць сваю біяграфію – шукалі ў ёй супярэчнасці і непаслядоўнасці. Калі прытрымліваўся сваёй версіі і не прызнаваўся ў абвінаваўчых дзеяннях, пужалі больш суровым памерам кары, наступствамі для сям'і, пагражалі шматгадовым побытам у лагеры. Ужываліся розныя хітрасці: напрыклад, чыталі абвінавачваючыя яго фіктыўныя паказанні сведак, ці абяцалі лагоднае абыходжанне, скарачэнне следства за прызнанне і выяўленне саўдзельнікаў. Да руціны належалі абразы, насмешкі, біццё па твары, капанне. У крайніх выпадках прымяняліся катаванні, ці ў дзяржаўнай тэрміналогіі, прымяняліся *"методы активного следствия"*. Да тых *актыўных* спосабаў належала прыпальванне папяросай, калонне іголкамі, вырыванне валасоў, выбіванне зубоў і прычыненне цяжкіх пашкоджанняў унутраных органаў.

Таксама існавалі *спецыяльныя* спосабы прычынення болі: вешанне за ногі, галавой уніз; кара *стаяннем*, ці побыт у карцэры – галоднаму, у цесным, халодным і цёмным памяшканні. Падрабязныя яго разнавіднасці: *водны, гнойны, сабачая будка*, абазначалі спецыяльныя віды пакутаў. Яніна Семяноўская, вязень Беразвечча, мела ў камеры больш за 39 сяброваак па нядолі, на працягу паўгода 11 разоў была ў карцэры. Успамінае: *"...карцэр знаходзіўся на самым нізе, у халодным падвале, быў падобны на кола, якое складалася з металічных кратаў і падзеленага на чатыры часткі мурам, каб адзін другога не бачыў. У кожнай частцы стаяў*

*цэментавы слупок і налітая да костак халодная вада. Трэба было распрануцца да кашулі і стаяць босым, а было холадна. Час знаходжання быў акрэслены следчым... А такім чынам, найперш холад, уваход у халодную ваду, калоцішся ад холаду, а потым расплываліся перад вачамі белыя і каляровыя зоркі, а потым рабілася горача, у вушах і галаве шумела і трацілася прытомнасць".* Гэта быў, як здаецца, *водны карцэр*, не цяжэйшы за *гнойны*, ці за *сабачую будку*.

Такія радыкальныя метады прымянялі ў выпадках упартай адмовы складання прызнання, часам за неналежную турэмную дысцыпліну, ці ў іншых сітуацыях.

Не трэба здзіўляцца, што такія метады следства не раз прыводзілі да прызнання нязздзейсненых злачынстваў і складання прызнанняў па густу выканаўцаў, каб толькі пазбегнуць катавання. У апошняй роспачы катаваныя ўчынялі самазабойствы. Закатаваны ў Беразвеччы Яўген Мурашоў, уладальнік маёнтка Курылавічы, каля Дзісны, не мог вытрымаць мукаў і ўчыніў самазабойства. Найперш кавалкам шкла паспрабаваў перарэзаць сабе жылы на шыі, а калі яго забралі ў іншую камеру, усадзіў галаву ў палаючую печ. Апечаны, страціў зрок, і твар быў у пузырах. У крайняй роспачы намацаў сцяну і разбіў сабе аб яе чэрап.

## Прысуд

Пасля заканчэння следства пракурор перадаваў акт абвінавачвання судовым уладам. Прысуды вынасіліся як правіла завочна. А. Главацкі выказвае погляд, што толькі нешматлікія палякі, абвінавачаныя ў палітычных справах, стаялі асабіста перад судом, таму маглі там *пераканацца, што пракурор у цэлым не стараўся даказаць іх віны, а дзяржаўны абаронца – бараніць ад выдуманых абсурдных абвінавачванняў*. Прысуды ў палітычных справах, акрамя грамадзянскіх судоў, давалі вайсковыя трыбуналы, а таксама Спецыяльная Калегія пры Народным Камісарыяце Унутраных Спраў СССР у Маскве, якая была ўпаўнаважана выносіць завочныя прысуды ў ходзе працэсу.

*Род і велічыня пакарання ўстанаўліваліся паводле існуючых схемаў. Вагалася яно ў межах ад 3 да 10 гадоў пазбаўлення волі праз змяшчэння ў лагеры прымусовай працы. Толькі зрэдку выносілі некалькі гадоў вольнай ссылкі.*

Польская інтэлігенцыя каралася асабліва адчувальна. Леона Ваякевіча, настаўніка матэматыкі і дырэктара гімназіі ў Глыбокім, забралі ў Беразвецкую турму 7 студзеня 1940 года, ён быў



**Кляштар. Агульны від. Малюнак з Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея**



**Беразвеч. Паштоўка часоў Першай сусветнай вайны.**


Галоўны фасад. Здымак Я. Булгака 1930-х гг.



**Інтэр'ер. Здымак Я. Булгака 1930-х гг.**



**Паштоўка 1930-ых гг. з выданьня У. Уладзімірава. З будынкаў, якія трапілі ў аб'ектыў фотаапарата, захаваўся толькі двухпавярховы корпус інтэрната для манахаў (леваруч ад царквы). Цяпер там - пенітэнцыянарная ўстанова (www.szukamypolski.com)**



**Помнік на месцы пахавання ахвяраў НКВД у Мікалаеве.**
*Фота Міхася Баўтовіча*




**Фрагмент мапы 1937 года з пазначэннем месца пахавання.**
*Фота Міхася Баўтовіча*

асуджаны на 10 гадоў за *паланізацыю беларускай моладзі* і, вывезены ў Комі АССР, памёр, не дачакаўшыся вызвалення.

Найвышэйшы прысуд з пакараннем смерцю ўключна выносілі за шпіянаж, прыналежнасць да дыверсійных і трацкісцкіх арганізацый. Прысуд зачытвалі асуджанаму ў канцылярыі турмы.

## Выкананне прысуду

З Беразвечча перыядычна адыходзілі транспарты з асуджанымі да месцаў выканання прысуду. Выправаджвалі іх ноччу на адлеглую каля 3 км чыгуначную станцыю Глыбокае. Акрамя таго, жыхары вуліц, якімі ішлі, мелі магчымасць агледаць ашаламляльнага віду людзей, якія накіроўваюцца на наступны этап іх Галгофы. Вось паказанні К.К., сведкі таго мартыралогу: *"...вязняў праводзілі ў даўгіх калонах у вельмі ранніх гадзінах. Параненых... бачылі праз шчыліны ў акеніцах, даўгія калоны людзей, акружаных салдатамі НКУС. Пераважалі мужчыны... выглядалі нібы людзі-прывіды, не ішлі, а сланяліся, дапамагаючы адзін другому. Шмат іх несла свой пажытак у вузялках. Адзенне было бруднае, памятае, некаторыя, нягледзячы на лета, былі ў зімовым адзенні. Бачылі мы, што гэта палякі. Жыхарам Глыбокага не можна было ні набліжацца да іх, ні размаўляць з імі"*.

Па меркаванню А. Главацкага, не магчыма на цяперашнім этапе даследаванняў устанавіць агульную лічбу польскіх грамадзян, арыштаваных на ўсходніх землях Рэчы Паспалітай ад верасня 1939 года да канца чэрвеня 1941 года. Прыблізна можна яе акрэсліць у 90 – 100 тысяч арыштаваных і асуджаных, у тым ліку 60% польскай нацыянальнасці. Падобны працэнт маглі складаць палякі ў Беразвеччы, хаця на працягу першага года акупацыі ён мог дасягаць 75%.

Належала б дадаць, што ў адносінах да палякаў як і ў партыйна-дзяржаўным апараце, так і ў судова-пенітэнцыярным існаваў своеасаблівы адмоўны клімат. Напэўна, ён паходзіў яшчэ з перыяду акупацыі, калі пасля народных паўстанняў 1831 і 1863 гадоў расійскія ўлады ў кожным паляку бачылі страшэннага бунтаўшчыка (*закоренелого мятежника*), а разгром бальшавікоў пад Варшавай у 1920 годзе дадаў больш прычын да варожасці.

Ужо цяпер вядомы ліст Берыі да Сталіна, у якім яшчэ на пачатку сакавіка 1940 года ён прапанаваў, *каб справы 11000 арыштаваных (праўдападобна выключна палякаў) членаў розных контррэвалюцыйных і шпіёнскіх арганізацый, а таксама былых земleўласнікаў, фабрыкантаў, польскіх афіцэраў і асобаў, якія нелегальна перайшлі мяжу, разгледзець у спецыяльным трыбунале і*

*прымяніць супраць іх пакаранне смерцю праз расстрэл!* Берыя прытрымліваўся меркавання, што яны *непрымірымыя, безнадзейныя ворагі савецкай улады*. Прапанову Берыі ўхвалілі 5 сакавіка 1940 года шэсць членаў Палітбюро ЦК ВКП(б), прычым разгляданне спраў і прыняцце рашэнняў мелася адбывацца завочна, без прад'яўлення арыштаваным абвінавачванняў, без рашэнняў аб заканчэнні следства і без апеляцыі. Няма сумнення, што ў тым жа духу прымаліся потым рашэнні не толькі расстрэлу палякаў у Катыні, але і ў крытычнай сітуацыі вязняў Беразвечча ў 1941 годзе.

## Дарога смерці

Драматычныя лёсы многіх польскіх грамадзян, якія знаходзіліся ў савецкіх турмах на акупаваных тэрыторыях з верасня 1939 года, знайшлі трагічнае заканчэнне ў пачатковым перыядзе нямецкага нашэсця на СССР. Датычыла гэта і вязняў Беразвечча.

У хвіліны выбуху вайны 22 чэрвеня 1941 года існавалі планы эвакуацыі турмаў Заходняй Беларусі. Яны былі прыведзены ў дзеянне пастановай цэнтральнай улады і прадугледжвалі вываз 16,5 тысяч асобаў, ці ўсіх арыштаваных. Дэталёвая разнарадка замацоўвала транспарт для паасобных турмаў, вызначала тэрміны пачатку і канчатковае месца прызначэння.

Эвакуацыя мелася пачацца з Беластоцкай вобласці 27 чэрвеня і ў трохдзённы прамежак ахопліваць чарговыя вобласці ва ўсходнім накірунку. Аднак маланкавы рух нямецкага наступлення стаўся прычынаю ранейшага загаду Берыі, выдадзенага шэфам НКУС ужо 23 чэрвеня, каб эвакуацыя распачыналася неадкладна. Праўдападобна адначасова было вырашана аб селекцыі вязняў і эвакуацыі толькі іх часткі. З-за хаатычнага адступлення савецкіх войскаў і выкарыстання чыгункі ў асноўным для перавозу войскаў і дзяржаўнай маёмасці, эвакуацыя зрабілася ў большасці выпадкаў немагчымай.

З некаторых турмаў выправадзілі пехатой канвоі вязняў, з іншых турэмны персанал уцёк пасля захопу зброі, тайных дакументаў і дэпазітаў, пакінуўшы вязняў зачыненымі. Уваходзячыя нямецкія атрады станавіліся іх вызваліцелямі.

Значна горшы аказаўся лёс турмаў, якія знаходзіліся на поўнач і ўсход ад лініі фронту. Тут органы НКУС наогул абыходзіліся з вязнямі аднолькава і згодна з указанымі зверху прадпісаннямі. На падставе спісаў, зацверджаных абласным пракурорам, у першую чаргу расстрэльвалі ўжо прысуджаных і асуджаных да найвышэйшай меры пакарання, а таксама асуджаных і падаз-

раваных у *контррэвалюцыйнай* дзейнасці, якім пагражалі вялікія тэрміны. Гэта датычыла таксама зняволеных на падставе артыкула 170 КК, дэкрэту ад 07.08.1940 года, а таксама вінаватых у вялікіх растратах. Экзекуцыі праводзіліся, калі дазваляў час у падвалах турмаў, калі не, расстрэльвалі на турэмнай тэрыторыі. Рэшткі закопвалі, ці стараліся ўкрыць іншым спосабам. Тое, што выявілася пазней таксама і ў Беразвеччы, даводзіла, што жывадзёры мелі дастаткова шмат часу, каб падвергнуць ахвяр катаванню. У святле распаведаў шматлікіх асобаў трэба прызнаць, што ў Беразвеччы мелі месца такога роду масавыя забойствы вязняў і катаванні. Не магчыма, аднак, устанавіць колькасць гэтай з'явы. Акруговая Камісія вывучэння злачынстваў супраць польскага народа ў Лодзі на падставе ацэнкі ўстанавіла, што з 17.09. 1939 да 24.06.1941 года на тэрыторыі турмы НКУС у Беразвеччы замардавана ад 400 да 800 вязняў.

Лёс астатніх вязняў залежаў ад рашэння пракурора. Прысуджаныя за простыя злачынствы, парушэнне дысцыпліны працы, крадзеж, хуліганства, а таксама інваліды маглі быць выпушчаныя да дому. Рэшту належала эвакуіраваць у глыб СССР.

Нягледзячы на цяжкасці, усё ж здолелі пэўную колькасць вязняў эвакуіраваць чыгункай. І, як аказалася пазней, ім у большасці ўратавалі жыццё. Рэшту вязняў у пешых калонах пад моцным эскортам гналі на ўсход, пры гэтым бязлітасныя канваіры здзекаваліся і мардавалі вязняў. Такі лёс спаткаў вязняў, выпраўджаных з Беразвечча, Вілейкі, Валожына, Мінска, Чарткова і іншых мясцовасцяў. Забівалі іх па дарозе па выдуманых прычынах бунту ці спробы ўцёкаў. Найбольш драматычны і крывавы ход мела эвакуацыя Беразвечча.

Панічныя ўцёкі савецкіх сіл ад немцаў не перашкаджалі НКУС у суцэльным, бяспраўным абыходжанні з безабароннымі вязнямі. Гэта не былі самавольныя выпадкі асобных функцыянераў. Цяжка ўявіць, што адбывалася гэта без навучаных злачынных метадах дзейнасці і дакладных інструкцый, як было ўчынена раней у Катыні супраць польскіх палонных афіцэраў і паліцыянтаў.

Праз пяцідзесяцігоддзе драма вязняў Беразвечча заставалася шырока невядомай, і толькі на пачатку дзевяностых гадоў апублікавалі паказанні нешматлікіх ацалелых удзельнікаў *"дарогі смерці"*. Далей істотнае праясненне шэрагу справаў прынесла ў 1995 годзе праца К. Папіньскага, А. Какурына і А. Гурыянава, якая ўтрымлівала інфармацыю, што апіралася на дакументах НКУС і паходзіла з Дзяржаўнага Архіва Расійскай Федэрацыі. Дапаўня-

ла яна і ў большай ступені спраўджвала паказанні сведак. Аднак засталося шмат пытанняў, адказы на якія могуць знаходзіцца ў нявыяўленых да гэтага часу постсавецкіх дакументах. Хочацца мець надзею, што і тыя дакументы ўбачаць дзённае святло.

Паводле Папіньскага, 24 чэрвеня 1941 года з Беразвечча былі выpraваджаны дзве групы вязняў. Першая, *якая налічвала каля тысячы маладых, здольных да працы асобаў*, была выслана чыгуначным транспартам са станцыі Глыбокае ў ваколіцы Куйбышава. Аб ходзе эвакуацыі той групы пасля таго нічога не вядома. Лёсы астатніх вязняў можам прасачыць на падставе паказанняў Паўла Кожуха, Яніны Семяноўскай, Міхала Баговіча і Яна Малейкі.

Павел Кожух, член Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі, у польскія часы за сваю дзейнасць быў вязням Бярозы Картузскай, восенню 1939 года быў арыштаваны НКУС і больш за 1,5 гады быў вязням Беразвечча. 24 чэрвеня, калі ўжо світала, разбудзіў яго адгалос салдацкіх ботаў, які даходзіў з турэмнага калідору. *“Уставайце стары Пронька і іншыя вязні,”* – так пачыналася яго паведамленне. Спачатку думалі, што прыйшоў новы транспарт, бо ў дзвярах камер з’явіліся ўзброеныя аўтаматамі жаўнеры ўнутраных войскаў. Прагучаў загад: *“З лахамі на падворак!“*. *“Не мелі часу нават спужацца,”* – заўважае Кожух. Выходзілі ўсе, з усіх камер, мужчыны і жанчыны. На загад *“убірацца”* ўсе селі пад мурам і зацягнулі свае *лахі*.

Яніна Семяноўская, вязень таксама з паўтара гадавым стажам распавядала: *“Як трапілі на падворак, толькі тады ўсвядомілі сабе, якая вялізная колькасць людзей стаяла на панадворку.”*

Вока дасведчанага турэмнага бывальца Кожуха заўважыла там натоўп людзей, якія ўжо сядзелі на зямлі, адрозных ад пенсіянераў Беразвечча. Некаторыя былі лепш убраныя, абутыя, мелі торбы, загарэлыя, затое больш спужаныя. Няма сумневу – гэта нядаўна арыштаваныя. Убачыў сярод іх нават знаёмых: Альхімовіча, свайго настаўніка, доктара Гушчу, у якога лячыўся. Пачуў нарастаючы гук… гэта самалёты. Можа гэта вайна? Павел Кожух: *“Дай Божа, каб гэта вайна, толькі яна можа прынесці свабоду… Калі ўсе катакомбы апусцелі, пачалі нас паспешна ставіць па пяць. Нядаўна арыштаваных паставілі ўперадзе калоны, а нас у канцы… Калі падыходзілі мы бліжэй да мура, было выразна відаць сляды свежай капанай зямлі. Налічыў восем вялізных плям, не меў сумнення, што гэта начная работа нашых апекуноў”*.

Калі калона стала гатовай да маршу, кіраўнік канвою крык-

нуў: *“Арыштанты! Увага! Крок у бок азначае спроба ўцёкаў, канвой страляе без папярэджання! Калона марш!”*

Вакол няшчасных, пакідаючых Беразвечча, акружаных вартай з сабакамі-аўчаркамі і коннымі энкэвэдзістамі, з’явіліся навакольныя жыхары, якія намагаліся што-небудзь падаць вязням. Апавядае Міхал Баговіч, адзін з ацалелых удзельнікаў калоны: *“...вакол нас бегалі людзі з торбачкамі, пачкамі, пітной вадой... Кожны хацеў убачыць свайго і ўручыць, што меў, і з тае прычыны паўстаў хаос... варта адгароджвала сабакамі і не можна было падаць, а ні ўзяць”*. Тады Баговіч перажыў страшнае відовішча, калі яго швагер Конрад упаў у шарэнзе і быў біты прыкладам канваіра, які западозрыў яго у спробе ўцёкаў.

З паказанняў Я. Семяноўскай і іншых асобаў вынікае, што структура калоны была наступнай: уперадзе ехаў конны патруль энкэвэдзістаў, за ім *шмат фурманак*, загружаных скрынямі, пакамі (турэмная дакументацыя?), па чарзе ішло *вельмі шмат войска*, рэзервісты (некамплектна абмундзіраваныя). Потым пачыналася калона палітычных вязняў, найперш мужчын, затым жанчыны (каля 500), вязні (непалітычныя), цывільныя асобы. Інтэрвалы паміж асобнымі групамі складалі 30 – 40 метраў. У значнай адлегласці за калонай ехалі фурманкі, якія везлі сем’і функцыянераў НКУС. Аховай канвою з’яўляліся абмундзіраваныя энкэвэдзісты, міліцыя і пагранічнікі – *у поўным узбраенні з сабакамі*. Такой падавалася структура калоны ў хвіліны маршу, узноўленая ў памяці яе ўдзельнікамі пасля многіх гадоў; адкуль маглі паходзіць пэўныя недакладнасці і недакладныя фармулёўкі. Даўжыню ўсёй калоны Баговіч ацэньвае каля 1500 метраў. Рухаючыся палявымі дарогамі, канвой пасоўваўся на паўночны ўсход. Я. Семаноўская: *”...Раз ішлі мы свабодна. Другім разам гналі нас, каб далучыцца да галавы калоны. кожны быў на мяжы сілаў ... змучаныя валяліся, а хто валіўся, гінуў ад куль катаў... перамяшаліся шарэнгі кабет і мужчын.., здабывалі ў сябе апошнія сілы, абы паспець і не заваліцца на дарозе, бо не было ўжо мовы аб падняцці...”*

Аб іншым перапынку ў маршы кажа Баговіч: *”Пастой быў на вялікім лузе, дзе працякаў ручай. Дазволілі нам піць ваду. Пыталіся мы, што з намі будзе. Не чакалі мы доўга, заехаў газік, з яго вылезла некалькі савецкіх афіцэраў... Потым зрабілі сіта. Пыталіся, хто за што зняволены, і накіроўвалі адных управа, другіх улева. Невядома, з якой мэтай было гэта размеркаванне.”*

Ян Малейка:*”У першы дзень маршу далі нам па кавалку хлеба, а на другі дзень хлеба не хапіла – далі па жмені крошак... вадапо-*

*ямі таксама карысталіся рэдка…"*

Павел Кожух: *"Мы ішлі на сустрэч сонцу, якое штораз больш паліла і ўзмацняла смагу. Глыток вады – гэта была мара, аб якой не можна было думаць. Ішлі мы нашча. Голад круціў кішкі… Гналі нас перад сабой і загадвалі часта падаць, калі налятаалі самалёты… Па тых, хто варушыўся, канваіры стралялі…"*

Міхал Баговіч: *"25 чэрвеня раніцаў выбухнуў бунт з прычыны голаду і смагі. Людзі дамагаліся вады. Некалькі асобаў ізноў уцякло ў лес на адлегласць 50 – 100 метраў. У такія хвіліны гучала: "Ложись!" Не можна было падняць галавы. Былі чутны стрэлы і пагоні з сабакамі па лесе, калі толькі сціхла, зноў ішлі. У той дзень два разы пралятаў над намі самалёт, па шуму матора здагадваліся, што нямецкі."*

Павел Кожух: *"...ужо ледзьве рухаемся. Нашы канваіры таксама ледзь ідуць… Калона скарачаецца… ратуе аднак мяне тое, што маю толькі 32 гады, жалезнае здароўе і моцную волю. Каторыя суткі маршыруем, бадай што на астатнім дыханні рухаемся, бедныя сабакі таксама ўжо вывесілі языкі і не вурчаць на нас… Ніхто і нішто не можа прыспешыць нашага руху, а ні біццё, а ні аўчаркі. Калона складалася ўжо толькі з нядаўна арыштаваных ці маладых вязняў, рэшта засталася на дарогах і ў прыдарожных равах. Ішоў у сярэдзіне калоны… далей ад пабояў, сабакі і чалавека, страшнейшага за ўсялякага сабаку... Ішоў босы, бо боты паранілі мне ногі, і скінуў іх…"*

## Злачынная экзекуцыя

Тым часам набліжаўся фінал, якога нешчасліўцы не прадчувалі. Быў сонечны ранак 26 чэрвеня. Калона дасягнула мястэчка Ула над Дзвіной.

Міхал Баговіч: *"Выйшлі мы на драўляны мост праз вялізную Дзвіну. З пераду калоны некалькі асобаў скочыла ў раку. Нягледзячы на тое, што ўмелі плаваць, іх дагналі кулі… Жыхары таго мястэчка крычалі: "Таварышы, дакуль праводзіце гэтых бандытаў, польскіх свіней. Біць іх на месцы!"*

Яніна Семяноўская: *"…пасля пераходу шырокага драўлянага маста… і далейшага кароткага маршу, над калонай праляцела 15 – 17 нямецкіх самалётаў. Выстраліла чырвоная ракета ўверх – падаць, ахова 30 – 50 метраў па баках у кустах. Нямецкія самалёты пасля выканання 2 – 3 кругоў над калонай, не абстралялі яе, адляцелі і ў адлегласці 2 – 3 км правялі бамбардзіроўку… Гэта быў знак для нашых валадароў і катаў! На гэты сігнал раптам выбеглі ўсе, па дарозе рэпеціруючы зброяй. Пачалі з галавы кало-*

*ны!*

Міхал Баговіч: *“І раптам жудасны гук, як сотня молатаў – секлі з кулямётаў. У галаве калоны, спераду пачуліся страшныя крыкі, паміж іншых чулася: браты, у нас страляюць!”*

Павел Кожух: *“Я, кіраваны інстынктам, не падаў на праезжую частку, а ўздоўж рову. Калі серыя з кулямёта працяла паветра, скаціўся ў роў, і кулі ішлі нада мной, гэтым часам быў у бяспечным месцы... Ляжаў дагары, а нада мной свісталі хмары куль. Кулямёты, як раптам забрахалі, там раптам і змоўклі... Хто паказваў знакі жыцця... быў дабіты з рэвальверу, ці праткнуты штыхом. Да мяне паміж камянямі тачылася чорная змейка крыві, ад якой ішла пара. Працягваю да яе руку, мажу шчаку і ляжу далей, прыслухоўваючыся.., вакол мяне зрабілася ціха... Чуў як калоціцца сэрца.., ніхто да мяне не падыходзіў. Завалілі мяне кучай трупаў ...урэшце скінуў труп, які мне найбольш перашкаджаў... Уцякаў праз сябе ў бок сцяны лесу. Дзесь з тылу чуваць карабінавыя стрэлы, інстынкт падказаў мне, што гэта стралялі ў мяне.”*

Паўлу Кожуху пашчасціла. Падобным чынам выжыла яшчэ некалькі чалавек. Пры дапамозе добрых, бедных людзей пасля некалькіх дзён дабраўся дадому. У Беразвеччы, ужо пад нямецкай акупацыяй, маці шукала яго сярод парэшткаў вязняў, якія заставілі пасля сябе каты з НКУС.

Падобны ход падзей мела выратаванне Міхала Баговіча і Яна Малейкі, якое аднак закончылася менш удалым фіналам.

Міхал Баговіч: *“...раптам сціхла... з канвою ані жывой душы, адзіна што, недабіткі нашых уцякаюць да аддаленага лесу, што за 300 метраў. Забраў мяшок з рэчамі і пабег... У лесе было нас 10 – 12 асобаў... Пасля некаторага часу акружылі нас цывільныя і завялі ў вялікі драўляны дом, які быў акружаны вайскоўцамі”.*

Ян Малейка: *”У пэўны момант экзекуцыйная серыя стрэлаў сціхла, ...спаткаў знаёмага і пастанавілі мы ісці ў накірунку маста.., не магу зразумець, як маглі мы зрабіць такое рызыкоўнае глупства. Перад мастом стаялі два ахоўнікі.., пасадзілі нас на цягнік разам з мешанінай недабіткаў з розных турмаў і павандравалі мы далей на ўсход. Колькі мела шчасця застацца пры жыцці? Маю сумненне, ці можна было далічыцца сотні”.*

З пазнейшых паказанняў жыхароў Таклінова-Мікалаева вынікала, што рэшткі забітых загадалі перавесці жыхарам бліжэйшага калгаса ў Таклінове і пахаваць у капцах, у якіх раней захоўвалася бульба. Аказалася, што трое мужчын яшчэ жылі, але былі цяжка параненыя і хутка памерлі.

## Лёсы вязняў і катаў

Калі нямецкія войскі прыйшлі ў Таклінова-Мікалаева, то правялі эксгумацыю забітых. Целы выцягнулі з капцоў і перанеслі да краю лесу ў Мікалаеве, дзе пахавалі на паляне ў агульнай магіле. Успаміны сведак кажуць, што спачыла там некалькі тысяч людзей.

Успаміны некалькі ацалелых ад пагрому пад Мікалаевым вязняў прадаставілі інфармацыю, якая ахоплівае апошнія дні чэрвеня 1941 года. Забітыя вязні былі пахаваныя ў ямах з-пад бульбы, пэўную частку злоўленых (каля 100 асобаў?) змясцілі ў Віцебскую турму, пасля чаго выслалі ў невядомым накірунку. Адной асобе ўдалося уцячы і вярнуцца дадому.

Далейшы лёс ацалелай ад расстрэлу часткі вязняў і іх катаў на некалькі гадоў засланілі падзеі праходзячай вайны.

Праз шмат гадоў пасля яе заканчэння да публічнага ведама прадставіліся дакументы, асвятляючыя, на жаль, некаторыя толькі здарэнні, якія мелі месца ў Віцебску ў першыя дні ліпеня 1941 года, і праз пару месяцаў пазней у Казані. Яны былі прадстаўлены А. Какурыным у *"Дарогах смерці"*. Аднак не высветлілі ўсіх цікавячых нас спраў.

З першага дакумента, які з'яўляецца рапартам намесніка начальніка Упраўлення турмаў НКУС СССР, вынікае, што: *"Падчас эвакуацыі вязняў з турмы ў Глыбокім ... вязні-палякі пачалі крычаць: няхай жыве Гітлер! Начальнік турмы Прыёмышаў давёў іх да лесу і, як пазней засведчыў, расстраляў да 600 асобаў. Па ўказанні ваеннага пракурора войск НКУС Прыёмышаў быў у Віцебску арыштаваны. У той справе праведзена следства, матэрыялы якога перададзены члену Ваеннага Савета Цэнтральнага Фронту, Сакратару ЦК КП(б)Беларусі тав. Панамарэнку. Таварыш Панамарэнка прызнаў дзеянні Прыёмышава правільнымі і ў дзень уступлення немцаў у Віцебск вызваліў яго з-пад арышту. Дзе ў гэты момант знаходзіцца Прыёмышаў невядома, ніхто яго не бачыў."*

Адначасова гэты дакумент указвае на прызнанне, што Прыёмышаў мае непасрэднае дачыненне да злачынства, і на факт, што камуністычны заправіла Панамарэнка апраўдаў яго і вызваліў ад віны і адказнасці, прыняўшы абсурдную хлусню аб польскай правакацыі.

Значна больш святла на акалічнасці злачынства Прыёмышава пакідае другі дакумент, які напісаў 5 ліпеня ваенны пракурор Віцебскага гарнізону, ваенны юрыст 3 рангу Глінка ваеннаму пракурору Заходняга Фронту Румянцаву. Фрагмент пісьма Глінкі

прыведзены ў *“Дарогах смерці”*:

*“Учора 4 ліпеня прадстаў перада мной арыштаваны і аддадзены пад суд ваеннага трыбуналу былы начальнік турмы Глыбоцкага раёна Вілейскай вобласці, зараз начальнік Віцебскай турмы, сяржант дзяржбяспекі, член ВКП(б), які 24 чэрвеня суправаджаў з турмы ў Глыбокім да Віцебска 916 асуджаных, а таксама вязняў, якія знаходзіліся пад следствам. У дарозе гэты начальнік турмы Прыёмышаў у розны час і ў два этапы расстраляў 55 асобаў, а ў мястэчку паблізу Улы падчас налёту самалётаў непрыяцеля загадаў канваірам, якіх было 67, расстраляць астатніх, і забіта яшчэ 65 асобаў. У гэтых бясправўных экзекуцыях Прыёмышаў браў асабісты удзел з рэвальверам у руках. Свае дзеянні тлумачыць тым, быццам вязні хацелі ўцякаць і крычалі: няхай жыве Гітлер! Сярод вязняў было каля 500 асуджаных за контррэвалюцыйныя злачынствы і 400 асуджаных за простыя злачынствы, у тым ліку згодна з дэкрэтам ад 26.06.1940 года. Гэта справа раніцай будзе перададзена ваеннаму трыбуналу па абвінавачванні згодна з артыкулам 180 п. “Б” Крымінальнага Кодэкса, пасля чаго, відавочна, будзе расстрэл. Прашу Вашу згоду.*

*Паводле паказанняў Прыёмышава, расстраляныя 714 вязняў. На падставе персанальных спраў установлена, што сярод тых вязняў больш за 500 было пад следствам, акрамя таго, без ніякіх падстаў усе яны былі бясправўна расстраляныя. Начальнік Упраўлення НКУС Віцебскай вобласці тав. Мотаўкін і намеснік наркома НКУС Беларусі тав. Пташкін зараз мяне просяць, каб таго Прыёмышава вызваліў ад судовай адказнасці. Такія паводзіны гэтых асобаў лічу абураючымі”.*

Нечаканае і паслядоўнае стаўленне пракурора Глінкі, які не сагнуўся пад партыйна-дзяржаўным прэсам апаратчыкаў, хаця і не здолеў давесці да пакарання жывадзёра. Дзякуючы ім кат Прыёмышаў растаяў у ваеннай завірусе.

У *“Дарогах смерці”* сярод інфармацыі аб ад’ездах і руху транспартаў з турмаў НКУС Заходняй Беларусі знаходзяцца таксама ўзгадкі, звязаныя з турмой у Беразвеччы, вось іх змест:

*“29. Глыбокае – з рапарту намесніка начальніка турмы ў Глыбокім тав. Табера вынікае, што ўсіх 830 вязняў і ўвесь персанал выправадзілі пехатой у Віцебск. У час пераходу калоны з Глыбокага ў Віцебск расстралялі 714 вязняў. Транспарт з 263 вязнямі з Глыбокага (7 вагонаў) 15 ліпеня 1941 года знаходзіўся ў Пензе, а 20 ліпеня 1941 года транспарт з 261 вязням з Глыбокага прыбыў у Казань”*. Гэта інфармацыя адназначна не дае тлумачэнняў, ці

гэта быў той транспарт, які выехаў з Глыбокага 24 чэрвеня незалежна ад пешага канвою, ці таксама злучаў недабіткі з-пад Мікалаёва (павялічаныя мажліва асобамі, далучанымі з іншых турмаў). Паўстае сумнеўным, таму што Папіньскі гаворыць аб высылцы чыгункай з Глыбокага *каля тысячы маладых людзей*, таксама з факту, што ў Казані апынуліся апроч Прыёмышава, у поўным складзе функцыянеры, якія кіравалі пешым канвоем.

Стараючыся пазнаць лёс групы, высланай 24 чэрвеня чыгункай, належыць звярнуць увагу на другую інфармацыю: *"9. З Полацка транспарт з неўстаноўленай колькасцю вязняў 5 ліпеня мінуў Тамбоў, накіроўваючыся ў Табольск. Гэты транспарт №742 з 629 вязнямі прыбыў у Цюмень – з яго складу 185 вязняў размясцілі ў Цюмені, а 444 накіраваныя ў Табольск"*.

Вядома, што ў чэрвені 1941 года на тэрыторыі Дзісненскага павету, а таксама ў гарадах Глыбокае і Дзісна ў вялікай колькасці былі здзейснены арышты. Яшчэ 23 чэрвеня арыштавалі ў Дзісне шэраг асобаў,  групу польскай інтэлегенцыі. Гэтых людзей перавезлі грузавіком у Полацк, дзе яны там знаходзіліся некалькі дзён, пасля чаго былі вывезены ў Табольск. Усе вядомыя асобы, арыштаваныя ў Дзісне, знаходзіліся ў Табольску. Аднак існуе версія, што з Дзісны частку выслалі ў Беразвечча, Полацк быў на трасе на ўсход. Ці затым у транспарце з *неўстаноўленай* колькасцю вязняў магла знаходзіцца група, якая 24 чэрвеня выехала чыгункай з Глыбокага? Часовыя крытэрыі не выключаюць ніводнай з разгляданых магчымасцяў, але шмат няўпэўненасці прычыняюць дадзеныя лічбы. У дарозе магло даходзіць да дзялення транспарта і далучэння да іншых.

Несумненна, далёкай яшчэ ёсць дарога да высвятлення не толькі ходу эвакуацыі турмаў НКУС, але і іншых спраў, звязаных з пеклам перыяду акупацыі. Адзінае, што можа дапамагчы ў гэтай справе, гэта вывучэнне архіваў, асабліва постсавецкіх. Гэта пацвярджае той факт, што дзякуючы рассакрэчванню некаторых запаснікаў дзяржаўнага Архіва Расійскай Федэрацыі ў Маскве, сталася *справай зусім невераroднай*, як акрэсліў гэта А. Главацкі. Тая сенсацыя ўяўляецца наступнай:

Ужо ўзгадвалася, што функцыянеры з канвою *дарогі смерці* знаходзіліся ў Казані ў Татарскай АССР. Аказваецца, што былі пакараны за тое, што не давялі ў цэласці канваіраваную калону да месца прызначэння. З рассакрэчаных дакументаў даведваемся аб выніках пазнейшага следства, якое закончылася прысудам ваеннага трыбуналу войск НКУС Татарскай АССР ад 13 верасня 1941 года.

Сілай таго прысуду пяць функцыянераў, якія канваіравалі вязняў Беразвечча да Віцебска, атрымалі высокія пакаранні.

Следства ўстанавіла, што ў час маршу калоны вязняў у выніку ўцёкаў аднаго з іх начальнік турмы Міхаіл Прыёмышаў, а таксама Абрам Табер, Васілій Малінін, Васілій Мохаў, Пётр Скрабнеўскі і палітрук Рабінзонаў расстралялі без якіх-небудзь падстаў 27 вязняў. Гэта адбылося перад забойствам каля местэчка Ула, у час якога расстралялі наступных 714 вязняў. Прыёмышаў быў у той час пазбаўлены ад адказнасці сакратаром ЦК КПБ(б) Беларусі Панцелеймонам Панамарэнкам, які паставіў яго нават на пасаду начальніка турмы ў Віцебску. Паколькі месца пражывання Прыёмышава невядома, да адказнасці прыцягнулі астатніх пяць функцыянераў, якія кіравалі канвоем.

Ваенны Трыбунал войск НКУС Татарскай АССР пасля разгляду справы без удзелу бакоў 13 верасня 1941 года прызнаў пяць абвінавачаных вінаватымі *ва злоўжыванні службовым становішчам, якія выразіліся ў расстрэлах без ніякіх падставаў 714 асобаў – вязняў, што азначала здзяйсненне злачынства прадугледжанага ў арт. 193 -17, пункт "б" Крымінальнага Кодэкса РСФСР і кіруючыся артыкуламі 319 і 329 Кодэкса, прыгаварыў (прысуд №121) да смяротнага пакарання праз расстрэл:*

*Абрама Хаймавіча Табера, яўрэя, члена ВКП(б), намесніка начальніка турмы НКУС у Глыбокім,*

*Васіля Андрэевіча Мохава, рускага, камсамольца, намесніка ўпаўнаважанага следчага турмы ў Глыбокім.*

*Акрамя таго, пазбавіць волі на 10 гадоў з адбыццём пакарання ў лагерах прымусовай працы:*

*Васіля Мікалаевіча Малініна, рускага, члена ВКП(б), дзяжурнага памочніка начальніка турмы ў Глыбокім.*

*Івана Якаўлевіча Баталава, рускага, беспартыйнага, дзяжурнага памочніка начальніка турмы ў Глыбокім.*

*Пятра Іванавіча Скрабнеўскага, беларуса, члена ВКП(б), сакратара турмы ў Глыбокім.*

Аб выкананні смяротнага прысуду Таберу і Мохаву начальнік турмы НКУС Татарскай АССР перадаў 9 кастрычніка 1941 года рапарт начальніку Аддзела турмаў НКУС СССР.

Інфармацыя, якая датычылася ўмоваў у турме ў Беразвеччы, а таксама факты знішчэння часткі вязняў перад эвакуацыяй, пазасталых *дарогай смерці* выйшлі на свет пасля заняцця Беразвечча нямецкімі атрадамі, а таксама дзякуючы пазнейшым паказанням вязняў, якія перажылі там турэмнае зняволенне. На-

далей застаюцца невядомым асабістыя дадзеныя ўсіх вязняў перад эвакуацыяй 24 чэрвеня 1941 года, аднолькава як і забітых на месцы, так і высланых чыгуначным транспартам і выправаджаных пешым канвоем. Невядома таксама, колькі асобаў ацалела пасля масавага забойства на *дарозе смерці*, і які быў іх далейшы лёс.

Акрамя асуджаных пяці функцыянераў НКУС не ведаем нічога аб астатніх асобах, якія вінаватыя за забойствы перад і ў час эвакуацыі.




**Крыж пакутаў на месцы пахавання ахвяраў НКВД у вёсцы Мікалаева Шумілінскага раёна.**
*Фота Міхася Баўтовіча*

# РАЗДЗЕЛ V
# НЯМЕЦКАЯ АКУПАЦЫЯ 1941 – 1944 ГАДЫ

*Бальшавізм з'яўляецца смяротным ворагам нацыянал-сацыялістычнай Германіі (...), бальшавіцкі салдат страціў усялякае права да стаўлення да яго, як да сапраўднага салдата, паводле асноў жэнеўскай канвенцыі(...). Непаслушэнства, актыўнае або пасіўнае супраціўленне мусіць быць зараз жа цалкам зламана пры ўжыванні зброі (штыкоў, прыкладаў, агнястрэльнай зброі) (...) Ужыванне зброі ў адносінах да савецкага ваеннапалоннага лічыцца паводле статута за згодную з правам (...), хто не ўжывае, ці замала энергічна ўжывае зброю, падлягае пакаранню.*

З тайнага распараджэння Галоўнага Камандавання Вермахту, якое датычыла стаўлення да савецкіх палонных ва ўсіх лагерах для ваеннапалонных з 8 верасня 1941 года.

## Адкрыццё турмы НКУС

3 ліпеня 1941 года нямецкія атрады занялі Глыбокае і ўступілі на тэрыторыю бальшавіцкай турмы. Хутка разышліся весткі аб знойдзеных там парэштках закатаваных вязняў. Брамы былі адчынены, і навакольнае насельніцтва ўваходзіла без перашкод. Асабліва прыбывалі сем'і арыштаваных, каб знайсці якія-небудзь сляды сваіх бліжніх. Немцы адкапвалі свежыя зборныя магілы і даследавалі іх, аднак парэшткаў не эксгумавалі. Не падлягае сумневу, што ўсё яны скрытна сфатаграфавалі і апісалі.

Пасля некалькіх дзён, калі фронт пасунуўся далей на поўнач, з'явіліся пагалоскі аб здзейсненым НКУС забойстве вязняў, якіх выправадзілі 24 чэрвеня. Паходзілі яны ад асобаў, якія прайшлі па слядах канвою і дайшлі да Улы. Узбуджэнне грамадскасці было вельмі вялікім, але не атрымала занадта шырокага ахопу, як здаецца, з прычыны недахопу сродкаў перказу, блізкасці фронту і шмат іншых праблемаў, звязаных з акупацыяй, якія ўсіх моцна закранալі. Таму справа замардаваных НКУСам досыць хутка прыціхла, застаючыся праблемай сем'яў, якія жылі надзеяй атрымаць весткі аб лёсе сваіх бліжніх. Спаўненне той надзеі аб'ядноўвалася з чаканнем канца вайны, якая яшчэ ішла некалькі наступных гадоў.

Сярод вядомых зараз паказанняў, найбольш чэсным, якое датычылася лютасці савецкіх НКУСаўцаў у Беразвеччы, было паказанне К.К., жыхара фальварка Атвалоўшчызна Галубіцкай гміны. Ён быў вывезены немцамі на работы, а потым знаходзіўся ў войску польскім на Захадзе. 8 сакавіка 1945 года перад палявым судом 3 ДСК зрабіў заяву. З яе вынікае, што немцы пасля заняцця Глыбокага знайшлі ў Беразвеччы вялікую колькасць забітых вязняў. К.К. *з цікавасці* адправіўся туды ў кампаніі са сваім бацькам і калегай. Засталі адкрытымі турэмныя будынкі. К.К. сведчыў: *"Былі ў трох памяшканнях аднаго будынка, і ў кожным з тых памяшканняў ляжалі парэшткі мужчын, апранутых у цывільную вопратку і вайсковую польскай арміі, жанчын і дзяцей. Шмат трупаў было ў кожным з тых памяшканняў, не ўмею сказаць, ва ўсялякім разе было іх вельмі шмат, у іншых памяшканнях і будынках таксама знаходзілі кучы парэшткаў, аднак іх не аглядалі, хаця доступ для насельніцтва быў адкрыты... Тыя парэшткі, якія бачылі, мелі на шыі петлі... з дроту ці шнурка. Апроч таго бачылі, што некаторыя дарослыя людзі мелі цалкам паадразаныя вушы і насы. Іншыя мелі адрэзаныя пальцы, а ў некаторых мужчын бачылі ўбітыя пад пазногцямі іголкі. Бачылі, як шмат людзей знаходзілі сваіх крэўных сярод трупаў. У памяшканнях, у якіх аглядалі парэшткі, былі яны як свежыя, не былі ў гніенні і не смярдзелі. З падвалаў жа тых будынкаў выносілі таксама парэшткі, якія былі ў пачатковым разлажэнні і смярдзелі. Чуў, што на наступны дзень нямецкія вайсковыя ўлады загадалі пахаваць тыя целы, якія не забралі сваякі ці знаёмыя, на мясцовым могільніку ў Беразвеччы."*

З іншых паказанняў, якія далі польскія жаўнеры на Захадзе, адно паходзіла ад жыхара Язна Дзісненскага павету, які інфармаваў: *"Пасля ўступлення немцаў адчынілі турму ў Беразвеччы. Усіх вязняў знайшлі забітымі. Некаторыя мелі паадразаныя вушы і насы, выкалатыя вочы. Шмат людзей ездзіла ў Беразвечча і пазнавала сярод іх сваіх крэўных і знаёмых"*.

Гэта былі першыя сігналы аб забойстве, што ўчынена супраць вязняў Беразвечча, якія з'явіліся на Захадзе яшчэ перад канцом вайны. Быць можа, з прычыны на занадта шакіруючага зместу прызналі іх за мала верагоднымі і не імкнуліся распаўсюджваць. Атмасфера вайны, што заканчвалася, была насычана мноствам падобных сенсацыйных зверстваў, якія адбываліся на фронце і па-за ім, таму трэба было трактаваць іх асцярожна.

Цяпер ведаем, што заходнія члены альянсу мелі цалкам пэўныя звесткі аб забойствах НКУС, што ўчынены супраць палякаў.

Выкрыццё ў 1943 годзе немцамі магіл польскіх афіцэраў у Катыні было толькі адным з пераконваючых довадаў.

Акрамя таго, у ходзе вайны, а таксама пасля яе заканчэння, як Злучаныя Штаты, так і Вялікабрытанія пазбягалі разгалашэння савецкіх зверстваў, і нават прыглушалі ўсялякія весткі на гэту тэму. Гэта служыла прычынай неабвастрэння адносін з саюзнікам. Адмова на Нюрнберскім працэсе стаўлення абвінавачвання немцамі забойстваў у Катыні і містыфікацыяй ёсць адным з довадаў на гэта.

Сітуацыя, якую засталі немцы ў Беразвеччы і іншых савецкіх турмах, была імі шырока выкарыстана для прапагандысцкіх мэтаў на міжнароднай арэне. Тут на месцы нават не патрабавалася нікога пераконваць аб чым-небудзь. Тое, што ўбачылі людзі на ўласныя вочы ці даведаліся аб зверствах НКУС, канчаткова пагружала савецкую сістэму, як крывадушны і нялюдскі лад, кароткае панаванне якога на Крэсах Усходніх Рэчы Паспалітай прынесла людзям невымерныя пакуты. У той час нават пракамуністычна настроеная частка беларускага народа засумнявалася ў слушнасці ідэі, якой іх зачароўвалі. У шмат каго з'явіліся прыхільныя настроі да немцаў, хаця іх пачынанні, якія абапіраліся на перакананні аб пераважнасці сваёй расы, назіраліся з вялікім недаверам. Іншая частка беларусаў, якія памяталі вельмі прыхільную палітыку немцаў па прычыне беларускай незалежнасці ў 1916 – 1918 гадах, гатовая была адразу пайсці на далёкаідучае з імі супрацоўніцтва.

Польскі народ нармальна прымаў савецка-нямецкі збройны канфлікт, не без пэўнага задавальнення і з надзеяй на тое, што абодва магутныя ворагі ўзаемна вынішчаюцца, і гэта прывядзе да сітуацыі, падобнай як у 1918 годзе, якая стварыла карысныя ўмовы новага ўваскрашэння Польшчы.

Найгоршыя настроі панавалі сярод шматлікай яўрэйскай супольнасці Крэсаў. Яўрэі разумелі безнадзейнасць сітуацыі, ад якой магла іх ураваць адзіна хуткае паражэнне немцаў. Восенню 1941 года гэтага абсалютна не назіралася.

## Сталаг 351

Тым часам новыя акупанты знайшлі абсталяваную ў кляштары турму НКУС, як аб'ект вельмі прыдатны для іх мэтаў. На працягу некалькіх тыдняў ператварылі яго ў лагер для савецкіх ваеннапалонных, які назвалі Сталаг 351. Апынуўся ён асяродкам пакуты і вынішчэння не менш бязлітасным, чым папярэдняя турма НКУС.

Кляштарная тэрыторыя была павялічана прылеглым абшарам, велічынёй каля 3 га, які расцягнуўся ў накірунку возера. Акружылі яе агароджай з двух радоў калючага дроту. Па вуглах і пасярэдзіне простых адрэзкаў садовага поля паставілі вышкі для варты, забяспечаныя рэфлектарамі і кулямётамі. На тым полі пад голым небам было змешчана тысячы ўзятых у палон савецкіх салдат, якіх хутка транспартамі пачалі прывозіць на чыгуначную станцыю Глыбокае. Створаныя ўмовы не давалі ім ніякіх шанцаў на выжыванне.

У кляштарных забудовах размяшчалася камандаванне лагеру, атрад аховы, магазіны, кухня і іншыя гаспадарчыя памяшканні.

Камендантам лагеру і камандзірам усіх нямецкіх сіл быў капітан Франц Бот, яго намеснікамі былі капітаны Вік і Вілге. Справамі забеспячэння і харчавання кіраваў афіцэр Досхман. Іншыя адміністратыўныя функцыі выконвалі афіцэры Лінсенген, Бэкер і падафіцэр Цітланго. Лагерным лекарам быў доктар Дардорк.

## Гэта быў лагер знішчэння

Усе лагеры ваеннапалонных у III Рэйху (*Офлагі* для афіцэраў і *Сталагі* для падафіцэраў і радавых) падпарадкоўваліся вайсковым уладам. Статус ваеннапалонных асноўным чынам розніўся ад статуса вязняў канцэнтрацыйных і карных лагераў, якія падпарадкоўваліся ўладзе СС. Лагеры савецкіх палонных з’яўляліся выключэннем – бо аднолькава афіцэры і радавыя знаходзіліся разам і кіраваліся ў іх такімі прынцыпамі, якія дазваляюць залічыць іх да катэгорыі “лагераў смерці”, дзе ўмовы былі горшыя, чым у канцэнтрацыйных лагерах.

Для ўсіх такога роду лагераў былі прыкамандзіраваныя групы Паліцыі Бяспекі і Службы Бяспекі (*Einsatzkommando*). Ужо 17 ліпеня 1941 года шэф Галоўнага Упраўлення Бяспекі III Рэйху Рэйнхард Гейдрых выдаў *Einsatzbefehl №8*. Гэта была інструкцыя, якая прадугледжвала размяшчэнне таксама цывільных асобаў у лагерах для ваеннапалонных. Яны падлягалі *распрацоўцы* і *селекцыі* з мэтай адасаблення важнейшых дзяржаўных і партыйных функцыянераў, камісараў палітычных, агітатараў і іншых асоб, якіх можна было акрэсліць найменнем *фанатычных камуністаў*. Кіраўнік лагернага *Einsatzkommando* быў абавязаны высылаць у Галоўнае Упраўленне Бяспекі Рэйха спісы тых выселекцыянаваных асобаў з мэтай вырашэння іх лёсу. Тыя рашэнні згодна з палажэннем патрабавалі іх ліквідацыі.

Таксама ў Беразвеччы, асабліва ў пачатковы перыяд дзейнасці

Сталагу 351, былі частымі выпадкі рэпрэсій савецкіх партыйных функцыянераў і адміністрацыі, асабліва паходзячых з тэрыторыі Усходняй Беларусі. Як гэта здаецца, немцы ліквідавалі іх без якіх-небудзь прававых працэдур на панадворку паліцэйскай управы ў Глыбокім, ці паблізу кляштара ў Беразвеччы ва ўрочышчы Барок. Некаторых перад гэтым трымалі ў лагеры. Іх жа родныя – старыя, кабеты і дзеці знаходзіліся праз пэўны час у лагеры разам з ваеннапалоннымі, хаця ўзаемныя кантакты былі забароненыя.

Напэўна, на аснове той інструкцыі ў пазнейшы перыяд у лагеры знаходіліся савецкія партызаны і цывільныя асобы, якіх немцам удалося схапіць у *партызанскай зоне*. Без уліку на тое, якія былі ў іх адносіны да партызанаў, немцы залічвалі тых людзей, як супрацоўнікаў партызанаў – *лясных бандытаў*.

Ваеннапалонных дастаўлялі чыгункай на станцыю ў Глыбокае. Прывозілі ў запоўненых вагонах без ежы і піцця. Часта параненыя ці хворыя прыбывалі ў стане крайняга знясілення. Вельмі часта не мелі верхняй вопраткі і абутку. Таму частка іх не была здольная прайсці 3 км дарогі, каб дайсці да лагера, час ад часу вызначалі падводы для перавозкі тых найслабейшых. Жыхар Глыбокага Юзаф Яноўскі, задзейнічаны для гэтай мэты, распавядаў, што немцы здзекаваліся падчас разгрузкі і білі тых знясіленых ледзь жывых людзей. Іншыя глыбачане Канстанцін Зубовіч і Аляксандр Смольскі далі паказанне перад следчай камісіяй, што былі сведкамі расстрэлу нямецкімі канваірамі тых палонных, якія па прычыне аслаблення не былі здольныя да маршу.

У лагеры здзяйснялася сартаванне паводле нацыянальнасці. Яўрэяў азначалі літарай "J", украінцаў "U", расіяне і беларусы не мелі знакаў адрознення.

Аб умовах жыцця ў лагеры распавядае Базыль Падольскі: *"Усе палонныя, у тым ліку і я, знаходзіліся пад голым небам, без уліку таго, што былі асеннія і зімовыя падзенні тэмпературы. Ратуючыся ад холаду ўсе ўкрываліся ў зямлі, рыючы сабе ямы. Кармілі нас раз у суткі, давалі 200 грамаў хлеба, ў якім было палавіна мякіны і паўлітра супу з гнілаватай бульбы, ці баланды, альбо заціркі з вотруб'я на вадзе. Толькі з прычыны холаду, голаду і хваробаў, штодзённа памірала ў лагеры ад 200 да 500 чалавек. Ад верасня да лістапада 1941 года ў выніку расстрэлаў, голаду і хвароб тут загінула каля 10 000 палонных. Ратуючыся перад немінучай галоднай смерцю, палонныя елі траву і выкапаныя з зямлі карэнні, таксама былі выпадкі канібалізму.*

*Здаралася, што расстрэльвалі і за траву, якую елі. На тэрыторыі лагеру яе ўжо не было, і калі адзін з палонных апынуўся за дротам, то быў у белы дзень застрэлены.*

*Людзі былі падобныя на жывыя трупы.., замест вачэй чорныя ямы, скулы тырчалі.., страх было на іх глядзець.”*

З дакумента Нюрнбергскага працэсу ў 1947 годзе (том XXV, с. 350) вынікае, што згодна з загадам Галоўнага Камандавання Сухапутных Войск (ОКН) з 6 жніўня 1941 года дзённае харчаванне савецкага палоннага складалася: каля 215 г хлеба (так званы “Russenbrot”), у якім 50% складала паўнавартасная жытняя мука, а астатняе бескарысныя дадаткі, напрыклад, драўнінная мука, каля 14 г мяса з косткай, каля 216 г тлушчу і каля 21,5 г цукру. Каларыйная вартасць дзённага рацыёну тэарэтычна мела 515 калорый, а практычна яшчэ менш, таму што палонныя па статусу не атрымлівалі належнага забеспячэння.

Акрамя гэтага, на парадку дня было біццё і розныя спосабы здзекаў. З абы-якой прычыны, у залежнасці ад настрою, немцы забівалі вязняў. Ян Кухто, які дастаўляў у лагер дровы не раз назіраў, як адкрывалі агонь па натоўпу палонных падчас выдачы ежы.

З паказанняў палоннага, бязрукага інваліда Уладзіміра Кабайкіна вядома, што ў Сталагу 351, выдзелена была група палонных інвалідаў, да якой накіроўвалі таксама палонных з іншых лагераў. Там былі створаны крыху лепшыя бытавыя ўмовы, хаця іх статус нічым не адрозніваўся. Пражывалі ў будынку пры кляштары, які прызначаўся пад стайню, спалі на двухпавярховых нарах з дошак. Маглі карыстацца лазняй і мелі магчымасць праводзіць дэзінфекцыю адзення. Атрымлівалі два дзённыя пайкі: раніцай на сняданне гарбата (чай) і 100 грамаў хлеба з лыжкай павідла, на абед быў суп з неабіранай бульбы і 100 грамаў хлеба. Аднак гэтага не хапала, і палонныя інваліды агалілі ад травы кляштарны панадворак. Смяротнасць сярод інвалідаў таксама была вялікая, і штомесяц прыбывала новая група на свабодныя нары.

У першыя месяцы вайны немцы мэтанакіравана стваралі такія бытавыя ўмовы для савецкіх палонных, каб пры дапамозе *натуральных чыннікаў (голаду, холаду, хвароб)* даводзіць да іх гібелі.

У 1942 годзе з’явілася думка іх выкарыстання як рабочай сілы (між іншым, для пабудовы лагеру смерці ў Асвенцыме), і адразу выявілася іх малая да гэтага прыдатнасць, як вынік лагерных умоваў утрымання. З дакументаў Нюрнбергскага працэсу ў 1947

годзе (том XXV, дак.081-PS, с.156 і наст.) вядомы ліст Розенберга – міністра акупіраваных усходніх зямель да Шэфа Галоўнага Камандавання Вермахту генерала Кейтля ад 28 лютага 1942 года. Ён пісаў, што сярод 3,6 млн. савецкіх палонных ёсць у гэты момант усяго толькі некалькі соцень тысяч здольных працаваць. Большасць іх загінула з прычыны гібелі, дрэнных атмасферных умоваў і хвароб. *У многіх лагерах ляжалі яны на снезе, пад дажджом і голым небам. Не хапала ім нават інструмента, каб маглі выкапаць паглыбленні ў зямлі ці ямы.*

У пазнейшы перыяд, асабліва ў апошні год вайны, хаця ўмовы ў лагерах для палонных былі і надалей цяжкія, адступілі ад практыкі паспешнага знішчэння палонных. Не падлягае сумневу, што матывацыя для гэтага было іх выкарыстанне як рабочай сілы для патрэб фронту.

Палонныя Сталагу 351 адчулі пэўную ліберальнасць з боку немцаў пасля іх разгрому пад Сталінградам. У той час, як сцвярджаў адзін з іх, інвалід пераведзены ў іншы лагер, развітваўся з імі ніколі дагэтуль не бачаны камендант лагеру, які пажадаў вытрымаць цяжар няволі і вярнуцца ў свае сем’і.

Сітуацыю ў першай палове 1944 года прадставіць паказанне тады маладога паляка, якога забралі ў Беразвечча падчас нямецкай акцыі супраць партызан. За дротам тады было 8-10 баракаў, якія змяшчалі па 100 – 200 асобаў. Аб існуючым у 1941 годзе лагеры пад голым небам *чулі*. Аднак бытавыя ўмовы былі і надалей цяжкімі, а смерць палонных частай. Як малады, быў вызвалены ад цяжкіх работ, але задзейнічалі яго да вывазу парэшткаў памерлых за лясок да зборных магіл. Абозны персанал налічваў 30 – 40 асобаў, складаўся ён з немцаў і ўласаўцаў. Апошнія былі ў пэўным сяброўстве з палоннымі, бывала частавалі іх папяросамі. Тым, хто хадзіў на работы, часам удавалася прынесці штосьці з ежы. Частка маладых мужчын, якіх затрымалі ў партызанскай зоне, немцы выслалі для будоўлі акопаў і засекаў у прыфрантавым раёне.

У 1943 годзе Глыбокае стала цэнтрам матэрыяльнага забеспячэння для фронту, і ў некалькіх кіламетрах на ўсход ад горада будавалі шмат складоў, а таксама земляныя фартыфікацыі. Палонныя з Беразвечча працавалі там вельмі цяжка, нягледзячы на надвор’е, каля 10 гадзін штодзённа, галодныя, іх заўсёды падганялі і часта білі. Смерці падчас працы былі ў парадку дня.

Жыхары Глыбокага штодзень мелі магчымасць аглядаць калоны, якія валачыліся на працу і з працы. Палонныя прасілі ежу, але падача чаго-небудзь была катэгарычна забаронена. Аднак

людзі рызыкавалі і стараліся што-небудзь падаць. Калі канваіры заўважалі, то рэагавалі адразу. Узгаданы вышэй Ян Кухто быў сведкам забойства канваірамі дзвюх кабет, якія хацелі падаць палонным хлеб. Іншая жыхарка Глыбокага Галіна Гаўрыльчанка бачыла, як у падобнай сітуацыі была пабіта і застрэлена кабета.

У 1942 годзе дайшло ў акрузе Глыбокае да вялікага развіцця савецкай партызанкі, якая ўскладняла свабоду дзеянняў акупантаў у асноўным праз прарыў сувязі з фронтам і знішчэнне паставак узбраення і забеспячэння. Сістэматычна праз пэўны час немцы вялікімі сіламі здзяйснялі ліквідацыйныя аперацыі супраць партызан. Наогул, рэдка даходзіла да ўзяцця вялікай іх колькасці. Часцей з тых акцый прыводзілі цывільнае насельніцтва, якое заспелі ў *партызанскай зоне* выходзячай з акружэння. Супрацоўніцтва тых людзей з партызанамі было відавочным. Такім чынам іх лічылі за *бандытаў* і ліквідавалі. Таксама маглі быць адпушчаны за выкуп, на што немцы, як паказвала практыка, часта разлічвалі. Групы такіх *палонных* трапілі ў Беразвечча. Нямецкія статыстыкі выявілі, што ў *аперацыі "Нюрнберг"*, якая праводзілася ў акрузе Глыбокае ў лістападзе 1942 года, трапіла ў няволю 342 партызаны, а пасля *аперацыі "Флітц"* у верасні – кастрычніку 1943 года 227 партызанаў. Адначасова схоплена 11724 цывільныя асобы з мэтай дэпартацыі на працу ў Германіі. Паводле ацэнкі Юзафа Бунто немцы расстралялі звыш 1000 арыштаваных у розных раёнах акругі.

Экстрэмальныя ўмовы Сталагу 351 схілялі палонных да арганізацыі ўцёкаў. Удаваліся яны рэдка адзінкавым асобам, і тады за аднаго ўцекача расстрэльвалі дзесяць. Найчасцей смельчакоў лавілі і расстрэльвалі, ці каралі біццём, якое звычайна аказвалася смяротным. Праходзячы раніцай ля лагера навакольныя жыхары бачылі вісячыя на дратах целы ўцекачоў, застрэленых ноччу ў час спробы ўцёкаў.

Аднак у некалькіх данясеннях ёсць апісанне масавых уцёкаў, якія былі здзейснены ў 1941 годзе, паводле адных у ноч з 14 на 15 кастрычніка, паводле іншых 7 лістапада. Іх ініцыятарамі была група палонных, якія валодалі яшчэ пэўным запасам сіл. Узброеныя заўчасна прыгатаванымі камянямі, у ночы рушылі на вартаўнікоў забіўшы некаторых. Ім удалося пераадолець лагерную браму, выбрацца на волю і разбегчыся ў розныя бакі. Немцы адкрылі агонь і распачалі пагоню, забіўшы звыш 600 палонных, аднак многім удалося ўцячы і зберагчы жыццё. Дзякуючы навакольнаму насельніцтву, знайшлі схованкі на бліжэйшыя тыдні, ці нават месяцы, а потым, калі немцам часам удавалася ўста-

навіць іх месцазнаходжанне, павялічвалі партызанскія рады.

Іншым разам група з шасці палонных-інвалідаў спрабавала ўцячы праз каналізацыйную трубу, праз якую ішлі сцёкі да возера. Усе былі расстраляныя.

## Італьянцы ў Беразвеччы

Пад канец акупацыі на пераломе 1943 і 1944 гадоў у вароты беразвецкага лагеру ўвайшлі зусім экзатычныя персанажы. Гэта былі італьянскія салдаты, інтэрніраваныя з Албаніі, Італіі, Югаславіі і Грэцыі пасля таго, як паміж Італіяй і антыгітлераўскай кааліцыяй наступіла прыпыненне ваенных дзеянняў і немцы прызналі іх за сваіх ваеннапалонных.

Ян Кухто, жыхар Глыбокага, добра памятае, што першы транспарт італьянскіх палонных прыбыў на станцыю Глыбокае ў канцы 1943 года. Былі яны крайне замучаныя, ледзь перасоўваліся і не мелі сіл дайсці да Беразвечча. У сувязі з гэтым немцы змясцілі іх на некаторы час у цесным памяшканні пры чыгуначным вакзале.

У сваіх успамінах Ежы Сабалеўскі, сын настаўніка з Глыбокага, пад датай 2 студзеня 1944 года занатаваў: *"Да Беразвечча прыбылі тысяча, а можа і больш раззброеных італьянцаў"*. 16 лютага Сабалеўскі піша аб расквatараванні 120 – 150 італьянскіх палонных у бараку ў ваколіцы лясніцтва, а 22 лютага занатаваў прыбыццё наступных 500.

Хутка ў адлеглым каля 1 км ад Глыбокага Арэхаве немцы стварылі малы лагер, які прызначаўся для італьянцаў. З гэтай мэтай занялі будынкі мясцовых жыхароў, зрабілі кухню. Сталовую, пякарню, дадаткова пабудавалі два баракі і ўсё гэта атачылі калючым дротам. Палонныя былі прызначаны для будаўнічых і земляных прац, якія праводзіліся ў ваколіцы.

У раёне вёсак Русакі, Лаўрынаўка і Барыскаўшчына немцы будавалі на значнай шкале вайсковыя склады, а таксама лінію абароны з міннымі палямі. Там ужо працавалі савецкія палонныя, зараз задзейнічалі італьянцаў. Гэта былі работы вельмі цяжкія і небяспечныя. Умовы, створаныя для італьянцаў, розніліся лепшым кватараваннем, акрамя гэтага не было розніцы ў забеспячэнні і статуса ў параўнанні да савецкіх палонных. Аднак італьянцы значна горш пераносілі голад, вычэрпваючую працу і вострыя марозны клімат, не вытрымлівалі і масава гінулі. Немцы здзекаваліся над імі таксама, як і над савецкімі палоннымі. Жыхар Глыбокага Я. Германовіч, які разам працаваў з італьянцамі ў нямецкай пякарні ў Арэхаве, успамінае: *"Гітлераўцы трактавалі*

*сваіх нядаўніх саюзнікаў нязвыкла люта. Італьянцы галодныя і часта бітыя, ледзь валачылі ногі"*.

Таксама яны працавалі на чыгуначнай станцыі ў Параф'янаве, дзе пад канец 1943 года было іх 200, а 12 студзеня 1944 года прывезлі наступных 1000 палонных італьянцаў.

## Барок – месца пакарання і могілкі ахвяр акупантаў

У адлегласці некалькіх соцень метраў ад кляштара над берагам Беразвецкага возера на ўскраіне ляска, які называюць урочышча Барок, выбралі немцы месца для выканання экзекуцый прысуджаных да смерці, а таксама, як тэрыторыю пахавання парэшткаў сваіх ахвяр. З-за блізкай адлегласці, стаў Барок Беразвецкі перад усім месцам спачыну памерлых і забітых у Сталагу 351.

Раней тут выконваліся экзекуцыі, якія датычылі савецкіх функцыянераў, потым пэўны час акупацыі тут забівалі беларусаў, якія абвінавачваліся ў супрацоўніцтве з савецкімі партызанамі. Расстрэльвалі таксама палякаў, якіх лічылі з якіх-небудзь меркаванняў за ворагаў ІІІ Рэйха. Тут забілі цыганоў, сабраных з усёй Глыбоцкай акругі, як расу, якая падлягае знішчэнню згодна з гітлераўскай дактрынай.

У 1942 годзе ў Барку немцы расстралялі каля 2000 яўрэяў з глыбоцкага гета. Ход гэтага расстрэлу назіралі з-за дроту лагера савецкія палонныя. Вось паказанні аднаго з іх: *"У сярэдзіне лета 1942 года мы ўбачылі калону грамадзян, якія свабодна накіроўваліся ў лес. Калі схаваліся ў лесе – пачуліся стрэлы. Усё стала зразумела – праводзілі людзей на смерць. Адбывалася гэта цэлы тыдзень. Вартаўнік, у якога спыталіся, адказаў, што гэта былі яўрэі"*.

Аднак сталым пастаўшчыком трупаў быў Сталаг 351. Памерлых распраналі і голыя парэшткі, як дровы, вывозілі на двухколцы да выкапанай траншэі ў бліжэйшым лесе. Калі было трэба, замаўлялі 15 – 20 падвод. Траншэі ў Барку капалі вязні. У кожнай такой зборнай магіле, як распавядае ўпамянёны вышэй В. Падольскі, якога прыцягнулі да гэтай працы, месцілася каля 400 парэшткаў. Калі магілы былі запоўненыя па берагі, палонныя яе засыпалі. Навакольныя жыхары, якім немцы забаранялі перавозіць парэшткі, між іншым, Аляксандр Сабалеўскі і Юзаф Яноўскі, сцвярджалі, што закопвалі не раз людзей, якія яшчэ паказвалі сімптомы жыцця і заклікалі да літасці. Таксама прывозілі парэшткі палонных, якія памерлі ад тыфу ў шпіталі, які немцы

абсталявалі на стадыёне *"Дынама"*, з меркавання на шматлікія захворванні на тую хваробу сярод палонных. Жывучыя недалёка ля таго шпіталю глыбачане бачылі, што да Барка не раз экспедзіравалі яшчэ жывых, хворых.

Пасля стварэння Генеральнай Акругі "Беларусь" і арганізацыі адміністрацыі, якая абапіралася на нацыянальныя беларускія сілы, пачалі выдаляць з яе польскія элементы. Тады штораз часцей здараліся арышты і экзекуцыі палякаў. Датычыліся яны перад усім патрыятычна настроеных адзінак, найчасцей інтэлігенцыі, землеўласнікаў і каталіцкага духавенства. Барок Беразвецкі стаў месцам крывавых расправ з імі. Няма сумневу, што клапаціліся тут аб ліквідацыі ўплывовых асобаў сярод польскага грамадства. Быць можа гэта было звязана з развіццём польскага руху супраціву і мела на мэце ліквідаваць патэнцыяльных арганізатараў таго руху, а таксама грамадскага тылу польскіх арганізацый.

Незалежна ад матываў, якімі кіраваліся немцы, вельмі праўдападобны быў удзел даносчыкаў, якія знаходзілі ў супрацоўніцтве з імі свой інтарэс – ідэалагічны і антыпольскі. Таксама цяжка ўявіць выдаленне і ліквідацыю палякаў без удзелу Вітвіцкага, вядомага перад вайной на тэрыторыі Дзісеншчыны нямецкага шпіёна, які на чале атраду *Schutzpolizei*, азначанага як *атрад Вітвіцкага*, акружаны групай агентаў, пашыраў страх на цэлую акругу.

Ужо ў снежні 1941 года былі арыштаваныя нямецкай жандармерыяй два ксяндзы з Іказні Браслаўскага павета: пробашч ксёндз Уладзіслаў Мацьковяк і вікарый ксёндз Станіслаў Пыртэк. У студзені 1942 года падобны лёс напаткаў ксяндза Мечыслава Багаткевіча, пробашча парафіі ў Дрысе (зараз Верхядзвінск). Гэтых трох ксяндзоў спачатку пратрымалі ў Браславе, а затым перавезлі ў турму ў Глыбокае. Існуе інфармацыя, што ў час допыту ў Браславе былі катаваныя. Пасля некалькіх тыдняў, 4 сакавіка 1942 года ў 6-й гадзіне раніцы павезлі іх санямі разам з невядомымі з прозвішча 4 палоннымі і яўрэйкай у Беразвечча і расстралялі ў Барку. Эскортам з'яўлялася беларуская паліцыя і нямецкая жандармерыя: у час расстрэлу *прысутнічалі функцыянеры гестапа*.

Невядомыя афіцыйныя абвінавачванні, якія прад'яўляліся святарам, а ні падстава, на якую апіраўся такі бязлітасны прыгавор.

Ксёндз Багаткевіч быў вядомы за адважныя, патрыятычныя казанні, якія будзілі надзеі на канчатковую перамогу ў вайне

праўды і Божай справядлівасці. Бясспрэчна, гэта былі выступленні, скіраваныя супраць акупантаў.

Адносна ксяндзоў Мацьковяка і Пыртка пісаў 18.12.1941 года ксёндз Юзаф Інгелевіч, выконваючы абавязкі Мёрскага дэкана, да арцыбіскупа Яблжыкоўскага: *"Абвінавачваюць іх у адмоўных адносінах да ўлад і ўтрыманні тайнай школы. Праўда палягае на тым, што вучылі катэхізісу дзяцей. Зрабілі выснову, што гэта ёсць помста мясцовых іншаверцаў"*. Тым часам, Глыбоцкі дэкан ксёндз Антоній Зянкевія яшчэ 6 лютага 1942 года паведамляў арцыбіскупу: *"Паслухаў абодвух толькі раз. Папрокаў яўных няма, маю ўражанне, што да гэтай пары шукаюць віны"*. У час беатыфікацыйнага працэсу, у якім згаданыя тры ксяндзы, у групе 107 мучанікаў, атрымалі тытул Слуг Божых, выплыў таксама сюжэт ратавання яўрэяў ад нацыстаў.

Паводле паўсюднай думкі, прычынай прысуду было вядзенне імі катэхізіса ў час імшы, што было забаронена нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Аднак вядома, што ў той час паводле школьных правілаў, якія ўступілі ў дзеянне з 1 кастрычніка 1941 года ў Генеральнай Акрузе "Беларусь", абавязак навучання дзяцей ад 7 да 14 гадоў указваў на навучанне каталіцкай і праваслаўнай рэлігіі толькі па-за школай. Суровыя кары пагражалі за распаўсюджванне савецкай і польскай ідэалогіі. Такім чынам, дакладна невядома, як кваліфікавалася *злачынства* ксяндзоў. Належыць усведамляць сабе, што акрамя ўвядзення ў Генеральнай Акрузе грамадзянскай адміністрацыі, метады і накірункі дзеянняў Вільгельма Кубе не адпавядалі, а нават былі часта бездапаможныя паводле становішча, якое займала войска ці паліцыя. *Дэкларацыі Кубе... заставаліся ў надзвычайнай супярэчнасці з дзейнасцю незалежных ад яго фарміраванняў Вермахту і СС, якія здзяйснялі забойствы, грабяжы і бессэнсоўныя разбурэнні таксама пасля ўвядзення грамадзянскай адміністрацыі.*

Восенню 1941 года арцыбіскуп Р. Яблжыкоўскі, як апостальскі адміністратар акупіраваных тэрыторый, выслаў шэраг ксяндзоў працаваць на абшары Генеральнай Акругі "Беларусь". Аднак у хуткім часе атрымалі яны загад пакінуць свае пасады, а нямецкая паліцыя бяспекі знішчыла большасць ксяндзоў, якія працягвалі душпастырскую дзейнасць.

Дыскрымінацыя каталіцкага духавенства і сёстраў-законніц былі з'явай, неаднаразова апісанай на тэрыторыі Наддзвіння. Як прыклад можна ўспомніць ксяндзоў марыянаў з Друі: кс. Антонія Лашчэвіча і кс. Ежы Кашыру, якім нямецкія акупацыйныя атрады падрыхтавалі страшную смерць – спаленне жыўцом ра-

зам з групай вязняў 17 лютага 1943 года ў Росіцы.

У чэрвені 1942 года наступілі далейшыя, гэтым разам шматлікія арышты палякаў на тэрыторыі Глыбоцкай акругі. Паводле думкі сведкаў, пачалося гэта ў Глыбокім ад выкрыцця групы палякаў, якая праводзіла канспіратыўную антыфашысцкую дзейнасць. Да яе належалі: Алойзы Дзіенцялоўскі – чыноўнік, Тамара Канапяньска – дачка землеўласніка і Уладзіслаў Матошка – сын гаспадара фальварку Вуглы. Гэтыя асобы ў чэрвені 1942 года нечакана зніклі, апярэджваючы іх пошук жандармерыяй. Хутка потым, паміж 27 і 29 чэрвеня, арыштавалі ў горадзе Глыбокае і ў акрузе каля 30 прадстаўнікоў польскай інтэлігенцыі, землеўладальнікаў і ксяндзоў.

Першым арыштавалі 27 чэрвеня Юзафа Панятоўскага, чыноўніка магістрату ў Глыбокім, на наступны дзень Ірэневуша Дабашыньскага з Барыскавіч. На працягу некалькіх дзён адбыліся далейшыя арышты. Усіх размясцілі ў будынку гімназіі імя Люблінскай уніі ў Глыбокім. Арышты праводзіла беларуская і нямецкая паліцыі, ксяндзоў, як паказваюць сведкі, гестапа.

4 ліпеня ў другой палове дня ўсіх арыштаваных двума групамі выправадзілі на дзядзінец гімназіі і пачалі садзіць у грузавікі. У той час адзін з арыштаваных, Адам Васьнеўскі, паспрабаваў уцячы, але быў застрэлены вартаўніком, а яго труп загрузілі ў машыну і разам з жывымі прывезлі ў Беразвечча. Эскорт складаўся з нямецкай і беларускай паліцыі. Там, у Барку Беразвецкім была выканана экзекуцыя, а парэшткі пахавалі ў агульнай магіле. З паказанняў сведак вынікае, што расстрэльваў адпраўлены з Вілейкі атрад СС.

Следства, якое праводзіла Акруговая Камісія па вывучэнні злачынстваў супраць польскага народа ў Лодзі, устанавіла наступных ахвяр экзекуцыі:

1. Інжынер Баярскі – аграном з Порплішча.
2. Ірэна Бжастоўская – нар. у 1911 годзе, уладарка маёнтка Мнюта- І.
3. Ірэневуш Дабашыньскі – нар. 25.03.1883 г., уладальнік маёнтка Барыскавічы.
4. Кс. Рамуальд Дроніч – нар. у 1897 г., пробашч з Ваўкалатаў.
5. Казімір Эрдман, каля 40 гадоў, землеўласнік.
6. Эдмунд Ключыньскі, чыноўнік з Глыбокага.
7. Казімір Красоўскі, чыноўнік з Глыбокага.
8. Кс. Баляслаў Маціеўскі, нар. у 1897 г., пробашч з Пастаў.
9. Кс. Адам Масюланіс, нар. 1911 г., пробашч з Лужкоў.
10 – 11. Ядвіга Мікульская і Кароль Мікульскі, уладальнікі ма-

ёнтка Докшыцы.

12. Ванда Пілсудская, уладальніца маёнтка Мосар.

13. Юзаф Панятоўскі, нар. 1898 г., чыноўнік магістрату ў Глыбокім.

14. Кс. Антоній Скурко, нар. 1888 г., пробашч з Варапаева.

15. Станіслаў Сарока, нар 1898 г., уладальнік крамы ў Глыбокім.

16. Адам Васьнеўскі, каля 40 гадоў, працаваў у кааператыўнай яяя, адміністратар маёнтка Мнюта II.

17. кс. Уладзіслаў Вячорэк з Параф'янава.

Значны працэнт у гэтай групе ксяндзоў указваў, што нямецкія ўлады працягвалі працэс вынішчэння каталіцкага духавенства. Рабілі гэта ва ўсёй Генеральнай Акрузе пад розным выглядам. Паводле чутак, кс. Масюланіс запярэчыў адабранню касцельных званоў у Лужках, кс. Вячорэк жа, які перад гэтым працаваў у Шлёнску (Сілезія), быў там у канфлікце з нямецкім насельніцтвам.

Акрамя ўзгаданых з прозвішчаў асобаў, камісія сцвярджала, што ў той групе знаходзіліся яшчэ дзве асобы, прозвішчы якіх не ўдалося ўстанавіць. Адной з тых асобаў быў *адміністратар маёнтка Якубёнка*, а другой – праваслаўны святар.

Можна дапускаць, што ў групе загінуўшых 4 ліпеня 1942 года таксама знаходзіліся іншыя асобы, аб якіх не ўдалося атрымаць якой-небудзь інфармацыі.

Адкрытай справай застаецца таксама ўстанаўленне лічбы савецкіх палонных, якія прайшлі праз Сталаг 351, таксама як і лічбы смяротных ахвяр таго лагера. Пошук якіх-небудзь імянных спісаў. як уяўляецца, будзе поўнасцю немагчымым. Некаторыя палонныя сцвярджалі, што немцы наогул не вялі імянных спісаў. Досыць цяжка ў гэта паверыць, а тым больш здаецца неpraўдападобным, бо не мелі дакументацыі завераных лічбавых дадзеных. Не былі яны, аднак, выяўленыя.З польскага досведу таксама вынікае, што ў ходзе расследавання не патрапілі на ніякія нямецкія дакументы, на падставе якіх можна ўстанавіць лічбу савецкіх палонных, якія прайшлі праз лагеры для палонных, што знаходзіліся на польскіх землях, як і лічбу памерлых палонных.

Прымаецца, што яшчэ на працягу 1941 года сабрана ў Сталагу 351 24 – 25 тысяч савецкіх ваеннапалонных, з якіх большасць загінула на працягу бліжэйшай зімы. У наступныя гады акупацыі на месца памерлых прыбывалі наступныя эшалоны.

Пасля праходу фронту, яшчэ ў снежні 1944 года праведзена ва ўрочышчы Барок ускрыццё магіл, у якіх смярдзелі парэшткі савецкіх і італьянскіх салдат. Яшчэ перад заканчэннем вайны была

створана спецыяльная камісія для ўстанаўлення доказаў злачыннай дзейнасці гітлераўскіх акупантаў на тэрыторыі Глыбоцкага раёна. Сабрала яна асабістыя паказанні сведак і даследавала пахаванні палонных ва ўрочышчы Барок.

З састаўленага той камісіяй дакумента, які меў дату 25 сакавіка 1945 года, вынікае, што засведчана там 56 магілаў, а ў баку 12 траншэй, прыгатаваных для запаўнення трупамі. Яны мелі памеры 5x12 м і глыбіню 2,5 метра. З існуючых 56 –ці камісія адкапала і даследавала 8. Ва ўсіх даследаваных знаходзіліся парэшткі ваеннапалонных, якія былі ў стадыі раскладу, пахаваныя ў большасці без адзення, з-за чаго не было магчымасці ідэнтыфікацыі. Парэшткі былі зложаныя ў два рады на глыбіню магіл, нагамі да сябе, галовамі звонку, звычайна ў 9 пластах.

На падставе падліку колькасці 8 адкапаных зборных магіл, камісія ўстанавіла, што разам ва ўсіх знаходзіцца 27 тысяч савецкіх ваеннапалонных, якіх немцы знішчылі цягам усяго перыяду функцыяніравання лагеру. Здаецца, што гэту лічбу можна прызнаць цалкам праўдападобнай.

Колькі ахвяр трохгадовага панавання немцаў на абшары *Gebiet Glebokie* укрывае ўрочышча Барок увогуле, невядома. Можна дапусціць, што спачывае там некалькі тысяч людзей: яўрэяў, беларусаў, палякаў, цыганоў і італьянцаў.



**Помнік ксяндзам на месцы расстрэлу ў Барку. 2011 год.**
*Здымак Змітра Лупача*

# РАЗДЗЕЛ VI
# ПРАЗ ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ

*А жаль асаблівы...*
*За людзей, разагнаных вятрамі,*
*Што там звароту не маюць,*
*За святынямі, што іншае ім дадзена прызначэнне.*
Ян Міхневіч
"Вільня, горад развітання".

## Цяжкая дарога да праўды

Трагічны лёс вязняў Беразвечча, таксама як і лёс іншых ахвяраў НКУС, таталітарная сістэма СССР укрывала больш за 50 гадоў. Акрамя таго, карысталася рознымі хітрыкамі і фальсіфікацыямі, праўда пра тыя злачынствы не раз прабіралася да ўсеагульнага ведама. Дзяржаўны прапагандысцкі апарат стараўся зручна ўкрываць злачынныя парушэнні міжнароднага права і асноў маральнасці пад выдуманай прычынай дзеянняў у інтарэсах сусветнага пралетарыяту і камуністычнай ідэалогіі. Грамадзяне СССР, акрамя таго, што самі былі ахвярамі сістэмы насілля і крывадушнасці, не мелі наогул пачуцця, што іх дзяржаўнае кіраўніцтва здзяйсняе злачынствы супраць іншых народаў.

Толькі адзінкі, не гледзячы на зазнаныя прыдзіркі і абвінаваўчыя прысуды, і нават пагрозу жыцця, падымаліся супраць і, кіруючыся пачуццём маральнасці і імкнення да праўды, кляймілі механізмы і выканаўцаў злачынстваў. Яны станавіліся сумленнем расійскага народу. Не гледзячы на тое, камуністычны рэжым не адчуваў небяспекі і заставаўся упэўненым у сваёй уладзе і веры, што жалезным кулаком прывядзе грамадства ў шчаслівую будучыню (*железным кулаком мы к счастью человечество загоним*).

У польскім грамадстве, якое ў выніку пасляваеннага падзелу сфераў уплыву апынулася ў залежнасці ад СССР, было глыбокае перакананне аб брутальнай агрэсіі ў 1939 годзе, спалучанай з бяспраўнымі і злачыннымі дзеяннямі з боку ўсходняга суседа. Гэтага перакананне не здолеў выкараніць а ні ўведзеная дзяржаўная камуністычная сістэма, а ні інтэнсіўная прасавецкая прапаганда, а ні ўніклівая цэнзура і санкцыі органаў дзяржаўнай бяспекі. У Польшчы ніколі не спыняліся праявы супраціву, нелегальныя публікацыі і вызваленчыя заклікі. Колькі разоў выбухалі пратэсты рабочых, у якіх з жаданнем хлеба заўсёды спа-

дарожнічала жаданне праўды і свабоды. Слова бралі патрыятычныя *групы інтэлектуалаў*, а таксама вядомыя асобы ў краіне і на эміграцыі.

Шмат польскіх сямей, якія зазналі з рук НКВД балючыя прыдзіркі, арышты, прысуды і дэпартацыі, а перад усім тыя, што страцілі найбліжэйшых на бесчалавечнай зямлі і ў катоўнях НКВД, знаlі з анатаміравання шмат падрабязнасцяў злачынстваў, здзейсненых савецкім рэжымам, у тым ліку і ў Беразвеччы.

Аднак гэтыя асобы, застаючыся ў ахопе камуністычнай улады, не мелі магчымасці іх апублікаваць, акрамя таго разумелі тое, на якія наступствы падверглі б іх такога роду сенсацыі. Адзінай надзеяй заставалася змена ладу, што на працягу дзесяцігоддзяў уяўлялася фантазіяй.

Тым часам, у 1980 годзе дайшло ў Польшчы да падзеяў, ініцыятарамі якіх ізноў былі рабочыя. Несумненна, падмацаваныя поглядамі інтэлектуалаў, арганізавалі *Камітэт Абароны Рабочых* і выступілі з задачай стварэння вольных прафсаюзаў.

Калі ўрад быў вымушаны той пастулат выканаць, стала ясна, што камуністычная сістэма ў Польшчы пачала разбурацца. Хутка гэты працэс ахапіў іншыя суседнія краіны.

Гадамі пазней, у 1987 годзе, савецкі *генсек* Міхаіл Гарбачоў аб'явіў у СССР змены, абвяшчаючыя пэўную адкрытасць на рэформы, якія б спрыялі перабудове дзяржавы. Праўда, не было ясна, у якім накірунку будуць паспяваць гэтыя рэформы, таму і чакалі развіцця падзей. Першай і сенсацыйнай праявай той адкрытасці была ліквідацыя найбольшай з *белых плям*, засланяючых вобраз гісторыі – катыньскіх злачынстваў. З мэтай яе выяснення была створана польска-савецкая камісія, а ў красавіку 1990 года савецкі бок агучыў, што катыньскія злачынствы былі справай НКВД.

Указ ад 8 снежня 1991 года аб ліквідацыі СССР тэарэтычна адчыняў шырокую дарогу да высвятлення вялікай лічбы праблемаў з перыяду дзеяння савецкай дзяржавы і яе міжнародных адносінаў. Якія былі шанцы поспеху на пошук тых высвятленняў, мелася паказаць будучыня.

Аднак неадкладна з'вілася вялікая колькасць публікацый, якія датычыліся жыцця грамадства пад камуністычным урадам і лёсу асуджаных на падставе іх вар'яцкіх прынцыпаў. У польскіх і беларускіх СМІ з'явіліся публікацыі з паказаннямі відавочцаў, якія выкрывалі злачынную дзейнасць НКВД у Беразвецкай турме.

У 1992 годзе былі апублікаваныя ўспаміны жыхара вёскі Кара-

бы Мікалая Міхалевіча. Было яму тады 18 гадоў, з сябрамі вырашыў спраўдзіць вестку, якая прыйшла ў Беразвечча пасля ўвахода туды немцаў. Міхалевіч распавядаў: *"У манастыры сабралася шмат людзей, галоўным чынам радня вязняў. Грэбаліся ў паперах, якімі быў засыпаны ўвесь панадворак, каб знайсці хоць нейкае ўзгадванне пра сваіх... Людзі са свечкай спускаліся ў падвалы, мы за імі. У столі скляпенняў былі ўманціраваны крукі, на іх, напэўна, падвешвалі катаваных. Пасля таго ... цяжка яшчэ зараз гэта ўспамінаць,мы знайшлі адсечаныя людскія языкі. Шмат. Асабіста бачыў – з вядро... Тым часам на панадворку раскопвалі свежыя зборныя магілы... колькі там у кожнай людзей – невядома. Твары нябожчыкаў ужо пацямнелі. Пах! Адны апранутыя, іншыя голыя. Звярнулі ўвагу, што шмат было з цалкам здзёртай скурай на ступнях. Можа, каб не ўцякалі? Тыя людзі катаваныя. Не маглі мы вытрымаць даўжэй. Адышліся ."*

Падобнага зместу ўспаміны Вінцэнта Садковіча апублікаваныя ў красавіку 1966 года на Захадзе: *"Пасля дзесяці дзён ад пачатку вайны ў Глыбокім настала дзіўная цішыня. Савецкай улады ўжо не было, і немцы не прыходзілі. Казалі, што з боку кляштару чуваць трупны пах, але ўсе баяліся падыйсці, бо кожную хвіліну маглі вярнуцца чэкісты."*

Аднак прыйшлі немцы і ўсе маглі прыйсці ў Беразвечча.

*"Пайшоў і я з калегам. Увоходзілі праз шырока адчыненую браму. Панадворак быў усланы рознымі паперамі. Аглядаем іх – гэта пратаколы вязняў, доўгія спісы прозвішчаў, маса фотаздымкаў, азначаных нумарамі. Хіба не здужалі гэтага спаліць... Заўважаем вялікі натоўп людзей пры паўднёвай сцяне кляштару... Праціскаемся праз людскую таўкатню сярод пануючага трупнага паху. Перад намі вялізнае паглыбленне, а ў ім труп пры трупе ў некалькіх радах. Не здолелі іх палічыць.*

*Хто толькі знаходзіў свайго крэўнага, забіраў, каб пахаваць па хрысціянску. Кожны з вязняў меў у патыліцы след ад кулі з пісталета. На шыях былі яшчэ шнуры, пры дапамозе якіх сцягвалі іх у тое паглыбленне".*

Прызнанне СССР у катыньскіх злачынствах стварала надзею на высненне таксама падрабязнасцяў беразвецкага мартыралогу і лёсу вязняў эвакуіраваных у чэрвені 1941 года на ўсход.

Ужо ў 1990 годзе Камісія па Даследаванню Злачынстваў супраць Польскага Народа (КДЗсПН) пачала следства па справе забойства, здзейсненага супрацоўнікамі НКВД, вялікай групы польскіх грамадзян пад Улай у Беларусі. У сувязі з гэтым, у вялікай колькасці з'явіліся публікацыі, якія апіраліся на паказан-

нях сведак, сярод якіх таксама знайшліся асобы, ацалеўшыя ад пагрому.

Вярнулася таксама зацікаўленасць і актыўнасць сем'яў ахвяр Беразвечча, якія пасля дзесяцігоддзяў безвыніковых намаганняў пазнаць праўду, ужо страцілі надзею. Зараз, вылавіўшы з публікацый у прэсе невядомыя падрабязнасці падзей пяцідзесяцігадовай даўніны, пазнавалі бліжэй мартыралогі сваіх блізкіх і дзе толькі з'яўлялася магчымасць, стараліся адведаць месца іх трагедыі, каб там аддаць ім павагу і прысвяціць малітву.

З іх ініцыятывы, на ўзор *Сям'і Катыньскай* створана *Сям'я Беразвецкая*. Арганізацыйнае кіраўніцтва ўзяў Славамір Кавальчык з Варшавы. Ад пачатку дзевяностых гадоў уцягнуся ён у праблемы Беразвецкай трагедыі, апублікаваў шэраг артыкулаў у польскай і замежнай прэсе, знаходзіўся ў кантакце з Радай Абароны Памяці Змагання і Пакутніцтва і іншымі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у справах польскай мартыралогіі на Усходзе.

Асяродкам арганізацыйнай дзейнасці Сям'і Беразвецкай стаў касцёл святога Крыжа ў Варшаве. 13 красавіка 1991 года там была адпраўлена святая імша за душы загінулых з удзелам членаў іх сем'яў, а таксама ацалелых у масакры каля Мікалаева Яніны Семяноўскай і Міхала Баговіча. У бабінцы касцёла была ўмуравана памятная табліца, прысвечаная мучанікам Беразвецкай трагедыі. Адначасова быў накіраваны зварот, заклікаючы кампетэнтныя органы і грамадскую думку да дзеянняў, раскрываючых усю праўду аб Беразвеччы, а перад усім спіскаў замардаваных, і прыцягнення да адказнасці выканаўцаў злачынства. Вось тэкст звароту:

## Зварот
## Да Дзяржаўных Уладаў рэчы Паспалітай Польскай
## Польскага Грамадства
## І Людзей Добрай Волі на свеце

У чэрвені 1991 года мінае 50 гадоў бязлітаснага злачынства ў Беразвеччы, на "дарозе смерці" і каля Улы, у якім загінула некалькі тысяч нашых Суайчыннікаў з Віленшчыны. Сярод замардаваных былі афіцэры, падафіцэры, жаўнеры Войска Польскага, паліцыянты, лекары, ксяндзы, законніцы і законнікі, землеўласнікі, інжынеры, настаўнікі і інтэлігенцыя іншых прафесій. Былі таксама рабочыя і сяляне.

Замардаваныя – гэта нашы бацькі, мужы, жонкі, крэўныя і сябры. Мы ж, у большасці былі дэпартаваныя ў глыб СССР на шматгадовае блуканне і няволю.

Гэта злачынства выканала савецкае НКВД, па загаду вышэй-

шага партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва, на бяззбройных і нявінных людзях, як і ў турме ў Беразвеччы, так і на “дарозе смерці”, без суда, без магчымасці якой-небудзь абароны ці змагання, а затым без права на добрае пахаванне.

Усе гэтыя акалічнасці, як і 50 –гадовае маўчанне на гэту тэму, мае асабліва нялюдскае вымярэнне.

Пакуль што адзіным месцам пашаны замардаваных у Беразвеччы, а адначасова іх сімвалічнай магілай ёсць сціплая табліца ў касцёле Святога Крыжа ў Варшаве, адкрытая 13 красавіка 1991 года.

Таму мы, члены сямей і сябры замардаваных, у 50-я ўгодкі таго страшнага забойства, звяртаемся да дзяржаўных уладаў Рэчы Паспалітай Польскай, да польскага грамадства і людзей добрай волі ў цэлым свеце аб аказанні націску, вынікаючага з нормаў міжнароднага права і маральнага націску на дзяржаву, якая здзейсніла гэтае злачынства.

**Мы дамагаемся:**

1. Выяўленне ўсёй праўды аб Беразвеччы і іншых месцах, асвячоных польскай крывёй, а таксама ўсіх акалічнасцяў забойстваў.

2. Годнага пахавання сваіх найбліжэйшых і належнага ўвекавечвання іх вечнага спачыну, каб над тымі магіламі маглі памаліцца, палажыць кветкі і запаліць свечкі.

Кожны мае права на магілы сваіх найбліжэйшых, дзе б яны не былі, а асабліва Тыя, якія праз шмат гадоў былі таго права пазбаўлены.

3. Ад ураду СССР жадаем маральнай кампенсацыі сем’ям, поўнага выяснення той справы, выяўлення спісаў з прозвішчамі і імёнамі замардаваных, выяўлення выканаўцаў забойстваў, а калі яшчэ жывыя, іх пакарання ў імя не помсты, а справядлівасці.

Схіляем галаву перад ахвярамі таго злачынства, так як і перад іншымі месцамі падобных трагедый, каб ужо ніколі ў будучым ніхто не аплакваў сваіх найбліжэйшых.

*Сем’і і Сябры Замардаваных*
*Варшава, 13 красавіка 1991 года.*

Двума гадамі пазней, 25 чэрвеня 1993 года ад магілы Невядомага Жаўнера ў Варшаве адправілася ў Беразвечча звыш 70-асабовая пілігрымка *“Сям’і Беразвецкай”*. Як духоўны апякун яе суправаджаў ксёндз прэлат Здзіслаў Пешкоўскі, святар “Сям’і Катыньскай”.

Позным вечарам пілігрымы дасягнулі Глыбокага, дзе іх сустрэў пробашч ксёндз Кірыл Клімовіч (пазней, Мінскі біскуп), а затым пасля імшы пайшлі на начлег у гасцінныя дамы глыбачан.

Назаўтра, дакладна ў 52 –я ўгодкі “дарогі смерці” і трагедыі пад Улай, ксёндз Пешкоўскі адправіў у касцёле св. Тройцы святую імшу ў памяць усіх ахвяр Беразвечча. Канцэлебрансамі былі ксёндз Аляксандр Юшкевіч, выхаванец Глыбоцкай гімназіі, і ксёндз Мар’ян Мацьковяк, брат благаслаўёнага Уладзіслава Мацьковяка, расстралянага немцамі ў 1942 годзе ў Барку Беразвецкім. У набажэнстве, апрача пілігрымаў з Польшчы і сабраных у вялікай колькасці мясцовых жыхароў, прынялі ўдзел прадстаўнікі Прэзідэнта Рэчы Паспалітай, Польскага Ураду, Амбасады Р.П. у Мінску а таксама ўлады Рэспублікі Беларусь. І тут была асвечана памятная табліца, якая засталася ў глыбоцкім касцёле. На ёй змешчаны наступны тэкст:

*Ушанаванне тысячам палякаў*
*Нявінна зняволеных*
*Замучаных і расстраляных*
*- органамі НКВД у 1939 – 1941 гады*
*на тэрыторыі турмы ў Беразвеччы,*
*на дарозе смерці і ў Мікалаеве*
*- гітлераўцамі ў 1941 – 1944 гады*
*ў ваколіцах Глыбокага.*
*Няхай спачываюць у спакоі.*

У той самы дзень удзельнікі пілігрымкі і запрошаныя госці адправіліся ў Мікалаева над Дзвіной на месца пахавання ахвяр.

Пясчаная паляна на ўскраіне сасновага лесу была месцам зборнай магілы, дзе спачываюць безабаронныя ахвяры. На той паляне ад пэўнага часу стаяў драўляны крыж, пры якім адведваючыя гэта месца ўскладалі кветкі і запальвалі свечкі.

Цяпер паблізу паставілі вялікі жалезны крыж, а таксама вертыкальную пліту, як элементы помніка праекта архітэктара Яраслава Скжыпчыка. Побач – імправізаваны палявы алтар, дзе урачыстую святую імшу адпраўляў ксёндз прэлат Пешкоўскі з удзелам ксяндза палкоўніка Коланецкага, канцлера Палявой Курыі Войска Польскага і іншых ксяндзоў. Быў асвечаны нанова ўзнесены крыж, і адбыўся Заклік Палеглых згодна з вайсковым цырыманіялам. Спецыяльнага характару ўрачыстасці дадалі абмундзіраваныя жаўнеры Войска Польскага.

І тут таксама не было недахопу мясцовых жыхароў. Для многіх пілігрымаў неспадзяванкай стала магчымасць паразумення з некаторымі асобамі са старэйшага пакалення па-польску, а яшчэ больш, напэўна, факт, што працаваў тут малады ксёндз-паляк і арганізаваў каталіцкую парафію. Застаў тут шмат католікаў і ўсталяваў капліцу ў памяшканні нейкага склада. Цешыўся тым,

што сталі павялічвацца лічбы вернікаў і тым, што справамі веры зацікавілася тамтэйшая моладзь.

Элементы помніка былі пазней дапоўненыя двума плітамі, на якіх выграваіраваны на польскай і беларускай мовах наступны тэкст:

*Тут пахавана некалькі тысяч палякаў і асобаў іншай нацыянальнасці. Вязняў Беразвечча, замардаваных 26. VI. 1941 года ў Мікалаеве. Памяць ахвярам Дарогі Смерці. Няхай спачываюць у спакоі.*

На магілу родных-мучанікаў палажылі пілігрымы прывезеную з Польшчы зямлю і забралі на Айчыну з вяртаннем зноў той, у якой прыйшлося ім спачываць.

Вяртаючыся, маглі наблізіцца да муроў існуючай да гэтага часу турмы ў Беразвеччы, якія не нагадваюць былога кляштарнага аб'екту. Уваход на яго тэрыторыю зараз немагчымы, так што невядома, ці існуюць там якія-небудзь знакі, якія ўзгадваюць мартыралог 1939 – 1944 гадоў. Гэта падлягае сумневу.

17 верасня 1995 году быў адкрыты і асвечаны ў Варшаве пры вул. Мураноўскай помнік Палеглым і Замардаваным на Усходзе аўтарства Максіміліяна Біскунскага.

На адкрыццё помніка Мар'ян Ёнкайціс напісаў верш. Ён уяўляе геену грамадзян Рэчы Паспалітай 1939 – 1941 гадоў пра страшны тэрор, які падрыхтаваў усходні сусед. Знаходзіцца ў вершы адбітак падзеяў і клімат, які панаваў у турме НКУС у Беразвеччы, а таксама лёсы мучанікаў, удзелам якіх была турма. Вось яго змест:

## Палеглым і замардаваным на Усходзе

*Прахожы,*
*Спыні марш свой*
*І здымі галаўны ўбор*
*Перад Помнікам – Сімвалам*
*Ахвяр невядомых...*
*Тых –*
*Што за Польшчу,*
*Веру*
*І за Гонар Народу*
*Аддалі сваё жыццё*
*У Чырвоных Казнях Усходу...*
*Загінуў –*
*Бо быў Палякам*

З абшарнікаў, ці з сялян;
Паліцыянтам, лесніком,
Функцыянерам КАП-у...
Афіцэрам, гандляром,
Старастам, рамеснікам,
Настаўнікам, войтам,
Вайсковым асаднікам...
Забіты – бо ты быў малады.
Забіты – бо быў стары.
Застрэлены
За руку надта белую...
Акуляры...
За гадзіннік... за заколкі...
За гальштук.. за кашулі...
За ясна - панскі выгляд...
У патыліцу атрымаў кулю.
Знішчаны –
Бо ішоў прама
Значыць быў салдатам...
А калі цывільным – то шпіёнам
Ці гарцэрам...
Што, у абодвух выпадках,
Ёсць відавочнай рэччу,
Што быў ворагам рэжыму:
Контррэвалюцыянерам...
Памёр у дарозе –
І бегучы,
З цягніка выкінуты...
Сканаў –
На “лесапавале”
Прывалены сасной...
Замёрз –
У час бурану
У Казахстанскім стэпе...
Падаў ад знясілення –
Нормы
Вырабіць не быў у стане...
Прыкончыў яго
Недалюбліваючы палякаў
Брыгадзір...
Смерць таго выйграў у карты
Урка – крымінальнік...

*Валіўся – ахвяра тыфу*
*Ці іншай бяды ад вошы...*
*“Пайшоў у пясок”*
*Ад голаду,*
*Як іншыя “дахадзягі”.*
*Загінуў –*
*“У час пабегу”*
*З лагеру –*
*Узабраўся “на драты”...*
*Застрэлены канвоем,*
*Ці заколаты штыком...*
*Па бульбіну нагнуўся*
*Ці адышоў “на старану”*
*На адзін крок перайшоў*
*Неадольнай зоны...*
*НКВД –*
*Буржуйскай*
*Польшчы*
*Рэакцыянераў*
*Забівалі планава:*
*камуністаў-трацкістаў,*
*ксяндзоў, рабінаў, папоў,*
*пастараў, мулаў, лекараў...*
*Генералаў, артыстаў,*
*Юрыстаў, журналістаў,*
*Інжынераў і паслоў,*
*Прафесараў, дацэнтаў...*
*Каб вынішчыць*
*Эліту*
*Польскіх інтэлігентаў...*
*Прахожы,*
*Перарві свой марш...*
*Прысвяці хвіліну засяроджання*
*Перад помнікам,*
*Узведзеным*
*Суайчыннікам без Імя,*
*Невядомым –*
*Што за Польшчу,*
*Веру,*
*І гонар Народу*
*Аддалі сваё жыццё*
*У Крывавай Галгофе Усходу...*

*Бо цяпер з Зямлі Нечалавечай,*
*Дзе спачываюць у Богу*
*Толькі ў нашых малітвах*
*Да Краю могуць вярнуцца...*

Скупая інфармацыя, якая ад пачатку палітычных зменаў у Расіі прабралася праз мур фальшу і варожасці, узнесены пры дапамозе шалёнай ідэалогіі і служачага ёй рэжыму, не выконвае спадзяванняў польскага боку. Таксама сем'і пакутнікаў, як даследчыкі гісторыі зацікаўлены выясненнем усіх акалічнасцяў, якія датычацца польскай мартыралогіі на Крэсах Усходніх. Выясненне толькі некаторых спраў гісторыкамі, якія працуюць па ініцыятыве КБЗпгНП і супрацоўнічаюць з расійскім *"Мемарыялам"*, дало шмат карысці. Гэта можна трактаваць як шматабяцаючы пачатак, але не можна на гэтым спыняцца.

Адзінае пазнаванне праўды, а не заціранне аб ёй памяці, можа прывесці да зламанне гэтага муру і пабудове на яго друзах адносінаў між народамі, якія абапіраюцца на паразуменне і прабачэнне. Калі такія працэсы былі магчымыя на Захадзе, то іх належыць паўтарыць і на Усходзе. Нямецка-польскія адносіны не менш заблытаныя, а крыўды і страты, якіх у апошняй вайне пазнала Польшча ад нямецкага боку, яшчэ большыя і не менш бязлітасныя, чым з савецкага боку. На працягу існавання *сацыялістычнага лагеру* адносіны з суседзямі спрабавалі вызначаць карыстаючыся гісторыяй, прапушчанай праз сіта марксісцкай навукі і гісторыі ВКП(б), маючы даць зыходны пункт сусветнай эры сацыялізму. Можа цяпер манеры адносінаў польскага народу з расійскім народам належыць пачаць з добрасумленнага пазнання нескажонай узаемнай гісторыі. Для гэтага патрэбна ўзаемная адкрытасць і прыязныя жэсты, а не зласлівасць і неабдуманыя рашэнні.

Ужо вышэй узгадвалі, што народы, якія ўварылі СССР, а перад усім расіяне, за выключэннямі, самі, будучы ахвярамі пануючай сістэмы, не ўсведамлялі (і можа быць надалей не) таго, што *іх дзяржава здзейсніла злачынства супраць чалавечнасці, не падлягаючае тэрміну даўнасці. Напэўна, большасць расіян не хацела б вяртацца да гэтай тэмы.* Тым часам гэта абавязкова, павінны яны ачысціць сваё сумленне так, як зрабілі тое, альбо робяць іншыя народы. Вядома, што на тэрыторыі былога СССР дзейнічае арганізацыя *"Мемарыял"*, мэтай якой з'яўляецца выяўленне злачынстваў сталінскага перыяду і асобаў, адказваючых за гэта. Падобна, як шмат установаў, якія дзейнічаюць у Польшчы, *"Ме-*

*марыял”* імкнецца да ўстанаўлення і асуджэння выканаўцаў злачынстваў, як умоваў прабачэння і ўзаемнага прымірэння.

Вядома, што патрэбныя крыніцы інфармацыі для пазнання праўды. Між іншым аб Беразвеччы, належыць перадусім шукаць у архівах разгалінаваных структур НКУСа, у асноўным на тэрыторыі Расіі і Беларусі, дзе, як здаецца, не з’явілася яшчэ матывацыя да іх шырэйшага выкарыстання. Заяўлены ўжо адпаведныя канкрэтныя польскія ініцыятывы, якія шмат гадоў дарэмна чакаюць адтуль водгук.

Калі размова ідзе аб Беразвеччы, вельмі пажаданым элементам праўды ёсць пазнанне лёсу вязняў, будучых зняволенымі па стане на 24 чэрвеня 1941 года. Інфармацыю аб іх чакаюць больш за 60 гадоў сем’і, крэўныя, прыяцелі, чакае польская грамадская думка. Марна чакаючыя сем’і перакананыя, што такая інфармацыя існуе, але засталася заблакаванай з прычыны нявысветленых антыгуманістычных акалічнасцяў. Наступленне зменаў, ліквідуючых камуністычную сістэму ў Расіі, ёсць іх надзея.

Выражэннем іх дзеянняў, выкліканых фрустрацыяй, ёсць спробы падрыхтоўкі асабовых спісаў ахвяр Беразвечча на падставе інфармацыі сем’яў і сведак злачынства. Цяжка ацаніць тое пачынанне, як цалкам удалае. Два лісты такога роду былі змешчаны ў штогодніках парафіі св. Крыжа ў Варшаве ў 1991 – 92 і 1992 – 93 гг.  Занадта шмат ёсць у тых лістах памылак і інфармацыі цалкам няслушнай (напрыклад, якая датычылася асоб, памерлых перад 1939 годам, не будучых ніколі вязнямі Беразвечча і г.д.), а таксама непатрэбных з погляду на лаканічнасць (напрыклад, якія падаюць само прозвішча, ці само імя, адносна толькі прафесіі і г.д.), што можа выклікаць неабгрунтаваныя асацыяцыі і эмоцыі, толькі ўзмацняючыя горыч. Праўдападобна на тых лістах змешчана ўсё, што хто-небудзь казаў, выклікаючы вынік нязгодны з намерамі. Напэўна, збор інфармацыі пры дапамозе добра прадуманай сістэмы дало б лепшыя вынікі, хаця не развязала б праблемы.

## Беразвечча знікае з карты

Прынятае пасля 1950 года рашэнне ўладаў аб разборцы касцёла і ўтрыманні турмы прадвызначыла лёс Беразвечча. Сляды яго шматвекавой гісторыі засталіся зацёртымі. Трохкіламетровы адрэзак дарогі паміж Глыбокім і Беразвеччам прызначылі на забудовы для патрэб горада, які пачаў разрастацца, надаўшы яму назву – вуліца Савецкая. Забудова скончана ў 60-я гады XX ста-

годдзя, мае характар рабочага пасёлка. Невялікія польскія жаўнерскія могілкі 1920 года, якія знаходзіліся насупраць кляштара, былі ліквідаваныя ў канцы 60–х гадоў, а на іх тэрыторыі і ў суседстве пры вуліцы Савецкай было пабудавана некалькі жылых дамоў. Падобныя дамы ўзвялі паміж турмой і возерам Падлязна. Такім чынам, побач з турмой паўстала малое паселішча, прызначанае для яго працаўнікоў і турэмнай аховы.

Цяперашняя турма знаходзіцца на тэрыторыі былога базыліянскага аб'екту, месціцца ў трохпавярховым будынку. Цэлую ноч свецяцца вокны турэмных камер. Гэта ўсё, што можна пабачыць, ці пачуць ад жыхароў Глыбокага. У гэтых некалькіх сказах сціпла расказваецца ўся 55-гадовая пасляваенная гісторыя Беразвечча, мясцовасці, якой ужо няма на карце.

## Аб чым гавораць і аб чым маўчаць помнікі

У пасляваенныя гады шмат гаварылі аб фашысцкім варварстве, ахвярамі якога сталі грамадзяне СССР. Нягледзячы на тое, не праяўлена надта вялікага клопату аб увекавечванні памяці ахвяр Сталагу 351, дзе знішчаны тысячы савецкіх ваеннапалонных. Яшчэ на здымках 1974 года астаткі кляштарнага аб'екту і зборныя магілы палонных у Барку Беразвецкім уяўлялі запусценне і занядбанне. Цяжка зразумець, чаму так было, асабліва таму, што адначасова амаль у кожнай вёсцы паўставалі помнікі, якія праслаўлялі гераізм партызанаў. На іх віднеліся доўгія выказванні вельмі заслужаных удзельнікаў руху супраціву. Масава ўзводзіліся таксама помнікі Леніну, у некаторых мясцінах іх ёсць больш за адзін. Хіба ваеннапалонныя сапраўды абкладзены былі ганьбай, аб праявах якой гучна было на пачатку вайны і таксама па яе заканчэнні? Цяжка ў гэта паверыць!

Толькі пасля ліквідацыі СССР, ці на пачатку дзевяностых гадоў сітуацыя пачала змяняцца. На пачатку 2000 года ў раёне Барка існавала ўжо некалькі адносна салідных і эстэтычна выкананых помнікаў. Уся гэта ваколіца ў істоце складала разлеглыя могілкі ахвяр перыяду Другой сусветнай вайны.

Табліца, пастаўленая пры ўваходзе на могілкі, інфармуе на беларускай мове: *"Тут пахавана звыш 27 тысяч ваеннапалонных, вязняў лагера смерці Беразвечча і каля 200 італьянскіх салдатаў, знішчаных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 – 1944 гадах"*.

У цэнтральным пункце могілак помнік утварае крыж з фігурай укрыжаванага Хрыста і двух вертыкальна ўстаноўленых табліц па абодвух баках крыжа. На табліцы па праваму баку надпіс

на беларускай мове: *“Людзі добрыя! Памятайце! Яны любілі жыццё, Айчыну і Вас”*. Другая табліца носіць надпіс на рускай мове *“Пускай всегда будет с Вами Божье Благословение”*. Адкрылі яго ў 1995 годзе, аўтар помніка Якавенка.

Іншы помнік, які мае міжнародны характар, знаходзіцца на ўскраіне лесу ў сярэдзіне пляцу, акружанага металічнай агароджай. Яго складаюць два вялікіх валуны. Устаноўлены вертыкальна, на чорнай табліцы мае надпіс на рускай мове: *“Наша боль безутешная, память святая”*. Перад помніках на ляжачых трох таблічках на рускай, беларускай і англійскай мовах змешчаны тэкст: *“Брацкія магілы 4,5 тысяч яўрэяў, палякаў, цыганоў і іншых грамадзян, зверскі забітых нямецкімі акупантамі ў 1941 – 1944 гады”*.

За выключэннем аднаго, усе помнікі ўтрымліваюць тэкст, які адносіцца да безыменных ахвяр розных нацыянальнасцяў. Выключэннем з’яўляецца помнік аўтарства Яраслава Скрыпчыка, фундацыі Рады Аховы Памяці Змагання і Пакутніцтва, які быў выкананы ў Польшчы, узведзены восенню 1999 года.

Ён – напамінак пра палякаў, замардаваных немцамі ў 1942 годзе. Усе элементы помніка, пастаўленыя на бетонную пліту, выкананыя з чорнага мармуру. Вяршыць яго крыж з выгравіраванай пасярэдзіне выявай Маці Божай Вострабрамскай. На цокалі крыжа надпіс на польскай і рускай мовах: *“Памяці палякаў – ахвяраў гітлерызму 1942 год”*. Па абодвух баках крыжа наўскос мармуровыя блокі, на іх надпісы на польскай мове. Па правым баку наступны тэкст: *“Ксяндзы, расстраляныя 4 сакавіка 1942 года: брат Меячыслаў Багаткевіч, брат Уладзіслаў Мацьковяк, брат Станіслаў Пыртэк, беатыфікаваныя 13.06. 1999 года Папам Рымскім Янам Паўлам ІІ. Божа, Ты заклікай святароў Мячыслава, Уладзіслава і Станіслава прамаўляць Евангелле, якому засталіся вернымі аж да сваёй пакутніцкай смерці”*.

На блоку па левым баку: *“Расстраляныя 4 ліпеня 1942 года: ...Ю. Баярскі, Ірэна Бжастоўска, Ірэнэвуш Дабашыньскі, кс. Рамуальд Droнiч, Казімір Эрдман, Эдмунд Ключыньскі, Казімір Красоўскі, кс. Баляслаў Маціеўскі, кс. Адам Масюланіс, Ядвіга Мікульска, Ванда Пілсудска, Юзаф Панятоўскі, кс. Антоній Скурко, Станіслаў Сарока, Уладзіслаў Вячорэк, Адам Васьнеўскі і іншыя”*.

Іншы, невялікіх памераў помнік з чорнага мармуру, пастаўлены на вялікай пліце, якая акружана агароджай з ланцуга, павешанага на слупках, прысвечаны памяці 2500 яўрэяў, расстраляных тут 19 чэрвеня 1942 года немцамі. Надпіс выкананы на мове іўрыт.

Помнік, прысвечаны італьянскім салдатам, якія як палонныя нямецкага Сталагу 351 страцілі жыццё ў выніку бязлітаснага абыходжання і цяжкіх бытавых умоў, уяўляе постаць са спадаючай уніз галавой. Адзіны надпіс: 1941 – 1945 узгадвае гады вайны. Знаходзіцца ён пры дарозе на Полацк, каля вёскі Станулі. У той ваколіцы італьянцы працавалі і кватаравалі.

Цяжка ацаніць на падставе тэксту, з чым канкрэтна звязаны помнік, які знаходзіцца пры ўездзе ў Беразвечча.

Гэта вялізны чырвоны валун, устаноўлены на цокалі. Змешчаная на ім на рускай мове сентэнцыя гаворыць: *“Няхай свет не забудзе аб пралітай крыві. Людская памяць жа незалежная ад часу”*. Яго размяшчэнне можа паказваць, што мова ідзе аб крыві, пралітай на тэрыторыі кляштару ў Беразвеччы, дык аб чыёй крыві і аб якіх віноўніках ідзе гаворка? Віноўнікамі былі ж і нкусаўцы і гітлераўцы. Цяжка ўнікнуць пытання, ці належыць думаць аб адных і другіх? Што перашкаджае, каб ясна напісаць праўду?

На жаль, у Беразвеччы і Глыбокім не часта падымаецца праблема злачынстваў сталінскага перыяду, а гавораць і пішуць аб іх асцярожна ў форме як бы завуаляванай. Гэтай тэмы не любяць расіяне, якіх тут ёсць з часоў вайны досыць шмат. Бянтэжыць яна таксама і беларусаў. Як гэта – ці выпадае дрэнна казаць аб *вызваліцелях з-пад польскага ярма, аб пераможцах над фашызмам?*

На разе аб злачынствах, выкананых НКУСам, не гавораць тутэйшыя помнікі. Нават на помніку ў Мікалаеве пад Улай не можна было напісаць, хто замардаваў ляжачых пад ім. Словы памяці адзіна былі напісаныя на памятнай табліцы, якую сваякі беразвецкіх вязняў прывезлі з Польшчы і пасля асвячэння паставілі ў глыбоцкім касцёле. Потым яна знікла, і колькі гадоў пра яе месцазнаходжанне не было вядома. Паводле свяжэйшых звестак, ашукалася. З 2000 года можна яе ўбачыць у бабінцы касцёла па правым баку пры ўваходзе.

З Беразвеччам у 1939 – 1944 гады звязана была пакута і знішчэнне многіх людзей, у тым ліку жыхароў паўночных ваколіц Віленшчыны. Цягам наступных гадоў канчаткова высветлена, што тут адбываўся генацыд і вядомыя былі яго віноўнікі. Не здолелі, аднак, устанавіць па прозвішчах усіх выканаўцаў генацыду, як таксама ўсіх іх ахвяр.

Падобна, як і паўсюль у Еўропе, хаця значна пазней, у Беразвеччы ўзвялі помнікі з мэтай асуджэння забойстваў і перасцярогі на будучае.

Але чаму не ўсе выканаўцы былі названыя паіменна? Чаму не агучыць усёй праўды, як толькі стала яна вядомай? Крывадушнасць ёсць абражаючая з’ява, аб чым у тым краі ўсе маглі пераканацца. Павярхоўныя, банальныя надпісы на помніках, гаворачыя аб *пралітай крыві*, аб *людской памяці*, быццам гэта пацвярджалі.

Такім чынам, можна дапускаць, што гэта помнікі пераходнага перыяду. *Дэсаветызацыя сумлення, паводзінаў і звычак – гэта цяжкі працэс, які вымагае часу,* можа ледзь толькі пачынаецца. Быць можа, у гэтым знаходзіцца надзея на выхад з кашмару таталітарнага ладу.




**Мемарыяльная шыльда ў памяць загінулых у глыбоцкім касцёле.**

# Пасляслоўе

Калі ў 1944 годзе вярнулася ў Беразвечча савецкая ўлада, СССР як член антыгітлераўскай кааліцыі пераможцаў займаў акупіраваныя немцамі тэрыторыі і ўводзіў свае папярэднія парадкі, цалкам перакананы, што ўяўляе найлепшую ў свеце палітычную мадэль і ёсць мілітарыстычнай і гаспадарчай дзяржавай.

Пакінутая немцамі гаспадарка і абсталяванне Сталагу 351 вельмі адпавядала патрэбам часу. Належала расправіцца са здраднікамі і нямецкімі калабарантамі. НКУС і НКДБ мелі шмат работы, таму ўваскрашэнне турмы ў Беразвеччы наступіла неадкладна.

Яно было патрэбнае ўладам, яна нават не сумняваліся ў гэтым. Дык навошта касцёл? Толькі мяшае і заўсёды стварае нейкія клопаты, можа варта ўвогуле яго пазбавіцца? Рашэнне ў гэтай справе не было для партыі хуткім. Значэнне святыні вымушала яе пакінуць, патрэбна была нейкая выснова. І яе знайшлі.

У мясцовай газеце "Веснік Глыбоччыны" ад 20.06.1997 года піша У. Скрабатун: *"Мясцовыя ўлады абавязалі інжынера райвыканкама Амосенку дастаць адпаведныя дакументы, якія б сцвярджалі, што беразвецкая царква знаходзіцца ў аварыйным стане, становіцца небяспечнай для адпраўлення набажэнстваў і падлягае разборцы"*. Падобна, што Амосенка не хацеў выдаць такой рэкамендацыі, але вымусілі яго. Вельмі перажываў за сваё рашэнне, хутка потым захварэў і памёр.

Да разборкі праўдападобна прыступілі ў пяцідзесятыя гады, нялёгка было разбурыць той магутны і салідны будынак. Для гэтага задзейнічалі рукі вязняў і патрэбную тэхніку.

Прафесар Станіслаў Лорэнц піша, што на вестку аб намеры ліквідацыі прыгожага беразвецкага аб'екту спрабаваў умешвацца, але безвынікова.

Цяперашнія жыхары Глыбокага глядзяць на тое, што засталося на месцы даўняга кляштару і касцёла. і з болем сэрца пытаюцца: *"Як можна было падняць руку на такую прыгажосць?"*.

У. Скрабатун піша, што размаўляў з жыхарамі Глыбокага на тэму былой святыні. Як каталікі, так і праваслаўныя аднолькава згодна сцвярджалі: *"Немагчыма, каб такі прыгожы аб'ект застаўся недабудаваным, хутка ва ўсёй Расіі адновяць цэрквы..."* Не ставілі пытання, да каго павінен ён належыць – да каталікоў, ці да праваслаўных, усе хацелі тое пачынанне падтрымаць".

Ёсць шмат энтузіястаў, якія не уяўляюць, каб не было гэта магчымым. Падобна, што сабрана ўжо шмат матэрыялаў, якія

датычаць архітэктуры аб'екта і збіраюць яго далей, каб наблізіць ажыццяўленне гэтага намеру. Аптымісты разлічваюць на міжнародную дапамогу, на UNESCO (ЮНЭСКА), Ватыкан…

На жаль, здаецца, што тыя шляхетныя ініцыятывы ў цяперашняй сітуацыі ў Беларусі належыць ацаніць, як мала рэалістычныя. Мізэрны шанс на тое, каб у якімсьці акрэсленым часе тыя, сапраўды летуценныя, праекты сталі сур'ёзна задзейнічанымі праз кампетэнтных органы.

Аднак гэта задума жыва закранае людскія розумы і будзіць надзею. Такім чынам, будзе па-людску, калі трагічную гісторыю Беразвечча закрыем вядомай сентэнцыяй: *Contra spem spero!*

*Быдгошч, красавік 2000 года.*

# Змест